



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

7 ВЕРАСНЯ 2001г. № 36/4120 КОШТ 130 РУБ.




**Пётр Мсціславец вярнуўся дамоў назаўсёды...**

*Горад Мсціслаў, верасень 2001 г.*



# КОЛА ДЗЁН

***Застаўся ўсяго адзін дзень да 9 верасня, калі адбудуцца выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Кандыдатаў на гэтую высокую пасаду на фінішнай прамой трое: Сяргей Гайдукевіч, Уладзімір Ганчарык і Аляксандр Лукашэнка. Усе выступаюць за незалежнасць, за дабрабыт і за цеснае супрацоўніцтва з Расіяй. Праўда, кожны з кандыдатаў у прэзідэнты гэта разумее па-свойму, у чым можна было пераканацца, пазнаёміўшыся з іх перадвыбарнымі праграмамі, паслухаўшы выступленні па радыё і тэлебачанні.***

***Да выбараў застаўся ўсяго адзін дзень.***

***Зрабіце правільны выбар!***

### *ПАДВЫШКА ТЫДНЯ*

У верасні 2001 года органамі сацыяльнай абароны будзе праведзены чарговы перараздік пенсій. Падставай для перараздіку стаў рост сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у ліпені г. г. у параўнанні з яе велічынёй у чэрвені, які склаў 11,4 працэнта. Пры пераразліку пенсій у верасні для карэкціроўкі фактычнага заробку пенсіянераў будзе выкарыстоўвацца сярэдняя заработная плата рабочых *і служачых за ліпень 2001 г., якая склала 144.817 рублёў.* Мінімальная працоўная пенсія разам з даплатай, якая ўстаноўлена ў памеры 15 працэнтаў і прымяняецца для пераразліку пенсій сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у краіне, у верасні складзе 34.710 руб. Пенсіі непрацуючых пенсіянераў у залежнасці ад наяўнага ў іх стажу і індывідуальнага каэфіцыента іх заробку, прынятага для налічэння пенсіі, у верасні могуць складаць ад 34.710 рублёў да 106.984 руб. У працуючых пенсіянераў, пенсіі якім налічаны з улікам стажу 40 гадоў у жанчын, 45 гадоў у мужчын пры індывідуальным каэфіцыенце заробку 2,3 і вышэй, памер пенсіі ў верасні складзе 77.658 руб. Праўда, для некага гэта нядрэнныя грошы, а для некага і 500 долараў — капейкі, бо адны ядуць часцей за ўсё хлеб і малако, а другія ходзяць па рэстаранах...

### *ПАСТАНОВА ТЫДНЯ*

Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ярмошын падпісаў пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, згодна з якой Беларускаму дзяржаўнаму акадэмічнаму драматычнаму тэатру імя Якуба Коласа нададзены статус "нацыянальны" і ў далейшым ён будзе называцца "Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа". Віншуем!

### *СУПАКАЕННЕ ТЫДНЯ*

У друку з'явілася інфармацыя ад упраўлення Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, згодна з якой плата за камунальныя паслугі жылля з пачаткам ацяпляльнага сезона ў нашай краіне не ўзрасце. Гэта, як сцвярджае ўпраўленне міністэрства, абумоўлена тым, што цяперашнія тарыфы для насельніцтва адпавядаюць прадугледжанаму законам узроўню пакрыцця грамадзянамі затрат на гэтыя паслугі. Але, як кажуць, зіма вялікая, і што там будзе — ніхто не ведае, а тое, што цэны на месцы не будуць стаяць, то пра гэта здагадваюцца ўсе...

### *НОВАЕ ТЫДНЯ*

Як паведаміў "Інтэрфакс", ААТ "Белмедпрэпараты" ў гэтым годзе пачынае выпуск новага прэпарата "Фаталон" для лячэння ракавых пухлін. Для разбурэння пухліны ў кроў пацыента ўводзяць раствор гэтага прэпарата. Праз 2—3 гадзіны пухліну апрамяняюць лазерным святлом. Праз 5-15 хвілін назіраецца поўнае разбурэнне ракавых клетак у 86 працэнтаў выпадкаў, станоўчы эфект адзначаны ў 100 працэнтаў хворых. Прэпарат нізкатаксічны, і праз 1—2 сутак у арганізме не назіраецца слядоў "Фаталона". Зацікаўленасць у набыцці гэтага прэпарата выказалі медыцынскія ўстановы Расіі, Германіі і Ірландыі. Кошт адной дозы выпускаемага ў ЗША аналага "Фаталона" складае каля 2,5 тысячы долараў. Цэны на беларускі прэпарат мяркуюцца быць у дзесяткі разоў меншымі. Дай то Бог!

### *ВЫДВАРЭННЕ ТЫДНЯ*

Персонамі нон-грата бываюць не толькі дыпламаты, але і звычайныя замежныя грамадзяне, якія парушаюць законы краіны, у якую прыехалі. Адразу сем грамадзян Узбекістана сталі ў Брэсце персонамі нон-грата. На працягу пяці гадоў ім забаронены ўезд не толькі ў Брэст, але і на тэрыторыю Беларусі. Такая мера была прымянена да іх за парушэнне правілаў гандлю на калгасным рынку, дзе ўзбекі гандлявалі кавунамі, дынямі, сухафруктамі без ліцэнзіі. Паводле дадзеных абласной пашпартна-візавай службы, толькі з пачатку гэтага года з Брэстчыны былі выдвараны 42 замежнікі. Сярод іх ёсць в'етнамцы, палякі, егіпцяне, малдаване, бельгійцы і немцы. Словам, з замежнымі парушальнікамі нашых законаў у нас не цацкаюцца.

### *УЗНАГАРОДА ТЫДНЯ*

Аўтобус вялікай умяшчальнасці "МАЗ-107", прадстаўлены філіялам Мінскага аўтамабільнага завода на пятым Расійскім міжнародным аўтасалоне ў Маскве, атрымаў першае месца ў намінацыі "Прыз наведвальнікаў аўтасалона". За атрыманне гэтай узнагароды змагаліся адзінаццаць прэтэндэнтаў з усяго свету. Значыць, нешта можам, як і раней, зрабіць такое, чаго не могуць іншыя...

### *БАГАЦЦЕ ТЫДНЯ*

Мінулы год у нашай краіне быў вельмі багаты на яблыкі. Але, як кажуць, год на год не прыходзіцца. І сёлета яблыкаў у Беларусі паспела нашмат меней, і асабліва ў Магілёўскай, Віцебскай і Гомельскай абласцях. На неўраджай могуць не скардзіцца толькі ў Брэсцкай вобласці, дзе ў насельніцтва закуплена больш за 10 тысяч тон яблыкаў. Кіраўніцтва Белкаапсаюза плануе сёлета купіць у насельніцтва каля 50-60 тон. Аднак прымаюцца яблыкі па 20-30 рублёў за кілаграм, таму даводзіцца чуць ад вяскоўцаў, што за такія грошы лепей гэтыя яблыкі аддаць сваім свінням і будзе ад гэтага болей карысці. Але ўжо тут кожны гаспадар вырашае сам, што яму рабіць. І ўсё ж...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Кніжная выстаўка, прысвечаная 65-годдзю Генадзя Бураўкіна, афармлена ў бібліятэцы СБП. На ёй прадстаўлены паэтычныя зборнікі, матэрыялы перыёдыкі, якія распавядаюць пра жыццёвы і творчы шлях Г. Бураўкіна, публіцыстыка паэта.

●

Днямі ў Доме дружбы адбылося адкрыццё месячніка беларуска-кітайскай дружбы. Старшыня таварыства "Беларусь—Кітай" паэт Анатоль Вярцінскі гаварыў пра ўсё большую цікавасць маладога пакалення беларусаў да кітайскай мовы, літаратуры, гісторыі, культуры. Пасол КНР у Рэспубліцы Беларусь спадарыня У Сяо Цю распавяла пра супрацоўніцтва паміж нашымі дзвюма краінамі, пра неабходнасць як мага лепей ведаць адно аднаго. У рамках месячніка запланаваны гастролі кітайскага цырка ў Мінску, выстава кітайскай керамікі ў Нацыянальным мастацкім музеі РБ, прэзентацыя часопіса "Всемирная литература", цалкам прысвечанага кітайскай літаратуры, Дні кітайскага кіно, што пройдуць з 8 па 30 верасня ў кінатэатрах сталіцы. Дэманстраваліся дакументальныя фільмы пра гісторыю і сённяшні дзень усходняй краіны.

**Марыя РУДОВІЧ**

●

Шмат людзей сабралася ў актавай зале рэспубліканскага інтэрната для ветэранаў вайны і працы, каб ушанаваць 95-годдзе пісьменніка і навукоўца Ігната Дубdroўскага. Павіншаваць свайго калегу з паважнай датай прыехалі В. Праўдзін, Н. Гальпяровіч, А. Савіцкі, Я. Каршукоў, В. Сабаленка. Яны сказалі нямала ўзнёслых слоў у адрас юбіляра, уручылі яму прыгожы букет кветак і ганаровую грамату Саюза беларускіх пісьменнікаў.

●

У Шаркоўшчынскім Доме культуры, што на Віцебшчыне, адбылася прэзентацыя першай кнігі паэткі Кацярыны Сосны "Імгненні жыцця". Намеснік старшыні райвыканкама Галіна Волах павіншавала паэтку і ўручыла ад імя мясцовых уладаў Ганаровую грамату. Намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Віктар Праўдзін у сваім выступленні адзначыў самабытны талент паэткі і зычыў ёй новых творчых поспехаў. Галоўны рэдактар раённай газеты "Кліч Радзімы" Эдуард Корсак расказаў пра жыццёвы і творчы шлях Кацярыны Сосны.

На прэзентацыі прысутнічалі сябры літаратурнага аб'яднання "Світанак" Віктар Лагун, Міледзій Кукуць, Ала Клакоўская, Надзея Паляк. Яны шмат цёплых слоў сказалі ў адрас Кацярыны Сосны, а сын паэткі Валеры спяваў на матчыны словы песні, музыку да якіх напісаў ён сам.

**Н. К.**

●

На традыцыйную сустрэчу са школьнікамі горада ў пісьменніцкую бібліятэку сабраліся аматары творчасці Віталя Вольскага, яго родныя і блізкія. Гэты своеасаблівы ўрок літаратуры быў прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння пісьменніка. Пра жыццёвы і творчы шлях В. Вольскага гаварылі Маргарыта Яфімава і Вячаслаў Чамярыцкі. Сваімі ўспамінамі пра бацьку і дзеда падзяліліся Гарольд і Лявон Вольскія.

Заслужаная артыстка Беларусі Ларыса Горцава прачытала верш А. Вольскага, прысвечаны бацьку.

●

На сядзібе пісьменніка, гісторыка, краязнаўца Анатоля Белага ў Старых Дарогах адбылося адкрыццё помніка Максіму Багдановічу работы скульптара С. Вакара, у якім узяла ўдзел старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.

ПАДЗЕЯ

# Пад зоркай Пятра Мсціслаўца

Старажытны Мсціслаў прыкметна пахарашэў. Той, хто пабываў тут яшчэ пару месяцаў таму, мог і не пазнаць гэты горад — акуратныя са свежым асфальтам вуліцы, прыгожыя ліхтары на цэнтральнай плошчы, чысцютка прыбраныя дворыкі, адрэстаўраваныя будынкі.

Але самым галоўным упрыгожаннем Мсціслава стаў помнік славутаму земляку, адкрыццё якога было галоўнай кульмінацыяй прайшоўшага свята беларускага пісьменства.

Адбылося яно пасля гістарычнага прадстаўлення "Ад нашых дзён да часоў першаасветнікаў", сцэнарый да якога быў напісаны Вольгай Іпатавай, якая, дарэчы, узначальвала ў гэты дзень "пісьменніцкі дэсант".

Ганаровае права адкрыць помнік было прадастаўлена Прэзідэнту краіны Аляксандру Лукашэнку, які разам з Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам і старшынёй Магілёўскага аблвыканкама Барысам Батурам скінулі покрыва з бронзавага манумента.

Затым цэнтральнай сцэнай "авалодалі" пісьменнікі. Перад гараджанамі і гасцямі Мсціслава выступілі Вольга Іпатава, Раіса Баравікова, Навум Гальпяровіч, Сяргей Давідовіч, Галіна Каржанеўская, Уладзімір Ліпскі, Алесь Пашкевіч, Алесь Пісьмянкоў, Павел Саковіч.

Дарэчы, пісьменнікі выступілі і на іншых пляцоўках. Сустрэліся з мсціслаўцамі таксама Анатоль Бутэвіч, Алесь Камароўскі, Мікола Маляўка, Мікола Чарняўскі, Яўген Хвалей, Уладзімір Ягоўдзік.

Увогуле, Мсціслаў нагадваў яркі, сонечны, шматфарбны кірмаш. І добра, што на ім уладарылі беларускае слова, наша гісторыя і культура.

**Нічыпар ЧАРНЫШ**

# По дарозе да святыняў

Ад Мінскага кафедральнага сабора ў восьмы раз пачала свой шлях па нашай краіне Рэспубліканская навукова-практычная экспедыцыя "Дарога да святыняў" з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподня — вялікая духоўная акцыя, якая прайшла сёлета праз Слуцк, Старыя Дарогі, Бабруйск, Рагачоў, Слаўгарад, Чэрыкаў, Крычаў і натуральным чынам далучылася да Свята беларускага пісьменства і друку. У акцыі ўзялі ўдзел духоўныя экспедыцыі захавальнік Непагаснай Лампады з Благадатным Агнём кандыдат багаслоўскіх навук протаіерэй Сергій Гардун, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, кавалер ордэна святой Вольгі пісьменніца Ніна Загорская, паэты Браніслаў Спрынчан і Вадзім Спрынчан, фотажурналіст Яўген Пясецкі, доктар філалагічных навук Іван Чарота, кандыдат філалагічных навук перакладчык Міхаіл Кенька, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне" Алена Яскевіч, акадэмік Аляксандр Падлужны, святары, скульптары, навукоўцы, мастакі, журналісты, прадстаўнікі грамадскасці. Паўсюдна Непагасную Лампаду сустракалі тысячы вернікаў, праходзілі набажэнствы, выступленні літаратараў, падчас якіх ішла гаворка пра жыватворныя карані хрысціянства ў нашай культуры і літаратуры, гучалі вершы ў выкананні народнай артысткі Рэспублікі Беларусь Марыі Захарэвіч. У Слуцку, ля помніка святой Сафіі Слуцкай, творцы дзяліліся думкамі пра мінуўшчыну і дзень сённяшні, у Крычаве прысутнічалі на адкрыцці вуліцы імя Васіля Вашчылы, у Рагачове ўзялі ўдзел у рабоце настаўніцкай канферэнцыі, а ў Бабруйску — у хросным ходзе па вуліцы Мінскай да аднаўленага храма святога Георгія, у Слаўгарадзе мелі гутарку з айцом Міхаілам Мядзёлкам, які быў добра знаёмы са славутай Палінай Мядзёлкай. Паўсюдна гучала беларуская мова, яскрава выяўлялася глыбокая зацікаўленасць грамадскасці лёсам Бацькаўшчыны. Завяршылася акцыя ў Мсціславе, ля помніка Пятру Мсціслаўцу.

АНОНС

# Распавесці ёсць пра што...

Учора ў вялікім доме, што на Траецкай гары ў Мінску, было свята: адкрываў свой 69-ы сезон Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі. Адкрываў спектаклем "Князь Ігар", прымеркаваным, як мы паведамлялі раней, да 65-годдзя вядучага саліста, народнага артыста СССР Аркадзя Саўчанкі. Пра далейшыя планы тэатра яго кіраўніцтва абяцае распавесці журналістам 11 верасня. На гэты дзень прызначана прэс-канферэнцыя, прысвечаная вынікам летніх гастроляў беларускай опернай трупы ў Швейцарыі ды Германіі, а таксама творчаму жыццю калектыву ў новым сезоне.

Праўдзіць сустрэчу з прэсай мастацкі кіраўнік Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі Сяргей Картэс і галоўны дырыжор Аляксандр Анісімаў. Пра што распавядуць яны ды іншыя артысты, запрошаныя на прэс-канферэнцыю, мы паведамім чытачам праз тыдзень. Але ўжо сёння можам анансаваць падзею, што мае адбыцца 29 верасня. На гэты вечар замоўлены спектакль "Аіда", прысвечаны 20-годдзю творчай дзейнасці знанай опернай салісткі Наталлі Рудневай. Яна выканае адну з лепшых сваіх партый — Амнерыс. Дарэчы, Наталля Руднева — сёння адзіная ў тэатры спявачка са званнем народнай артысткі Беларусі... На гэтым здымку яна — у ролі Кармэн.

**С. Б.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



# Паўстаў Агінскі ў бронзе...

Сонечны дзень першага верасня сабраў ля будынка Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага шмат народу, у тым ліку высокіх афіцыйных асоб. Сярод іх — старшыня Мінскага аблвыканкама М. Дамашкевіч, міністр культуры Беларусі Л. Гуляка, мэр Маладзечна М. Чурсін, а таксама гасцей ад шэрагу замежных прадстаўніцтваў у Рэспубліцы Беларусь. З дынамікаў гучала ўзнёслая музыка, ствараючы святочны настрой. Нагода для свята сапраўды мелася, і вельмі значная: адкрыццё помніка, першага на Беларусі ды й у свеце, славутаму беларускаму (як мы цяпер можам казаць без лішняй сціпласці) кампазітару, выдатнаму дзяржаўнаму дзеячу Міхалу Клеафасу Агінскаму.

Цікавасць да асобы, лёсу і творчай спадчыны Агінскага на працягу апошняга дзесяцігоддзя прыкметна ўзрасла. Можна прыгадаць, напрыклад, што ў свой час знакаміты паланез "Развітанне з Радзімай" нават разглядаўся ў якасці варыянта новага Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Не прайшло незаўважаным нядаўняе выданне кнігі нашчадка Міхала Клеафаса — Анджэя Залускага, што дазволіла крыху па-новаму зірнуць на добра, здавалася б, знаёмую постаць нашага земляка. Пашыраецца паломніцтва аматараў творчасці Агінскага ў Залессе, дзе вядзецца руплівая праца па рэстаўрацыі палаца і добраўпарадкаванні няблага захаванага парку (дарэчы, улетку ў гэтую дзейнасць зрабіла значны ўнёсак грамадская арганізацыя "Беларускі зялёны крыж" пад прафесійным наглядам захавальніка парку У. Ляхоты). Такім чынам, ужо сама ідэя стварэння помніка Агінскаму як своеасаблівы знак гістарычнай справядлівасці выглядала цалкам слушнай і своечасовай.

Маладзечна як месца размяшчэння помніка таксама не выклікала асаблівых пытанняў. Папершае, менавіта маладзечанскі дзядзька Міхала Клеафаса — Францішак Ксаверы Агінскі падарыў пляменніку маёнтак Залессе, што знаходзіцца непадалёк ад горада. У Залессі кампазітар правёў дваццаць, напэўна, найбольш плённых гадоў свайго жыцця. Ну, а па-другое, Маладзечна сёння можна назваць буйным культурным асяродкам калі не ў маштабах усёй Беларусі, дык Міншчыны — безумоўна.

Між тым, ад нараджэння ідэі, адным з аўтараў якой і самым апантаным прыхільнікам з'яўляецца дырэктар згаданага музычнага вучылішча Рыгор Сарока, да яе паспяховай рэалізацыі прайшло складаных 5 гадоў. І толькі незвычайная ўпартасць Р. Сарокі, што знайшла, урэшце, падтрымку ўладаў, а таксама шчырая дапамога многіх добраахвотнікаў (грошы, напрыклад, ахвяравалі нават пенсіянеры) дазволілі пераадолець усе перашкоды. І вось бронзавы Агінскі (працы вядомага скульптара Валяр'яна Янушкевіча), малады, натхнёны і летуценны, заняў пачэснае месца на высокім мармуровым цокалі, у прыгожым зялёным кутку Маладзечна, ля храма музыкі, каб нагадваць будучым творцам просты запавет, афарыстычна выказаны ў прамове таго ж В. Янушкевіча: "Трымайцеся **свайго** мастацтва і шануйце сваю Радзіму".

Дарэчы, амаль усе выступоўцы адзначылі высокую мастацкую вартасць помніка, які мог бы "ўпрыгожыць любую сталіцу Еўропы". Калі гэта і перабольшанне, то невялікае.

Потым адбыўся шыкоўны канцэрт сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам Р. Сарокі — своеасаблівае музычнае падарожжа па краінах, дзе бываў Агінскі.

Адзіным эпізодам, які крыху азмрочыў святочнасць моманту, сталася затрыманне міліцыяй нейкага хлопца, які разгарнуў ля помніка бел-чырвона-белы сцяг. Гэтаму папярэднічала ўскладанне да пастамента групай маладых хлопцаў і дзяўчат кошыка з кветкамі, перавітага стужкаю тых жа колераў. Здаецца, паразумення уладаў і нацыянальна свядомай моладзі не атрымалася — але ж Бог суддзя, не Агінскі тут віною...

**Аляксей ЖБАНАЎ**

*Фота А. КАЛЯДЫ*

# Кніжны кірмаш у Маскве

5 верасня адбылося ўрачыстае адкрыццё Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, на якой сярод васьмідзесяці краін-удзельніц прадстаўлены стэнды і беларускіх выдавецтваў. Акрамя выданняў дзяржаўнага унітарнага прадпрыемства "Белкніга", на выставе экспануецца прадукцыя больш як сорак беларускіх прыватных выдаўцоў. Асабліва прывабліва выглядаюць кірмашовыя стэнды, дзе выстаўлены кнігі выдавецтваў "Тэхналогія", "Амалфея", " Парадокс", "Чатыры чвэрці" ды іншых.

У выставе прымаюць удзел прадстаўнікі Дзяржкамдруку рэспублікі, якія пільна цікавяцца творамі замежных пісьменнікаў з мэтаю набыцця аўтарскіх правоў на пераклад і выданне гэтых кніг у Беларусі.

Выстава-кірмаш працягнецца да 9 верасня ўключна; мяркуецца, што яе наведаюць больш за мільён спецыялістаў выдавецкай справы і аматараў-бібліяфілаў.

**АГА**

# Таямніцы творчасці

Так называлася Свята кнігі, якое адбылося ў Залескай школе Вілейскага раёна. Назва невыпадковая: госцю, пісьменніку Леаніду Левановічу давялося адказваць на шматлікія пытанні, звязаныя з літаратурай. А потым рэцэнзаваць творы вучняў і настаўнікаў, бо сярод іх нямала аматараў прыгожага пісьменства. Вядома ж, творам пачаткоўцаў не стае дасканаласці, іх аўтарам — майстэрства, затое колькі ў іх шчырасці і непасрэднасці!

Чыталі свае вершы і апавяданні сямікласнік Юра Пякарскі, настаўнік англійскай мовы Юрый Базыкін. Ды і дырэктар школы, Міхаіл Шкадун, фізік па адукацыі, вельмі шануе мастацкую літаратуру. Рыхтавалі ж свята настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Жана Вайцяхоўская і Галіна Майхерская. Вучні выявілі не толькі свае літаратурныя здольнасці, яны зрабілі малюнкі, своеасаблівыя ілюстрацыі да кнігі Левановіча "Якар надзеі". Самадзейныя артысты школы выступілі з канцэртамі.

У Залескай школы даўняя дружба з беларускімі пісьменнікамі. У свой час тут гасцявалі Янка Брыль, Алесь Ставер і інш.

На развітанне Л. Левановіч падарыў школьнай бібліятэцы некалькі сваіх кніг з аўтографам.

**Наш кар.**

АБСЯГІ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### Наваселле ў бібліятэцы

У абласной універсальнай бібліятэцы — тысячы ўдзячных чытачоў. Яна з'яўляецца метадычным цэнтрам для бібліятэчных работнікаў Гомельшчыны. Тут рэгулярна праходзяць цікавыя літаратурныя і музычныя вечарыны. Цікава, што будынак бібліятэкі быў узведзены ў першыя гады пасля Вялікай Айчыннай і не адпавядаў патрабаванням сённяшняга дня. Нават рэдкія унікальныя кнігі захоўваліся ў сутарэннях. Прыемна, што становішча змянілася. Гэтымі днямі была здадзена прыбудова да старога корпуса, дзе размясціліся вялікія чытальныя залы, утульныя холы, многія бібліятэчныя аддзелы, інфармацыйнааналітычны цэнтр, зручныя падсобныя памяшканні. А дзесяць камп'ютэраў (палова з наяўных) падключаны да сеткі Інтэрнэта.

### Калі ласка, у цырк!

Вялікім шоу "Фантом-тропік" распачаў чарговы сезон Гомельскі дзяржаўны цырк. У прадстаўленнях: экзатычныя звяры, рэптыліі з джунгляў Амазонкі, атракцыёны "Малітва пад купалам", "Блакітная фантазія", "Мядзведзі на дэльтаплане", балет "Імперыя танца" і, натуральна, — клоуны.

### У гасцёўні — паэзія і проза

Кожны раз чытачы "Гомельскай праўды", аматары паэзіі і прозы з нецярпеннем чакаюць спецыяльнага выпуску "Літаратурнай гасцёўні" пад рэдакцыяй паэтэсы і журналісткі Тамары Кручэнкі. Абласная газета ў гэтым спецвыпуску друкуе творы як сталых пісьменнікаў, так і таленавітай моладзі. Чарговая "гасцёўня" таксама парадавала аматараў літаратуры. У ёй змешчаны апавяданні "Памяць" Міхася Даніленкі, "Чарнобыльскія яблыкі" Юрыя Максіменкі, вершы Мікалая Старчанкі, Ганны Атрошчанкі, Валянціны Пранкевіч, Юрыя Рыдкіна...

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА...

### Таленты вёсцы пазычаць не трэба

Раённы "Кірмаш талентаў" прайшоў у вёсцы Гуды, што паблізу Ліды. Хоць і выступалі тут не самыя знакамітыя калектывы і выканаўцы, але слухачы засталіся задаволенымі. Добры мастацкі густ паказалі гурт "Забава", які працуе пры Дубровенскім сельскім Доме культуры, салісты Леакадзія Волчак і яе сын Віктар з Касоўшчыны, музыканты Антон Васкель і Станіслаў Лябецкі з Парэчча ды іншыя.

### Сенца Міцкевіча

Прэм'ера фільма "Міцкевічава сенца" адбылася ў Воранаве. Нарадзіўся гэты самабытны твор на падставе традыцыі, што ўсталявалася ў мястэчку Беняконі, у ваколіцах якога сустракаліся Адам Міцкевіч і Марыля Верашчака. Вось ужо каторы год у гэтых мясцінах прыхільнікі вялікага паэта нарыхтоўваюць мурожнае сена для калядных урачыстасцяў у сябе дома і для куцці-вігіліі ў мінскім Чырвоным касцёле. На прэм'еры фільма прысутнічаў адзін са стваральнікаў стужкі, кіраўнік сталічнага ансамбля "Чырвоныя макі" Тадэвуш Галаўня.

### У Прынямонне па песні

Фальклорная спадчына Прынямоння багата прадстаўлена ў кнізе "170 беларускіх народных песень Гродзеншчыны, запісаных М. Баяровічам". Аўтар зборніка — шматгадовы дырэктар Лідскага музвучылішча, зараз пенсіянер. У маладыя гады Мар'ян Андрэевіч не раз выпраўляўся ў творчыя вандроўкі па вёсках вобласці і запісваў ад сялянаў народныя песні.

Дарэчы, гэта другі спеўнік няўрымслівага чалавека, выдадзены сёлета ў Гродне. Першы ж пабачыў свет у Мінску.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### З увагай да рэлігіі

У Касцюковічах адбылося пасяджэнне раённага выканаўчага камітэта, дзе было разгледжана пытанне "Аб рэлігійнай сітуацыі ў раёне". Касцюковіцкі райвыканкам першым у вобласці паставіў гэтае пытанне на парадак дня, і за гэта яму трэба аддаць належнае: неабходна рэальна ацэньваць працэсы, што адбываюцца ў духоўным развіцці грамадства.

У Касцюковічах пры актыўнай дапамозе райвыканкама ў кароткі тэрмін пабудаваны праваслаўны храм. Менавіта хрысціянскія суполкі з'яўляюцца тут найбольш шматлікімі. Вернікі — надзейная апора грамады пры вырашэнні сацыяльных і іншых задач.

Сёння ў Магілёўскай вобласці — 179 рэлігійных суполак розных канфесій і веравызнанняў, з якіх 69 прадстаўляюць Беларускую праваслаўную царкву. Што тычыцца нашага раёна, то тут шэсць рэлігійных суполак, з якіх тры праваслаўныя, адна рымска-каталіцкая, дзве хрысціян веры евангельскай. Зараз праходзіць рэгістрацыю абшчына евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Дзейнічаюць таксама прадстаўнікі пакуль незарэгістраванай арганізацыі Сведкаў Іеговы, а таксама Адвентыстаў сёмага дня.

На сучасным этапе ўзраслі сацыяльныя функцыі царквы: дабрачыннасць, міласэрнасць, асветніцтва. Таму задача мясцовых органаў улады — весці прадуманую дзяржаўную палітыку ў адносінах да канфесій і рэлігійных арганізацый. Аддзелу адукацыі даручана пакуль абмяжоўваць дзейнасць рэлігійных актывістаў у навучальных установах, дзіцячых лагерах адпачынку. Кантроль за дзейнасцю рэлігійных канфесій у раёне ўскладзены на намесніка старшыні райвыканкама В. Мар'ева.

**Уладзімір КАПАЕЎ**

## МІНШЧЫНА

### Юбілейны канцэрт "Ліцвінаў"

Як паведамлялася ўжо, 5 верасня ў Мінску ў Доме культуры трактарнага завода адбыўся юбілейны канцэрт "Ліцвінам — 10 гадоў".

Гэты адзін з самых вядомых фальклорных калектываў Беларусі атрымаў сваю назву выпадкова. 10 гадоў таму на адным з першых выступаў тады безыменнага гурта "Ліцвінамі" яго назваў канферансье, дацяміўшы, што "без назвы выступаць нельга".

Музыкі з "Ліцвінаў" выкарыстоўваюць унікальныя і амаль забытыя музычныя інструменты. Прыкладам, гэта этнаграфічныя цымбалы маладзечанскай і вілейскай традыцый з неакадэмічным гучаннем, трохрадны гармонік "Петраградка". Ёсць яшчэ вясковыя дудкі ды скрыпкі... Рэпертуар "Ліцвінаў" — народныя песні, абрадавая і танцавальная музыка. Дарэчы, менавіта "Ліцвіны", як мяркуецца, будуць запрошаныя граць разам з легендарнымі "Песнярамі" ў тэатры гэтага гурта, стварэннем якога займаецца Уладзімір Мулявін.

**К. П.**

## *Хто ёсць хто ў Беларусі?*




**5 верасня ў музеі Янкі Купалы адбылася прэзентацыя новага біяграфічнага даведніка "Хто ёсць хто ў Беларусі. 2001". Папярэднія зборнікі такога кщталту раней выдаваліся па-за межамі Беларусі — у 1999 годзе ў Маскве, а летась — у Беластоку.**

***На прэзентацыю прыйшлі каля трыццаці карэспандэнтаў дзяржаўных і незалежных выданняў, прадстаўнікоў грамадскасці.***

**Даведнік выйшаў дзякуючы ініцыятыве і высілкам Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Беларуская перспектыва" — няўрадавай, некамерцыйнай арганізацыі, дзейнасць якой скіравана на стварэнне ў Беларусі грамадзянскай супольнасці, на распаўсюджванне сярод насельніцтва, перш за ўсё правінцыі, інфармацыі пра дэмакратычныя каштоўнасці, рынкавую эканоміку, правы чалавека і да т. п.**

**"Дзякуючы гэтаму выданню, — сказала, распачынаючы прэзентацыю, старшыня "Беларускай перспектывы" Валянціна Трыгубовіч, — незалежная Беларусь прычынілася да сойму цывілізаваных краін, дзе даведнікі такога кштaлту выдаюцца здавён аб'ёмам у сотні друкарскіх аркушаў, з дзесяткам тысяч згаданых імёнаў. Мы прапануем пазнаёміцца з біяграфіямі недзе 400 прадстаўнікоў палітычных і бізнесовых колаў Беларусі, дзеячамі яе культуры і навукі, лідэрамі няўрадавых арганізацый і журналістамі, каторыя ў той ці іншай меры ўплываюць на сітуацыю ў дзяржаве і на грамадскае меркаванне вакол яе".**

**Вядома, спіс гэты няпоўны, як і прадстаўленыя звесткі. Складальнікі даведніка імкнуліся, па іх словах, прыцягнуць да ўдзелу ў выданні першых асоб у кожным структурным фарміраванні, няхай сабе гэта Адміністрацыя прэзідэнта, партыя альбо маладзёвая арганізацыя, як мага шырэй прадставіць спектр палітычных накірункаў — ад прыхільнікаў камуністычных ідэй да ліберальна-*рынкавых, паказаць фармальных і* нефармальных лідэраў краіны.**

**Не ўсё задуманае спраўдзілася. У нейкіх выпадках кандыдаты на ўключэнне ў даведнік прасілі (найчасцей бізнесоўцы) абысці іх увагаю, баючыся празмернай цікавасці да сябе з боку крыміналу, у іншых — афіцыйныя асобы не мелі жадання супрацоўнічаць з недзяржаўнай выдавецкай групай.**

**Звесткі, пададзеныя ў даведніку "Хто ёсць хто ў Беларусі. 2001", у бальшыні сваёй узяты з адкрытых крыніц у друку альбо атрыманы пры анкетаванні "абранцаў". Трэба зазначыць, што інфармацыя пра людзей уладных у нашым друку вельмі скупая і аднабокая, ды і не пра кожнага яе знойдзеш — прызначэнцы ў апошні час наогул выглядаюць людзьмі без роду-племені і кар'ернай "лесвіцы": у афіцыйным друку паведамляецца толькі, што ўказам прэзідэнта той і той прызначаны на пасаду. Закрытасць улады ад грамадства не на карысць ні ўладзе, ні грамадству. Таму ў новым даведніку вырашана змясціць звесткі пра дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і Нацыянальнага сходу, хаця яны і недастаткова дэталізаваныя.**

**Хаця былі выпадкі, жартам прызналіся складальнікі, калі "абранцы" так ахвотна адказвалі на пытанні анкеты, што гатовы былі ўнесці туды звесткі пра цешчу і любімага сабаку...**

**Напісанне імён і прозвішчаў у даведніку падаецца ў руска-, беларуска- і англамоўным варыянтах, прычым англамоўны варыянт — у беларускай транслітарацыі.**

**"Хто ёсць хто ў Беларусі. 2001" надрукаваны накладам 1000 асобнікаў дабрачынным кштaлтам у выдавецтве "Мэджык-Бук" і неўзабаве з'явіцца ў свабодным продажы на паліцах ягонай фірмовай кнігарні.**

**АГА**

ВАРУНКІ

# Камяні, кроны і карані...

З галоўным ляснічым Калінкавіцкага лясгаса Міхаілам Піліпейкам кіруем у Азарычы. Ужо з раніцы добра паліць, сёння, відаць, таксама будзе за 30 гарачыні, таму трэба скарыстоўваць спрыяльны час больш ашчадна, а паспець нам за гэтыя два дні багата дзе трэба. Калінкавіцкі лясгас — гаспадарка вялікая, плануем пабываць у розных закутках, каб склалася пра яго тое ўражанне, якога ён і заслугоўвае. Яшчэ ў кабінеце дырэктара лясгаса Івана Піліпца мы ўдакладнілі маршрут, і вось цяпер трасёмся ў кабіне "ўазіка" галоўнага ляснічага. Ён на правах гаспадара спераду, да нас сядзіць напаўабароту і скардзіцца, што у яго роднай вёсцы Насовічы, у людзей не спытаўшы, выразалі на паркет дуброву, якая займала плошчу гектараў каля пяці. Засталіся на тым месцы адны пні. Шкада.

— Маё ж дзяцінства прайшло сярод гэтых дубоў, — уздыхае-бядуе Піліпейка. — Першыя спатканні там прызначалі. Пісалі, не пярэчу, сцізорыкам і розныя словы на кары — тыя, напрыклад, што не хапала смеласці сказаць дзяўчынкам самім... Дубы былі, як кажуць, у тры абхваты. Волаты. Зямляк мой Аляксандр Краўцоў нават рэквіем напісаў гэтым дрэвам. За жывое ўзяло чалавека. Чаму так усе, адразу?.. Хіба ж толькі адзін паркет нам патрэбны, адна валюта?

Побач з мастаком і паэтам Генадзем Говарам (з ім мы апошнім часам вандруем па Палессі разам) сядзіць Дзмітрый Верамееў, намеснік дырэктара лясгаса па інфармацыйнай рабоце. З гісторыяй лясгас, кажа ён. Створаны ў 1936 годзе, нагадвае Дзмітрый Мікалаевіч, размешчаны ў цэнтры Гомельскай вобласці на тэрыторыі Калінкавіцкага, Петрыкаўскага і Мазырскага адміністрацыйных раёнаў. Сёння тут 12 лясніцтваў. Было яшчэ больш — у 1998 г. Галявіцкае і Хобненскае лясніцтвы перададзены ў склад эксперыментальнай лясной гаспадаркі "Ляскавічы" нацыянальнага парку "Прыпяцкі". Цікавы і такі факт: першыя лесаўпарадкавальныя работы на тэрыторыі лясгаса былі праведзены ажно ў 30-х гадах. З 1994 года вядзецца бесперапыннае лесаўпарадкаванне. Агульную плошчу 99090 га абслугоўваюць 113 леснікоў, 3 егеры... У розныя гады лясгас узначальвалі Ілля Завалей, Сяргей Крывянкоў, Васіль Быкаў, Георгій Красоўскі...

Дзмітрый Верамееў заўважае цікавую дэталь: перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны аўтамабіль "ГАЗ-АА" каштаваў усяго ў два разы даражэй, чым пішучая машынка. Акрамя нарыхтоўкі драўніны, у лясгасе выраблялі клёпку, нарыхтоўвалі вугаль, смалу, чаранкі і тронкі, а таксама ў значнай колькасці насенне сасны, дуба, іншых лісцёвых дрэў. Цяпер і зразумела, што сярэдні ўзрост пасадак у лясгасе складае 49 гадоў...

І вось яны, Азарычы. Пад'язджаем з хваляваннем на сэрцы: менавіта тут, каля гэтага мястэчка, быў у вайну канцлагер, дзе ў сакавіку 1944 года загінулі ад холаду, голаду і хвароб, расстраляны і закатаваны больш за 9 тысяч тутэйшых жыхароў. Пра мінулае нагадвае помнік. Спыняемся, падыходзім да яго, кладзём букецік гваздзікоў, схіляем галовы.

Некалі ў Азарычах быў лясгас, а калі яго расфарміравалі, то шэсць лясніцтваў, размешчаных на тэрыторыі Калінкавіцкага раёна, увайшлі ў склад цяперашняга лясгаса. Драбнелі, увачавідкі згасалі на вачах Азарычы. Калі, як прыгадвае Таццяна Фіцура, яе старэйшы сын ішоў у першы клас, то было тры класы, і ў кожным больш за трыццаць чалавек... А ўжо апошні, малодшы сын як пачынаў вучыцца, то ледзьве набралі ў адзін клас 17 дзетак... Цяпер тут жыве недзе паўтары тысячы чалавек. А было цудоўнае мястэчка! Звяліся рамёствы, кавальская справа, кравецка-шавецкая, а тады зачыніліся, самі па сабе адмерлі нядзельныя кірмашы, куды ехалі-спяшаліся на фурманках і дабіраліся больш сучасным транспартам людзі з усіх бліжэйшых вёсак.

Зноў жа: было...

І як не сумна сёння гаварыць пра тое, але быў, ёсць і, пэўна ж, заўсёды будзе лес. Неаднойчы зазначалі гаспадары: якія б нягоды нас не калашмацілі, але лес зберaглі. Не скокнулі наперад, але і кроку назад не зрабілі. А растуць і дужэюць дрэвы дзякуючы такім людзям, як і Міхаіл Шульман. У Азарычах ведае яго і малы, і стары. 75 год чалавеку, але працуе, як і ўсё жыццё, у лесе. Некалі ўзначальваў Крукавіцкае лясніцтва, сёння робіць майстрам. Абавязковы чалавек. Старанны і дысцыплінаваны. Здавалася б, адпачні, Яфімавіч, аднак — не, не прывяжаш такога да канапы. Мы пацicнуліся траха, каб хапіла месца ў кабіне і Шульману. Ён, нібы між іншым, пахваліўся, што ў свой час у яго памочнікам ляснічага пачынаў працаваць сённяшні генеральны дырэктар ГВЛА Міхаіл Супрун. Шульман ганарыцца: сустракаліся за час ягонай працы ў лесе добрыя хлопцы. Ёсць кім пахваліцца майстру і сёння. Ахвотна называе Міхаіл Яфімавіч лесніка Івана Акуленку, з чарнобыльскай зоны перасяленец, хойніцкі чалавек. Вызначаюцца таксама ляснік Анатоль Цурко, вальшчык Павел Пальской і малады рабочы Сяргей Яцко, сучкаруб Іван Макатроў...

Ці існуюць сёння нейкія "школы" выхавання? Раней — так, ім надавалася належная ўвага. Але ж сёння хто будзе займацца выхаваннем чалавека, калі яму прасцей даць выспятка, а на яго месца не проста ўзяць, а выбраць — цяпер, пагадзіцеся, ёсць з каго! — непітушчага і стараннага. Як глядзіць на гэта Міхаіл Яфімавіч?

— Не трэба проста так гнаць чалавека. Чаму? Бо прападзе, калі не падтрымаем, выпіхнем за дзверы... У яго і так нешта не ў парадку, а тут яшчэ і мы... Я ведаю аднаго чалавека такога... добры ён, але выпівае... На нашых жа вачах стаў такім. А дзе ж мы тады раней былі? Усё не так проста... Проста толькі ў кіно... А жыццё іншы раз такія сюжэты падкідвае, што ніколі сам не прыдумаеш. Пра лёс адной яўрэйскай сям'і я вам раскажу. У Азарычах жыў добры шавец Гірша. Калі вайна пачалася, яму параілі хавацца, уцякаць... А ён не паслухаўся, казаў, што ў васемнаццатым годзе ён з тымі немцамі "кракавяк" скакаў, чаму ж іх баяцца? А жыло ў яго 12 чалавек — і родныя дзеці, і сваякі былі... Пашыў неяк Гірша чобаты Івану Тарасюку, той пытае, колькі ж табе, братка, за працу тваю заплаціць. А майстра сумна ўздыхнуў і папрасіў, каб за тое, што чобаты выштукаваў, пахаваў іх усіх, калі немцы заб'юць... Іван тое слова стрымаў... Гірша ўжо адчуваў, што смерць набліжаецца, а ўцячы ад яе — куды ўцячэш, калі вакол вайна?..

— Зямля ў нас такая, што і сасна расці не хоча, — дзеліцца набалелым Шульман. — Паглядзіце вунь — пясок, што ў Каракумах. Але ж лес гадаваць трэба. Што і робім. Іншы раз насуперак лагічнаму, здавалася б, сэнсу... А што з каранёвай губкай рабіць? Замучыла, нішчыць сасну.

Калі размова зайшла пра тую губку, дык Піліпейка прыгадаў, быццам бы з інстытута лесу казалі, што ратунак ад яе знайшлі толькі ў Швецыі, але тыя не выдаюць сакрэту. Твар у Говара ажыў:

— У Швецыі? А што, калі паспрабаваць выведаць? Я ж там бываю, на пейзажы езджу, аднойчы нават ледзьве хутар не купіў. Зноў збіраюся...

Вядома ж, пагаманілі пра каранёвую губку і забыліся. Так і аддадуць шведы-дабрадзеі свае сакрэты! Тут сусед з суседам не падзеліцца, як і чым знішчыць каларадскага жука, каб у мяне было, а ў цябе — не...

Вядзём гамонку пра нізкі заробак леснікоў, хоць, здавалася б, — лес і багацце... Толькі сёння дужа шмат людзей, што хочуць пажывіцца добрай драўнінай, а сапраўдны гаспадар, хто і павінен бы мець сваю законную капейчыну за цяжкую працу, атрымлівае мізэрны заробак. Смешна сказаць, аклад у лесніка крыху больш дваццаці тысяч. А колькі ж тады могуць заплаціць тым людзям, якія хочуць папрацаваць у лесе, зарабіць і дапамагчы лесніку, майстру? Дробязь. Таму і мала ахвотнікаў. А церпіць зноў жа лес. Круціць вецер у кронах, рыпяць карані...

Забягу крыху наперад. У Калінкавіцкім лясніцтве мы пазнаёміліся з лесаўпарадкавальнікамі з Гомеля Тамарай Кулеш і Святланай Кірпічовай. Спецыялісты яны вопытныя, працавалі ў свой час на БАМе і Урале. Хваліліся сваёй прафесіяй, прыгадвалі розныя лясныя гісторыі. Але зразумелі мы і іншае: з кожным годам такіх патрыётаў усё менш і менш. Вось і ў іх падрыхтавалі маладога хлопца-лесаўпарадкавальніка, а ён не паехаў. Надыбкі стаў — і хоць што яму. Мне, кажа, камп'ютэр падавайце, а па лесе самі хадзіце...

У машыне зашыпела, быццам раз'юшаная змяя, рацыя "Ліпа". З верталёта, які аблятаў лясныя масівы, паведамілі: дымавых кропак не назіраецца. Твар у Піліпейкі святлее: цудоўна! Расхваляваны добрай навіной, ён прыгадаў, як некалі быў у Латвіі і назіраў такую карціну. Прыехалі нашы беларусы ў іх лес, нагрузілі машыну, а лапкі і сучкі прыбралі. Пытаемся: чаму ж дома так не робіце? Адказваюць: ага, пакінь тут, то паліцыя цябе знойдзе і на тым свеце, і такі штраф улепіць, што доўга ікацца будзе. Піліпейка прапаноўвае таксама ўзяцца за бізун, бо пернікамі накармілі людзей. Хопіць цацкацца. Усе, хто ехаў у аўтамашыне, з ім пагадзіліся. Яшчэ, усміхнуўшыся, Міхаіл прызнаўся, чаму стаў леснікам. "Прыгожа: кветкі, зёлкі розныя. А пах які! Але калі пачаў працаваў, не бачыў ні кветак, ні зёлак, не адчуваў і таго паху... Вы толькі нідзе не фіксуйце, але прызнаюся шчыра: упершыню грыбоў у ахвотку назбіраў гадоў праз пятнаццаць, як пачаў працаваць у лесе. Не пішыце. А то скажуць: дрэнны ляснічы".

А паабапал дарог лясы, лясы, лясы. Хоць і бядуе Шульман, што на іхняй зямлі і сасна расці не хоча.

Па-рознаму прыходзяць у лес людзі. Валеры Дарашэнка, ляснічы Галявіцкага лясгаса, спусціўся, як кажуць, з нябёсаў на зямлю. У прамым сэнсе. Былы верталётчык мазырскай авіяахoвы, выйшаў на заслужаны адпачынак і адчуў, што без лесу яму няпроста будзе. Прапанавалі ўзначаліць лясніцтва. Пагадзіўся. Цяпер вось з Мазыра кожнага дня ездзіць у Малыя Аўцюкі, у сталіцу гумару, як прынята тут казаць, дзе і месціцца лясніцтва. Яно ў прыгожым месцы, і Дарашэнка заўважае:

— Бачыце, што адзін чалавек можа зрабіць? Усе гэтыя ліпы, ясені, бярозы, бархат амурскі пасаджаны пасля вайны былым ляснічым. Чалавека даўно ўжо няма, а памяць пра яго жыве добрая.

Я прыгадаў адзін жарт, які прачытаў на браме ў Аўцюках: "Жонка добрая, але дужа б'ецца". Аўцюк, адным словам! Трэба сказаць, што і ляснічы Дарашэнка востры на язык чалавек — трапіў якраз да сваіх.

Мне і Генадзю выдалі гумавыя боты. Спярша едзем, а потым ідзём... Ідзём да цар-дуба, адганяючы розную лясную драбязу, што шчэміцца, куды толькі можа, каб напіцца тваёй крыві. Наперадзе ступае Дарашэнка, за ім Піліпейка, я трэці, адзін раз зачапіўся за нейкі корч, але не плюхнуўся ў макроцце: ухапіўся за другі. Цяжкавата ісці. Аднак трэба. Быць каля цар-дуба і не пабачыць яго — такое недаравальна. Генадзь шыбуе крыху ззаду. У адрозненне ад мяне, раней цар-дуб ён бачыў у Лельчыцах, і да яго мы плануем яшчэ таксама трапіць, а пакуль пыхкаем тут, за спінамі Піліпейкі і Дарашэнкі. Той разглядвае сляды, торкае дручком: касуля. Пра дуб кажа, што ён павінен быць заўсёды ў кажуху і з голай галавой...

Вось, нарэшце, і цар-дуб! Хоць і памёр колькі год таму, але ўрос ў зямлю моцна.

— Шэсць вякоў яму, — задзірае галаву Дарашэнка.

Што будзе з гэтым цар-дубам? Побач у некалькіх метрах ад яго — царэвіч-дуб. Цар, царэвіч... фатаграфуемся на памяць.

У адпаведных паперах запісана так: "У Галявіцкім лясніцтве растуць два цар-дубы, аб'яўленыя помнікамі прыроды рэспубліканскага значэння... зацверджана Дзяржкамітэтам па ахове прыроды рашэннем № 22-1 ад 27 снежня 1963 года. Вышыня першага 30 метраў, дыяметр 1,98. Аб'ём 32 м$^3$. Вышыня другога 32 м., дыяметр 1,52 м. Аб'ём 27 м$^3$. Узрост — 500 год".

Нагадаем, што ўзрост дубоў вызначаўся амаль сорак год назад, то можна пагадзіцца і з ляснічым: няхай будзе так, як хоча ён, — 600! Розніца невялікая, тым больш не надта зразумела, у які бок...

А дубы, па словах Дарашэнкі, у ягоным абходзе будуць расці. Хоць летась і быў няўрод на жалуды, набылі ў гадавальніку саджанцы і пасадзілі гэтага надзвычай карыснага і паважанага дрэва на плошчы ў 20 гектараў. Пакуль. А там, далей, будуць і новыя пасадкі.

...Вяртаючыся ў Калінкавічы, звярнулі ўвагу, што шмат дзе пры дарозе з'явіліся валуны, дзе-нідзе іх яшчэ размалёўвалі людзі ў лясной форме. Успомнілася, як расказваў Піліпейка, што камяні тыя даводзілася здабываць самымі рознымі сродкамі. У Пеніцы прывабіў леснікоў добры валун, але дзед, гаспадар каменя, лёг на яго, абхапіў рукамі і не дае:

— Не рушце! Толькі з каменем пайду!

Камень у яго службу нёс — быў перасцярогай ад наезду тэхнікі на паркан, то абяцалі старому паставіць бетонныя пліты замест яго — дужа ж валун прывабны! — але дзед той так і не здаўся...

**Васіль ТКАЧОЎ**



*Камяні, кроны і карані...*

# Мера чалавечага жыцця

Ігнат ДУБРОЎСКІ

НАРОДНАЯ мудрасць кажа: — жыццё пражыць — не поле перайсці. Але кожны чалавек, можа, за рэдкім выключэннем, хоча ісці гэтым жыццёвым полем як мага больш гадоў. Але законы прыроды няўмольна робяць сваё: змяняюць пакаленне за пакаленнем, каб удасканаліць самога чалавека і яго дзейнасць.

Узрост чалавека, даўжыню яго жыцця статыстыка вымярае пражытымі гадамі. Гадамі вымяраецца і сярэдняя працягласць жыцця жыхароў грамадства, дзяржавы, сацыяльных груп людзей і г. д. Вызначэнне ўзросту людзей у гадах неабходна для вырашэння многіх сацыяльных, юрыдычных, эканамічных пытанняў.

Але мера чалавечага жыцця пражытымі гадамі шмат кім лічылася недасканалай, нават некаторымі навукоўцамі. Гэта нязгода са статыстычнай мерай вызначэння ўзросту людзей выклікала стыхійныя дыскусіі, асабліва сярод навучэнцкай моладзі і маладой інтэлігенцыі. Такія стыхійныя дыскусіі вяліся ў сярэдзіне дваццатых гадоў мінулага стагоддзя. Завадатарам такіх стыхійных дыскусій быў камсамол. Была сапраўдная пошасць дыскусій. Аб чым толькі тады ні спрачаліся! Напрыклад: чаму хлопчыкам можна, а дзяўчынкам нельга? Чаму хлопчык можа сесці на балясіну калідорнай лесвіцы і саскаўзнуць з другога паверха на першы, а дзяўчынцы нельга? Чаму хлопчык можа запрашаць на танец дзяўчынку, а дзяўчынка хлопчыка не можа? Чаму хлопчык можа сватацца да дзяўчынкі, а дзяўчынка да хлопчыка не можа? Чаму хлопчыку можна лазіць па дрэвах, а дзяўчынцы нельга?

Ці можна камуністу і камсамольцу танцаваць рок-н-рол? Ці не шкодзіць сорам здароўю? У выніку гэтай дыскусіі ўзнікла арганізацыя сярод моладзі: "Прэч сорам!" Маладыя хлопцы і дзяўчаты ў той час, летам, у сонечнае надвор'е хадзілі голыя, у адных трусіках, з чырвонай стужкай наўскасяк цераз голыя грудзі з надпісам на ёй: "Прэч сорам! У здаровым целе здаровы дух!"

На гэтых стыхійных дыскусіях кожны выказваў свае думкі вольна. Гэта быў час вольнай-вольніцы. Былі і такія дыскусіі, у якіх крытыкаваліся і некаторыя органы Савецкай улады, асобныя іх законы. Ніхто не баяўся, што будзе прыцягнуты да адказнасці.

У гэтых дыскусіях часта прымаў удзел і я. Мне прыгадваецца адна, даволі арыгінальная, нават дзіўная дыскусія. Мне давялося быць у экзаменацыйнай камісіі ад райкама камсамола на выпускных экзаменах дзевятага класа школы-дзевяцігодкі. Пасля экзаменаў і ўрачыстага вечара настаўнікі арганізавалі ў складчыну невялікі банкет у адным з класаў школы. На банкеце былі настаўнікі і госці.

У час банкета ў клас увайшоў мясцовы поп, у доўгай чорнай расе, з доўгімі цёмна-русымі валасамі, якія хвалямі ссыпаліся з галавы на плечы. На яго маладым твары была рэдзенькая, з кароткіх, збітых, як мох, валаскоў, бародка і гусценькія кароткія вусы. У той час, калі малады поп увайшоў у клас, за сталом банкета вялася дыскусія аб мерах вызначэння велічыні чалавечага жыцця, аб яго падаўжэнні. Убачыўшы папа ў парозе, усе змоўклі. Поп перахрысціўся, пакланіўся прысутным і прамовіў:

— Мір вам!

Насустрач яму выйшаў з-за стала дырэктар дзевяцігодкі Федар Пятровіч Смалянкоў.

— Я вас збянтэжыў? — спытаў святар у дырэктара.

— Не, не, айцец Фларыян, ніколькі, — супакоіў яго Смалянкоў і пасадзіў за стол.

Поп бесцырымонна папрасіў усіх напоўніць свае чаркі. Наліў гарэлкі і сабе. Ён устаў, узняў сваю чарку і прамовіў:

— Я адлучаны ад школы, як і ўся наша царква. Але як грамадзянін маю права павіншаваць вашых выпускнікоў і настаўнікаў, якія адкрылі ім дарогу ў свет божы. За іх і ваша здароўе, за новыя поспехі — звезданём! — і перакуліў сваю чарку ў рот.

Усе таксама выпілі.

Малады настаўнік, Якуб Дробны, звярнуўся да айца Фларыяна і сказаў, што да яго прыходу на іхнюю бяседу у іх вялася гутарка аб магчымасці і мерах падаўжэння жыцця чалавека хоць бы да ста гадоў, і спытаў, якія яго меркаванні наконт гэтага.

Выслухаўшы пытанне, айцец Фларыян зноў папрасіў усіх напоўніць чаркі. Усе налілі. Наліў ён і сваю чарку.

— Бог устанавіў мяжу чалавечага жыцця блізкую да тысячы гадоў, што і запісана ў святой кнізе Біблії, — і ён нагадаў, што першы чалавек на Зямлі Адам, якога стварыў Бог, пражыў 930 гадоў. Ной пражыў 950 гадоў. Патрыярх Мафусаіл пражыў 969 гадоў. Вось вам Богам дадзеная мера чалавечага жыцця. Дасягнуць такой даўжыні жыцця можна толькі такім служэннем Богу, якім служылі Яму названыя тут біблейскія патрыярхі. За біблейскіх патрыярхаў, за служэнне Богу, як служылі яны, за біблейскую даўгавечнасць жыцця — звезданём! — і ён перакуліў гарэлку з чаркі ў касматы рот.

Ніхто з прысутных да сваіх чарак не дакрануўся.

Устаў са свайго месца, не вылазячы з-за стала, інспектар Наркамата асветы Глеб Сцяпанавіч Жардзіцкі, рослы, сярэдніх гадоў чалавек, з чыста паголеным тварам, гладка, на радок, зачэсанымі валасамі, у моднай у тыя часы касаваротцы з вышытымі арнаментамі каўняром, манішкай і манжэтамі, звярнуўся да папа з такімі словамі:

— Паважаны айцец Фларыян, такога даўгалетняга жыцця, амаль па тысячы гадоў, якое нібы пражылі біблейскія патрыярхі, у сапраўднасці не было. Навукова даказана, што ў час жыцця Ісуса Хрыста на Зямлі сярэдні чалавечы век складаў 22 гады. Асобныя людзі і тады дажывалі да 60-70 гадоў, хоць і вельмі рэдка. Людзі рана паміралі ад розных хвароб і пошасцяў. Асабліва лютавалі хваробы і смерць сярод дзяцей.

— Паважаны грамадзянін інспектар, — перабіў айцец Фларыян Жардзіцкага. — Пра гэта сказана ў Біблії — святой кнізе, напісанай са слоў Бога. Яна не мае патрэбы ў доказах яе праўдзівасці. Яна, Біблія, як і сам Бог, як і ўся рэлігія, патрабуюць не доказаў, а веры.

— Выбачайце, айцец Фларыян, не ў тым справа, Біблія — святая кніга. Біблія, як і рэлігія, гэта кодэкс маралі і справядлівасці, аснова духоўнага жыцця чалавека. Але ўсё роўна Бог пісаў Біблію ці вадзіў рукамі тых, што пісалі яе па яго волі. Справа ў тым, што ў Біблії адбіўся светапогляд людзей таго часу, у які яна фармавалася яшчэ да напісання яе тэкстаў, — запярэчыў папу інспектар.

Далей Глеб Сцяпанавіч растлумачыў, што год з'яўляецца астранамічнай адзінкай вымярэння часу. Год роўны аднаму кругавароту Зямлі наўкруг Сонца. Год мае чатыры часткі, чатыры перыяды: зіму, вясну, лета і восень. Відавочным было, калі канчаецца адзін год і пачынаецца другі. Але не ўсюды, не на ўсіх шыротах Зямлі ясна вызначаліся перыяды года. Чалавецтва зарадзілася ў гарачым поясе Зямлі, дзе змены часцін года не мелі выразных адзнак. Там было вечнае лета. Цяжка было вызначыць, калі канчаецца адзін год і пачынаецца другі. У старажытныя часы невядома было, што не Сонца кружыцца наўкруг Зямлі, а Зямля наўкруг Сонца.

А вось квадры Месяца, ад маладзіка да маладзіка, былі відавочнымі. Відаць было з Зямлі простым вокам, калі канчаецца адзін адрэзак часу — месяц, — і пачынаецца другі. Гэты астранамічны (нябёсны) адрэзак часу — месяц — людзі дабіблейскай даўнасці ўзялі як меру часу на Зямлі, пазней назвалі яго годам.

Вазьміце ўзрост Адама згодна Біблії, падзяліце яго 930 гадоў, якія ён пражыў, на 12 месяцаў і вы атрымаеце 77 гадоў і 6 месяцаў. Ной пражыў не 950, а 79 гадоў і 2 месяцы, Мафусаіл не 969, а 80 гадоў і 9 месяцаў.

Раптам айцец Фларыян усхапіўся і на ўвесь голас закрычаў:

— Грамадзянін інспектар, усё, што вы сказалі, — ерась! Блажен муж иже не йдет на совет нечестивых! — павярнуўся і знік за дзвярыма.

Усе на нейкую хвіліну замерлі, а потым дружна зарагаталі.

Я сядзеў за сталом побач з дырэктарам школы. Я спытаў у Фёдара Пятровіча, што гэта за поп такі дзіўны?

Дырэктар адказаў, што гэта здольны чалавек, але сарваўся ў маладосці. У васемнаццацігадовым узросце ён скончыў фінансава-бухгалтарскі тэхнікум. Працаваў бухгалтарам на швейна-галантарэйнай фабрыцы. Яго завербавала група аферыстаў, пры яго дапамозе, па фальшывых дакументах яны ў касе фабрыкі атрымалі буйную суму грошай. Следчыя органы выкрылі выкрадальнікаў. Быў арыштаваны і Язэп Піліпавіч Бонус, так звалі яго раней. Яму ўдалося збегчы з-пад варты і схавацца ў манастыры. А ў той час быў такі закон: калі злачынца схаваўся ў манастыры, пастрыгся ў манахі і замольвае свае грахі, то манастыр мог не выдаваць яго следчым органам. Ды і следчыя органы не вельмі дамагаліся выдачы. У манастыры ён будзе як бы пакараны пажыццёвым зняволеннем, будзе спакайней і ім, следчым.

Язэп Бонус пастрыгся ў манахі пад імем Фларыян. Пры манастыры ён скончыў духоўнае вучылішча і стаў свяшчэннікам. Любіць "звезданучь". А чаму ён прыйшоў у школу? Справа ў тым, што ў школе ёсць тры маладыя настаўніцы. Усе — камсамолкі. Айцу Фларыяну хочацца з любой з іх ажаніцца. Ён заляцаўся да кожнай з іх, але, як кажуць, ад



усіх траіх атрымаў паварот ад варот. Але ён усё ж не пакідае надзеі абдурыць адну з іх.

Але як ні дзіўна, неўзабаве я сустрэў чалавека, які, па яго словах, пражыў некалькі тысяч гадоў. Гэта вам не біблейскі Мафусаіл з яго 969 пражытымі гадамі. І гэта, як я пераканаўся, не утопія, а рэальнасць.

У тыя гады я часта хадзіў у Беларускую дзяржаўную бібліятэку. Праходзячы праз сквер, што ля Беларускага дзяржаўнага тэатра (пазней яму было прысвоена імя Янкі Купалы), я амаль кожны раз бачыў чалавека, які самотна сядзеў на лаўцы, непадалёк ад цэнтральнай дарожкі сквера. Ён быў апрануты ў нейкі дыхтоўны, але дужа заношаны гарнітур, на галаве была выгаралая кепка, на нагах — растаптаныя чаравікі. Яму можна было даць гадоў шэсцьдзесят. Яго старыла кароценькая барадка і густыя вусы, крануўшыя замаразкамі сівізны. Не надавалі важнасці яго твару і акуляры з маленькімі авальнымі шкельцамі, апраўленымі ў драцяную аправу.

Аднойчы я ўбачыў каля гэтага чалавека групу маладых людзей — хлопцаў і дзяўчат. Ён ім нешта расказваў, узрушана падмацоўваючы жэстамі рук свае словы. Некаторыя з гэтых маладых людзей занатоўвалі яго прамову ў блакноты.

Мяне зацікавіла, пра што можа весці гутарку з інтэлігентнай моладдзю гэты жабрацкага выгляду чалавек. Я падышоў да іх. Як мне ўдалося даведацца, гэтага няшчаснага чалавека акружалі студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта, якія рыхтаваліся да экзаменаў па дыямату. Яны ў яго як бы кансультаваліся. На гэты раз гутарка ў яго са студэнтамі ішла пра сацыялістаў-утапістаў, пра "Утопію" Томаса Мора, пра Тамаза Кампанэлу, пра яго "Горад сонца".

Мяне прыемна ўразіла яго прыгожая беларуская мова, глыбокае веданне матэрыялаў, пра якія апавядаў гэты няшчасны чалавек.

Прыкладна праз паўгадзіны ён стаў збівацца ў гаворцы са слоў. Натужліва штосьці мармытаў, шукаючы патрэбныя словы і не знаходзіў іх. Потым махнуў рукой і прамовіў:

— На сёння ўсё. Я стаміўся. Прашу пакінуць мяне. Прыходзьце заўтра.

Студэнты сабралі ў складчыну нейкую суму грошай і прапанавалі яму ў знак удзячнасці. На здзіўленне студэнтаў, гэты чалавек рашуча адмовіўся ўзяць грошы.

— Я не магу ўзяць падаянне ад вас па маральнай умове: вы жывяце не лепш за мяне. Дзякую за вашу шчодрасць, — і ён кіўком галавы пакланіўся студэнтам.

Хтосьці са староннiх прысутных спытаў у яго, ці атрымлівае ён пенсію і колькі яму гадоў.

Вядома было, што пенсіі ў той час былі незайздросныя.

Чалавек гэты няпэўна пацісnуў плячыма і адказаў:

— Для пражыцця я матэрыяльна забяспечаны. А вось колькі гадоў я пражыў і перажыў, вызначыць цяжка. Дата майго нараджэння вядома, яна запісана ў адпаведных дакументах. Завуць мяне Мірон Раманавіч Драздовіч. А вось колькі пражыта і перажыта?! — і ён развёў рукамі, — можа, дзве тысячы гадоў, можа, пяць тысяч... Маркуйце самі: я — удзельнік Пунічных войнаў, — з усёй сур'ёзнасцю заявіў гэты чалавек.

Пунічныя войны, як вядома, вяліся між Рымам і Карфагенам за панаванне ў Заходняй частцы Міжземнамор'я, у трэцім і другім стагоддзях да нашай эры. А гэта звыш дзвюх тысяч гадоў!

Далей ён кажа, што яму ўдалося пабываць на будаўніцтве егіпецкіх пірамід, якое вялося пяць тысяч гадоў таму назад. Пабываў ён, па яго словах, і на будаўніцтве Вавілонскай вежы. Ён прыгадвае, з якім вялікім задавальненнем шпацыраваў па вісячых садах Семіраміды, царыцы Асірыйскай. Была такая краіна ў старажытныя часы.

Вісячымі сады называліся таму, што яны размяшчаліся на крутых схілах высокіх гранітных гор. На схілах гор высякаліся тэрасы, адна над адной. На тэрасы насыпалася зямля і на ёй саджаліся сады. Калі глядзець на іх знізу, то здавалася, што сады вісяць адзін над адным у паветры.

Мяне моцна ўразіў адказ гэтага чалавека на пытанне, колькі яму гадоў. І мне захацелася стаць удзельнікам Пунічных войнаў, пабываць на будаўніцтве егіпецкіх пірамід. Праўда, мне ўдалося пабываць каля егіпецкіх пірамід, але не на будаўніцтве іх, а ў наш час, праз пяць тысяч гадоў пасля завяршэння іх будаўніцтва. А гэты чалавек бачыў, як іх будавалі.

Калі стаіш перад гэтымі збудаваннямі, адчуваеш сябе малюсенькай мурашачкай. Піраміда фараона Хеопса 146,6 метра вышыні. Кожны з чатырох бакоў яе падножжа складае 233 метры. Плошча, якую займае гэта піраміда, перавышае 5 гектараў. Піраміды складаліся з блокаў вагою ў 2,5 тоны. Асобныя блокі важылі да 30 тон. У збудаванне піраміды ўкладвалася да 5.300.000 блокаў. Розуму не дабраць, як у той час, калі не было ніякіх механічных сродкаў, каб узднімаць непасільныя чалавеку блокі на такую вышыню... Перш за ўсё піраміды выклікаюць здзіўленне і захапленне адвагай і рызыкай, натурай і сілай розуму чалавека, яго вынаходлівасцю. Голымі рукамі ўзвесці такі гмах! Якая ж гэта была непамерна цяжкая праца... Нездарма ва ўсім свеце цяжкую працу называюць егіпецкай працай.

Але хвалявала мяне і другое: як мог трапіць гэты чалавек на будаўніцтва, якое адбылося некалькі тысяч гадоў таму назад?! І я звярнуўся да яго з такім пытаннем:

— Скажыце, калі ласка. Мірон Раманавіч, як можна пабываць у далёкай мінуўшчыне ў наш час? Пісьменнікі-фантасты выдумалі "машыну часу", сеўшы ў якую, можна вярнуцца ў далёкае мінулае. Ці не валодаеце вы гэтай машынай часу? — Я добра ведаю, што ніякай "машыны часу" няма, але і магчымасці вярнуцца ў мінулае таксама няма. Але ж такое пытанне напрошвалася само сабой.

— Малады чалавек, — павярнуўся ён да мяне, — "машына часу" — пустая выдумка. Разумная фантазія мае ў сабе элементы рэальнага. А ў гэтай фантазіі нічога рэальнага няма. Няма і ніякага мінулага ў той матэрыяльнай форме, у якой яно адбывалася. У нас утварылася іншая сувязь з мінулым.

На нашай планеце Зямля жывуць сотні, а можа, і тысячы відаў жывых істот. Кожная з гэтых істот мае свае каляндарныя жыццёвыя рамкі — дату нараджэння і дату смерці. Выхад з гэтых рамак азначае смерць, — працягваў ён далей сваё апавяданне. — Толькі аднаму віду — чалавеку — прырода дала магчымасць выходзіць з каляндарных рамак жыцця ў мінуўшчыну. Прырода дала чалавеку розум, памяць, неабмежаваную здольнасць дзейнасці, якая спарадзіла мову. Чалавек матэрыялізаваў сваю памяць у кнігах. Кнігу сапраўды можна назваць машынай часу.

— Цяпер, малады чалавек, — зноў ён звяртаецца да мяне, — што жыццё чалавечае нельга вымяраць толькі пражытымі гадамі. Трэба ўлічваць і напоўненасць жыцця дзейнасцю чалавека. Возьмем двух чалавек, якія нарадзіліся ў адзін і той жа дзень, пражылі па 90 гадоў і памерлі ў адзін і той жа дзень. Ці можна сказаць, што іхнія жыцці былі роўнавялікімі? Ні ў якім разе! Хіба толькі выпадкова.

Гэты чалавек раіць мне пабываць у мінулым. Дзеля гэтага пайсці ў бібліятэку і ўзяць кнігу, ну, скажам, пра адкрыццё Амерыкі Хрыстафорам Калумбам. З першых жа старонак кнігі вы апынецеся ў Іспаніі чатырохсотгадовай даўнасці. У марксісцкай гавані вы ўбачыце тры

*(Працяг на стар. 12)*

## “Неумолкай-град”




**Рэдка бывае, каб прачытаўшы першую кнігу маладога аўтара, са здзіўленнем для сябе (і, вядома, з радасцю!) адзначаў, што па сутнасці слабых, прахадных твораў у ёй няма. Канечне, можна напаткаць такія, якія ў параўнанні з лепшымі ў чымсьці прайграюць, але несумненна адно: планка мастацкасці трымаецца. Акурат такая кніга выйшла ў недзяржаўным выдавецтве “Парадокс” — зборнік вершаў Таццяны Ахрэмчык “Неумолкай-град”. З анатацыі можна даведацца, што Т. Ахрэмчык — выпускніца Літаратурнага інстытута імя М. Горкага ў Маскве, “жыве ў горадзе Мінску, але лічыць “сваім” і расійскі горад Іванава, з якім звязаны ўспаміны дзяцінства і юнацтва”. Аб астатнім, як кажуць, гавораць самі вершы, тым больш, што лірычная гераіня Т. Ахрэмчык — з людзей адкрытых душой і сэрцам. Нездарма ў адным з твораў можна прачытаць такое прызнанне: “Мучительно хочется смертной правды — себе о себе”. Хоць праз некалькі старонак можна напаткаць і іншае прызнанне: “Не люблю откровенничать, люблю молчать”. Як быццам, гэтыя сцвярджэнні супярэчаць адно аднаму. І ўсё ж, думаецца другое, так сказаць, “житейское”. Можна “маўчаць” у жыцці, а ў творчасці... Творчасць — такая справа, што набалелае, тое, што на душы патрабуе свайго “выхаду”. Таму і нараджаюцца ў Т. Ахрэмчык вершы, у якіх наша маладая сучасніца дзеліцца сваім роздумам аб жыцці. А праз стан душы лірычнай гераіні выяўляецца і тая настраёвасць, што апаноўвае чалавека, і ўжо ён паўстае такім, якім ёсць у сапраўднасці. Падабаюцца вершы, у якіх — паўсядзённае жыццё бачыцца без прыўкрас:**

*Созвучие дождей*
*И падающих листьев...*
*Как хорошо теперь*
*Под крышей, у плиты!*
*Сейчас поставим чай,*
*И пестрыми цветами*
*В прихожей у дверей*
*Распустятся зонты...*
*А в доме — ты и я.*
*И вряд ли будут гости.*
*Как славно быть вдвоем*
*И сохнуть у огня,*
*И никого не ждать,*
*И только о хорошем*
*Весь вечер говорить.*
*Зонты...*
*Да ты...*
*Да я...*

**Гэта таксама паэзія жыцця. Паэзія — у паўсядзённасці. Ёсць у Т. Ахрэмчык і верш, напоўнены філасофскім роздумам:**

*Кто увидел смерть*
*хоть единый раз —*
*тот уже другой выраженьем глаз.*

*И кто умирал —*
*тот воскрес иной,*
*на другой земле, не самим собой.*

*Кто хоть раз убил —*
*знает крови вкус.*
*Вечно будет с ним*
*этот злой искус.*

*Раз переступив смерть*
*в пути своем,*
*дальше обречен с ней идти вдвоем.*

**І яшчэ хочацца працытаваць адзін верш:**

*Как странно манит*
*кладбище чужое,*
*Где никого пока не хоронил...*
*Какою монастырской тишиною*
*Здесь веет между склепов и могил!*
*Какою тайной это объяснимо —*
*Что в доме смерти так она тиха,*
*Почти мягка,*
*почти гостеприимна...*
*Светла, как грусть*
*рубцовского стиха.*

**А лепш прачытаць усю кнігу ад пачатку да апошняй старонкі. І ўпэўніцца, які цікавы паэт Таццяна Ахрэмчык.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ВІНШУЕМ!

# Пісьменнік. Вучоны. Грамадзянін

## Ігнату ДУБРОЎСКАМУ — 95

У час свайго настаўніцтва ў вёсцы Ставок Пінскага раёна я пачула ад сяльчан быль пра “незвычайнага” журналіста. Было гэта напрыканцы 50-х гадоў, поўным ходам ішла чарговая рэарганізацыя калгасаў шляхам іх узбуйнення. З усіх бакоў за “перадавым вопытам” у мясцовы “Светлы шлях” зляталіся газетчыкі. Пасядзеўшы дзень-другі ў канторы, запісаўшы “паказчыкі”, яны хутка ад’язджалі. Але адзін, чалавек сталага ўжо веку, жыў тут некалькі месяцаў. Гаваркі, дасціпны, хадзіў ён з блакнотам па полі, наведваўся на фермы (“да ўсяго яму была справа”), перазнаёміўся з даяркамі, трактарыстамі, будаўнікамі, сядзеў з калгаснікамі на сходах, прызбах, здаралася, і за бяседным сталом. Людзей уразіла дасканалае веданне гэтым гараджанінам вясковага жыцця, а на яго камунікабельнасць і добразычлівасць яны адгукнуліся зваротным шчырым даверам...

Неўзабаве выйшла ў свет кніга пад назвай “Светлы шлях” (1959) і аўтарскім прозвішчам Ігнат Дуброўскі. Вядома, цікава было паглядзець на сябе ці суседа збоку (імёны тут былі рэальныя). Хтосьці пакрыўдзіўся, не атрымаўшы, як тыя сёстры ў прымаўцы, у падарунак “завушніц”, аднак агульны водгук-прысуд быў, бясспрэчна, самы каштоўны для аўтара, такі: “Праўдзіва напісана!” Даведаліся і пра сапраўднае яго імя: Чарняўскі Ігнат Цімафеевіч — вядомы беларускі вучоны-аграрнік, які апублікаваў ужо некалькі навуковых прац. Апрача таго, зарэкамендаваў сябе і як пісьменнік, выдаў зборнікі апавяданняў “Радня” (1953) і аповесцей “Зямля маладзее” (1952).

Папярэднім творчым вопытам І. Дуброўскі быў падрыхтаваны для больш поўнай выявы сваіх сапраўды унікальных магчымасцей у жанры, які аб’ядноўваў элементы навуковага і мастацкага адлюстравання жыцця. Кніга “Светлы шлях” і стала першай вяхой на шляху пісьменніка-дакументаліста, заснавальніка мастацка-аналітычнага нарыса ў беларускай літаратуры. Гэты праграмны твор бачыцца ў агульным рэчышчы былой саюзнай журналістыкі, якая ўмацоўвала рэалістычны напрамак у пасляваеннай літаратуры і сцвярджала эстэтычную значнасць нарыса на яркіх прыкладах твораў В. Авечкіна, Г. Траяпольскага, С. Залыгіна, Я. Дораша, Г. Радава, У. Цендракова і інш. (пазней на грунце назапашанага вопыту І. Дуброўскі напіша літаратуразнаўчую працу “Нялёгкі хлеб”, прысвечаную нарысу і нарысістам).

Кнізе “Светлы шлях” наканавана было стаць першым звяном у ланцугу наступных твораў, сярод якіх — “Зямныя вузлы” (1967), “Да долі чалавечай” (1970), “Гамоніць Палессе” (1977), “На новыя кругі” (1979), “Час сеяць і час жаць” (1982), “Красна хата не толькі пірагамі” (1988), “Гаснуць вулканы” (1997) і іншыя. Кожная з гэтых кніг з’яўляецца



*Ігнат Дуброўскі з дачкой Тамарай, архітэктарам, ляўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларрусі*

часткай паслядоўнага аповеду ўдумлівага летапісца, шчыра заклапочанага лёсам роднай зямлі.

Нарысам І. Дуброўскага, Я. Брыля, І. Шамякіна давялося ў 50-я гады наводзіць масты — аднаўляць традыцыі беларускай публіцыстыкі, перарваныя палітычнымі рэпрэсіямі 30—40-х, ахвярамі якіх сталі многія пісьменнікі, яны ж і публіцысты, некаторыя — дзяржаўныя дзеячы (Ц. Гартны, М. Гарэцкі, М. Чарот, П. Галавач, Я. Скрыган, М. Зарэцкі, В. Сташэўскі, Б. Мікуліч і іншыя).

Пры ўсёй апасродкаванасці ўплываў несумненна тое, што наладжаны лепшымі нарысамі камертон абудзіў творчы патэнцыял цэлай плеяды публіцыстаў-наступнікаў розных узроставых генерацый і асабістых схільнасцей (В. Палтаран, Я. Сіпакоў, І. Чыгрынаў, У. Караткевіч, В. Мыслівец, В. Карамазаў, А. Казловіч, В. Якавенка, В. Праскураў, Л. Левановіч, У. Глушакоў, У. Ліпскі, Я. Пархута, Г. Пашкоў і інш.). Большасць з іх унесла значны ўклад у скарбонку “вясковага” нарыса.

Працуючы на перадавых рубяжах сучаснасці, І. Дуброўскі не схільны ацэньваць яе хуткаплынную зменлівасць метадам рэпарцёрскага “наскоку”. Сучаснасць у яго нарысах, абцяжараная, заземленая памяццю, паўстае ва ўсёй сваёй шматслойнай складанасці. Мінулае тут з’яўляецца ацэначным крытэрыем на шкале жыццёвых каштоўнасцей, яго ж набыткамі, разважным сэнсам вывяраюцца арыенціры будучыні. Кніга “Гамоніць Палессе” — вынік шматгадовай пошукавай працы. Пашыраючы межы вясковай тэмы, заглыбляючыся ў гісторыю, аўтар адзначае відавочныя, рэальныя сёння прыкметы глабальнасці спрадвечнай праблемы “Прырода і чалавек”. Гуманістычная сутнасць яго экалагічнай канцэпцыі выяўляецца на матэрыяле меліярацыі беларускага Палесся.

І. Дуброўскі зводзіць у вострай дыскусіі прыхільнікаў і праціўнікаў самой ідэі меліярацыі. Галоўны аргумент апошніх — нярэдка ўжо і знішчальныя для прыроды і сельскай гаспадаркі вынікі меліярацыі. Аўтар не спяшаецца з вывадамі, паварочваючы яе “медаль” то адным, то другім бокам. Абапіраючыся на ўласны вопыт, ён даводзіць неабходнасць меліярацыі, знаходзячы падтрымку ў хаце старога Адама Севасцьянавіча: “Дзяцей мёрла..., у вёсках, можа, трэцяя частка выжывала. Вядома, нястачы. Ды і балоты памагалі. Колькі наслання усякага ад іх ішло... Меліярацыя, скажу вам, людзей з бяды выратавала” (дыялог і маналог, адзначым, — характэрныя для стылю Дуброўскага моўныя формы).

Даследчык вядзе свой рэпартаж з вядомага асушанага ў 20-я гады Мар’інскага масіва, апетага Купалам (“Над ракой-Арэсай”), М. Зарэцкім (“Падарожжа на новую зямлю”), В. Сташэўскім (“Па сонечнаму шляху”). Аднак у гомане сучаснага Палесся, сведчыць ён, усе выразней чуюцца трывожныя ноты... На месцы ранейшых квітнеючых палеткаў гуляюць тарфяныя смерчы, разбураецца глеба, перасыхаюць рэкі, гінуць без вады лясы, іх жывыя насельнікі — звяры і птушкі... Пісьменнік вызначае прычыну гэтай парадаксальнай метамарфозы як разлад паміж натуральнымі законамі жыцця прыроды і спажывецкай філасофіяй, узроўнем свядомасці чалавека, сучаснага “Уладара”, які ўсё больш схільны жыць па прынцыпе: “На наш век хопіць, а

# Свет аўтара і герояў

Чалавек ад нараджэння да святла хінецца. Бо ён не кажан, каб любіць цемру. Святло і жыццё заўжды для нас асацыіруюцца адно з адным. І белы свет — са святлом таксама.

Адзін з раздзелаў адметнай літаратуразнаўчай працы І. Дуброўскага “Нялёгкі хлеб” азагалоўлены так: “Вузкай сцяжынай у шырокі свет”.

Публіцыст ідзе ў шырокі свет, каб спазнаць яго і праліць святло на рэчы, якіх чытачы не заўважаюць, не чуюць, не разумеюць...

Усе творы і шматлікія кнігі Ігната Дуброўскага (Чарняўскага) напоўнены пругкім вячыстым святлом, сонечным аксамітам, што заўжды грэе душу. Аўтар часта малюе шырокія светлыя краявіды, яркія карціны. Багата мяккай энергіі — дабрыні, зычлівасці, спагады, розуму, лагоды — выпраменьваюць са сваёй душы таксама і героі твораў і, вядома ж, сам аўтар. Святло і добры чын дамінуюць скрозь у Дуброўскага.

У людзі, у свет шырокі, аўтар ішоў, можа, і сціплай, вузкай, але не звілістай сцяжынай, калі ўлічваць ягоныя першыя неспрактыкаваныя жыццёвыя крокі і працу загадчыка спажывецкай крамы ў роднай вёсцы, затым — супрацоўніка райкама камсамола... Аднак далей болей пашы-



*Ігнат Дуброўскі з Васілём Якавенкам, ліпень 2000 г.*

раўся шлях і адкрываліся ва ўсе бакі краявіды.

Для яго, вясковага і прагнага да ведаў хлопца, які паспяхова скончыў БСА ў Горках, самымі шчаслівымі гадамі жыцця былі гады вучобы ў аспірантуры Інстытута чырвонай прафесуры ў Маскве, дзе чыталі лекцыі і вялі заняткі самыя прызнаныя аўтарытэты

там — хоць трава не расці!" Гэта і меліяратар, які на сваёй магутнай машыне (што там рыдлёўка грабара!) урываецца ў нетры зямлі, бяздумна зносячы яе культурныя пласты, спускаючы ваду. Гэта і вынік здзяйснення адарваных ад жыцця папяровых ведамасных "кіраўнічых указанняў". І пражэкцёрскіх навуковых рэкамендацый, уціску жывой ініцыятывы, ігнаравання народнага вопыту, канкрэтных мясцовых умоў. І. Дуброўскі — за разумную (без "глыбокай асушкі" і "спрамлення рэк"), стваральную, комплексную меліярацыю. У нарысах адлюстраваны шлях яго блуканняў па высокіх кабінетах з мэтай ажыццяўлення сваіх ідэй і задум. Зрошчаныя сваім вытворчым зместам з маральна-этычнымі пошукамі сучаснасці, творы І. Дуброўскага вызначаюцца сапраўднай народнасцю пазіцыі аўтара, характару героя, звычайна вылучанага некалькімі трапнымі графічнымі штрыхамі, як, напрыклад, неразлучныя сябры-апаненты гідратэхнік Вялешка і біёлаг Каржун, вучоны Бялкоўскі і інш. У час, калі ўваходзіў у моду, "бранзавеў" "старшынёўскі корпус", Дуброўскі пазбег гэтага захаплення: "Я менш за ўсё думаў пра гэта", — прызнаецца ён. Аддаючы належнае таленавітым кіраўнікам калгасаў, памятаючы іх імёны, аўтар аддае сваю ўвагу пераважна радавым працаўнікам зямлі — хлебаробам-кармільцам.

Між тым на парубежжы стагоддзяў ён быццам адышоў ад ранейшага правіла. Ва ўмовах агульнай дэстабілізацыі жыцця, эканамічнага розруху, духоўнага разладу напісаў, думаецца, Галоўную сваю кнігу — дакументальны раман "Гаснуць вулканы" (1997). Выхад у свет гэтай кнігі — факт сапраўды выключны. Дзевяностагадовага аўтара відавочна натхняла і падтрымлівала ўсведамленне грамадзянскага і прафесійнага абавязку — данесці праўду аб святле і цемрачы мінулага, паказаць неадольнасць высокіх гуманістычных ідэалаў. Свайго героя І. Дуброўскі адкрыў у блізкай яму, навуковай сферы, стварыўшы сапраўды манументальны, на ўвесь рост, партрэт Антона Раманавіча Жэбрака — славутага беларускага біёлага-генетыка. Паслядоўна адлюстраваны "круглы, нялёгкі" шлях уваходжання ў навуку гэтага народнага "самародка": ад бядняцкай сялянскай гаспадаркі да супрацоўніцтва з такімі зоркамі на навуковым небасхіле, як У. Вільямс, М. Вавілаў, М. Дубінін, Т. Морган і іншыя, да прэзідэнта Акадэміі навук БССР. Антон Жэбрак, ахвяра антынавуковага цемрашальства, мог супрацьпаставіць усясільнаму ваяўнічаму Злу толькі свой талент, чыстае сумленне і высакародства. Вобраз яго, ахутаны аўрай глыбокай павагі і цеплыні, успрымаецца як агульны помнік бязвінным пакутнікам мінулага. І як узор грамадзянскага падзвіжніцтва, надзвычай сугучны духоўным пошукам сучаснасці. "Гэтая драматычная гісторыя, — слушна адзначае У. Юрэвіч, — прымушае чытача схамянуцца і суаднесці захады тагачаснай барацьбы за справядлівасць у навуцы з сённяшнім станам яе..."

Лёс аўтара і яго героя ў многім тоесныя. Яму, таксама патомнаму селяніну, сыну шматдзетнай бядняцкай сям'і, наканавана было прайсці не адно "поле жыцця" — шлях, азначаны на самым пачатку раннім сіроцтвам — стратай маці і бацькі, вясковага актывіста, расстралянага на вачах дванаццацігадовага хлапчука белапалякамі. Сын стаў камсамольскім работнікам, скончыў рабфак, пасля — Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, аспірантуру пры Усесаюзным Інстытуце эканомікі сельскай гаспадаркі ў Маскве, абараніў кандыдацкую дысертацыю (1937), працаваў у 1937—1941, 1945—76 гадах загадчыкам сектара аграрных праблем Інстытута эканомікі АН БССР. У гады Айчыннай вайны камандаваў артылерыйскай батарэяй пад Масквой; цяжка паранены, зведаў жахі фашысцкага канцлагера. У мірны час спалучаў работу вучонага і пісьменніка. Заслугі І. Дуброўскага адзначаны ўрадавымі ўзнагародамі — ордэнам "Знак Пашаны", медалямі. Яму прысвоена ганаровае званне "Заслужаны работнік культуры БССР" (1981).

І сёння, на "заслужаным адпачынку", Ігнат Цімафеевіч жыве ў актыўным працоўным рэжыме. У гэтым я пераканалася ў час нядаўняй сустрэчы з ім. Ён зноў на пярэдніх рубяжах жыцця, дзе на рыначным вітку рэфармавання вырашаецца лёс сельскай гаспадаркі, а значыць, і краіны ў цэлым. Свае прапановы, абгрунтаваныя асабістым і агульным вопытам, Дуброўскі перадае ўрадавым установам. Ход жыцця пацвярджае слушнасць гэтых прапаноў. Мне застаецца толькі перадаць іх змест — прыкладна так: "Трэба ўзяць з мінулага ўсё лепшае. Рэфармаванне павінна быць па-ранейшаму сацыяльна-арыентаваным, гуманным, праходзіць эвалюцыйна (у гэтым несумненная перавага беларускай яго "мадэлі"). Зямля павінна быць уласнасцю дзяржавы як агульнанародная галоўная каштоўнасць. "Не!" прыватызацыі зямлі. Толькі буйныя сельскія гаспадаркі здольны пракарміць краіну, але ім трэба аб'ядноўваць самім і вытворчасць, і пераапрацоўку сваёй прадукцыі. Меліярацыя патрэбна, але цывілізаваная".

У нашым дыялогу гучыць і голас пісьменніка: "Цяжэй, чым камусьці з творчай інтэлігенцыі, жывецца сёння літаратару: гэта не толькі фінансавая бясхлебіца, але і рэдакцыйны ўціск і свавольства, якіх не было раней. Але трэба працаваць... "На рабочым стале Ігната Цімафеевіча — рукапіс новага твора — "Сямейнай хронікі ў форме аповесці", паводле яго вызначэння. Я гляджу на аўтара і па-добраму дзіўлюся. Ён — сапраўды "незвычайны" чалавек, як калісьці яго празвалі сяльчане-палешукі, прызнаўшы у ім "свайго". У каторы ўжо раз знаходжу невыпадковасць у яго псеўданіме. Тут сышліся і любоў да роднага кута — вядома ж, самай прыгожай смалявіцкай вёскі Дуброва, І асабістыя якасці характару, быццам узятыя ад любімага народам песеннага дрэва. Няхай жа і надалей будзе жыватворным для Вас гэты сімвал, дарагі Ігнат Цімафеевіч! Няхай не змяншаецца Ваша любоў да жыцця і Ваша ўмудронае "цікавасць да людзей" і яны адказваюць Вам тым жа...

**Антаніна ЛЫСЕНКА**

навукі. Па трыццатым годзе жыцця ён стаў кандыдатам сельскагаспадарчых навук, і яго пакідалі працаваць у інстытуце намеснікам дырэктара (па аспірантуры). Ці ж не моцную галаву трэба было мець яму, каб узняцца на гэтакі ўзровень?

Занятак навуковай працай, бадай, не дазволіў Ігнату Цімафеевічу цалкам пераключыцца на літаратурную глебу. Але ж і тут, і там ягоны плён вагавіты, і сёння, падсумоўваючы зробленае, набытае і перададзенае ў рукі чытачоў, пражытае ім, ёсць падставы сцвярджаць, што ў адной асобе чалавек здолеў пражыць два паўнацэнных і яркіх жыцці, і ў адным жыцці гэта — Чарняўскі, вучоны, эканаміст сельскагаспадарчай вытворчасці, а ў другім — Дуброўскі, выдатны пісьменнік-публіцыст, заслужаны работнік культуры Беларусі.

Выпадак рэдкі, і пры такім доўгім веку абодвух творцаў і жыхароў рэспублікі — Чарняўскага і Дуброўскага варта было б занесці ў сусветна вядомую кнігу Гінеса.

Мае сустрэчы з Ігнатам Цімафеевічам у апошнія гады паказалі, якой скрухай для яго абярнуліся развал СССР і крах камунізму ў свеце — усяго таго, чаму ён, дарэшты вычарпаўшы, аддаў два сваіх жыцці. Як чалавек разважлівы, ветэран партыі вінаваціць у гэтым не столькі Ельцына і Шушкевіча, да чаго схільны многія, колькі розных іхніх папярэднікаў і — найперш — Сталіна. "Сталін — чалавек бездухоўны, хоць і вучыўся ў духоўнай семінарыі.. Бездухоўнасць — асноўная загана людзей пры камуністычнай уладзе.Яны і прывялі краіну, якая мела найлепшую ў свеце праграму развіцця грамадства, да поўнага развалу".

Адсюль, пэўна, і адчуванне нішчымніцы на душы ў такі высокі век.

Але ж не ўсё страчана. Застаецца родная зямля, і тут трэба ладаваць жыццё па-новаму, па-свойму. Ігнат Дуброўскі не склаў сваіх рук і распрацаваў праграму рэфармавання сельскай гаспадаркі ў сучасных умовах. З ягонай працай пазнаёміліся міністры і іншыя высокія чыны: добра, кажуць, шаноўны, але не ад нас, прыгнобленых, кардынальныя змены залежаць. І вярнулі яму праект.

Таму да несусветнай скрухі ў душы старога творцы дамешваецца яшчэ і крыўда: мінуў час, калі яго розум быў патрэбен дзяржаве...

Праўда, калі гаворка заходзіць пра кнігі, твар Ігната Цімафеевіча прасвятляецца, маладзее і вочы выпраменьваюць ранейшае святло, з чаго палягае мая апінія: лёс Ігната Дуброўскага на сённяшні дзень дае большыя падставы для шчасця, чым лёс яго сабрата па крыві, па целу — Ігната Чарняўскага.

Толькі ж сёння я шчыра вітаю аднаго і другога. Мовячы мовай вясковага люду: дай Божа, каб добрыя людзі на камені і пад каменем разжываліся, а ліхія каб і на добрай раллі не раслі!

**Васіль ЯКАВЕНКА**

*Фота аўтара*

УРАЖАННЕ

# Беларуская мова і Царква

Так называецца новая кніга доктара філалагічных навук прафесара Івана Чароты. Гэта першая ў беларускай, ды і ў замежнай філалогіі спроба даць навуковы аналіз складанай праблемы суадносін старажытнай богаслужбовай і сучаснай нацыянальнай мовы ў практыцы Праваслаўнай Царквы. Разглядаецца шэраг праблем гістарычнага і тэарэтычнага планаў: гісторыя і прычыны захавання традыцыйнай Кірыла-Мяфодзіеўскай славянскай мовы богаслужэнняў, практыка і плён беларускіх перакладаў біблейскіх тэкстаў у XX ст. і інш. Як спецыяліст у галіне славістыкі, аўтар паказвае адпаведнасць і значэнне ўзнёслай духоўнасці і прыгажосці царкоўнаславянскай мовы для перадачы сакральнасці, духоўных таямніц праваслаўнага Богаслужэння, што робіць яе жывой у царкоўнай практыцы нашых дзён, нягледзячы на шматгадовыя ганенні ў савецкія часы. Характэрна, што аўтар разглядае праблему не толькі як навукоўца-славіст, але і як праваслаўны вернік, што знаходзіцца ва ўлонні Царквы і ведае адносіны царкоўнага народа да традыцыйнай мовы Богаслужэння, адчуванне ім глыбінь пакаяння, удзячнасці, хвалы і слаўлення Бога, што жывуць у прыгажосці і таямнічасці старажытных славянскіх тэкстаў і самой мовы.

Для Чароты — славіста і сучаснага беларуса-філолага —аднолькава блізкія і старажытныя нашы скарбы, і сучасныя праблемы перспектыў беларускай мовы. У гэтым характэрная рыса яго кнігі, аб'ектыўнасць і гарманічнасць яго падыходу да праблемы, актуальнай для ўсіх славянскіх краін, але больш складанай для сучаснай Беларусі, хаця беларуская мова па сваіх каранях глыбінна звязана з царкоўнаславянскай ад часоў хрышчэння Русі. Аб гэтым сведчыць і першая беларуская друкаваная кніга — "Библия руска" (1517 — 1519) доктара Скарыны, што выдадзена ім для хатняга чытання "люду простага паспалітага". Мэтай беларускай рэдакцыі яе славянскага тэксту з'яўлялася імкненне Скарыны наблізіць змест да чытача шляхам тлумачэння або замены асобных найбольш архаічных, ужо не зразумелых народу старажытных славянскіх слоў. Прадмовы ж да асобных кніг Бібліі напісаны Скарынам з больш шырокім улікам асаблівасцей мовы беларусаў таго часу. Што тычыцца кніг, прызначаных для богаслужбовага ўжытку, для малітвы ("Псалтыр", "Апостал", "Малая падарожная кніжка"), то яны надрукаваны на царкоўнаславянскай мове. І гэта сведчыць аб глыбокім разуменні нашым асветнікам і вучоным значэння царкоўнаславянскай пісьмовай мовы, створанай святымі Кірылам і Мяфодзіем для богаслужбовых мэт. Адначасова гэта сведчыць і аб месцы царкоўнаславянскай мовы ў жыцці беларусаў, бо згаданыя кнігі рэлігійнага зместу былі найбольш чытаемыя. Па Псалтыры нават вучыліся чытаць. Скарынава разуменне ролі і значэння мовы для хрысціянскай асветы — богаслужбовае і місіянерскае — жыве ў Праваслаўнай Царкве і нашых дзён; традыцыйная царкоўнаславянская мова ў Богаслужэнні і сучасныя мовы — у пропаведзі слова Божага, у штодзённым жыцці Царквы.

Аўтар кнігі паказвае неадменнае значэнне скарбаў жывой царкоўнаславянскай мовы ў духоўным жыцці і культуры Беларусі, для развіцця яе нацыянальнай мовы, спасылаецца на захаванне старажытных моў у богаслужэнні не толькі славянскіх народаў, але і ў Грэцыі, Грузіі і іншых краінах. Адначасова ён нагадвае, што Руская Праваслаўная Царква, яе місіянеры рабілі яшчэ ў XIX ст. для неславянскіх народаў Расіі пераклады Евангелля, богаслужбовых кніг на нацыянальныя мовы, напрыклад: зыран, татар, алеутаў... нават для японцаў. Аб магчымасці ўжывання пры патрэбе ў Царкве ўкраінскай і беларускай моў было рашэнне Перадсаборнага савета Рускай Праваслаўнай Царквы (1917 г.), аб гэтым гаварыў і св. патрыярх Ціхан. Наогул жа ў дарэвалюцыйнай Расіі царкоўнаславянская мова вывучалася ў школах. І зараз, праз 80 год забароны, царкоўны народ захоўвае павагу і любоў да духоўнасці і прыгажосці традыцыйнай богаслужбовай мовы, што не зніжае значэння і ролі беларускай мовы ў жыцці Царквы.

Аўтар кнігі з пазіцыі добрай нацыянальнай самасвядомасці, праваслаўнага разумення, ведання гісторыі і сучаснага царкоўнага жыцця, шляхам навуковага даследавання шматлікіх фактаў паказвае сапраўдныя, станоўчыя адносіны Праваслаўнай Царквы да нацыянальных моў, пачынаючы ад часоў святых Кірыла і Мяфодзія і да нашых дзён. На канкрэтных фактах з жыцця Беларускай Царквы, сучаснай моўнай падрыхтоўкі святароў і перакладчыцкай дзейнасці Беларускай Біблійнай камісіі Экзархата ён дае водпаведзь гэтым свядомым ці па няведанні нападкам на традыцыі, скарбы і сучасны стан Праваслаўя. Паказваецца і значэнне двухмоўнасці ў жыцці Беларусі як гістарычнага факта.

Асноўнае месца ў даследаванні займае беларуская мова. Толькі з вызваленнем з атэістычнага палону Царква змагла мець пэўным чынам падрыхтаваных святароў, прыцягнуць філолагаў, каб распачаць вельмі складаную справу стварэння адпаведнай моўнай базы для паўнавартаснага ўжытку ў сваім жыцці беларускай мовы. У кнізе разглядаецца асноўная для Царквы праблема якасці перакладу на беларускую мову Свяшчэннага Пісання і богаслужбовых тэкстаў. Для праваслаўных вернікаў Беларусі нібыта няма ў гэтым асаблівай праблемы: ёсць жа рускі дарэвалюцыйны сінадальны пераклад усёй Бібліі і Новага Запавету. Між тым, як сведчыць аўтар, наяўнасць беларускага тэксту — справа вельмі важная не толькі для тых, для каго беларуская мова па-сапраўднаму матчына, родная, але і як сведчанне паўнавартасці самой беларускай мовы, яе ўзроўню і развіцця, нарэшце месца нашага народа сярод хрысціян свету, бо Біблія ж перакладзена, цалкам або ў асноўных фрагментах, больш чым на 2000 моў. Сама практыка біблейскага перакладу — вялікая школа для перакладчыкаў, перспектыва развіцця і ўдасканалення самой беларускай мовы, стварэння ў ёй высокага стылю для духоўных тэкстаў. У Беларусі склалася, як нідзе, парадаксальная сітуацыя: ёсць шмат аўтарскіх перакладаў Евангелля, ёсць і ўсёй Бібліі, але ніводзін не прыняты ні Беларускай Праваслаўнай, ні Каталіцкай Царквою для поўнага царкоўнага ўжытку.

Справа ў тым, што кожны перакладчык дае сваё разуменне слоў, а значыць і тэксту, да таго ж у беларускай літаратурнай мове, якая склалася ў асноўным у часы атэізму і антыцаркоўнасці, няма распрацаванай рэлігійнай, багаслоўскай тэрміналогіі, ды і мовазнаўцы ў большасці далёкія ад царкоўнага разумення. Між тым, у справе перакладу асноўнае — захаваць менавіта царкоўнае, ад апосталаў, разуменне тэкстаў, саміх слоў Хрыста, ягоных прытчаў, ды і ўсіх богаслужбовых тэкстаў. Гэта вельмі складана і адказна.

Аўтар дае гістарычны агляд і мовазнаўчы аналіз біблейскіх перакладаў, зробленых беларускімі аўтарамі на радзіме і за яе межамі ў 1920 — 90-х гадах.

Расказваецца аб шматгадовай дзейнасці Біблійнай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы: камісія са святароў і мовазнаўцаў пераклала на беларускую мову тры Евангеллі (выдадзены Ад Матфея 1991г., Ад Марка 1999 г.) і некаторыя богаслужбовыя тэксты. Гаворыцца аб складанасцях перакладу, прычынах пэўнай недасканаласці і неабходнасці шырокага абмеркавання ў мэтах поўнага царкоўнага выдання беларускага Евангелля.

Асаблівую ўвагу надае аўтар выпрацоўцы рэлігійнай тэрміналогіі. На шматлікіх фактах ён паказвае існуючую блытаніну, калі адно і тое ж паняцце перадаецца рознымі, а часам неадпаведнымі словамі, што змяняе яго духоўны сэнс. Звяртаецца ўвага на адсутнасць у беларускай мове агульнай багаслоўска-рэлігійнай тэрміналогіі, што звязана з шматканфесійнасцю: на традыцыйна праваслаўны беларускамоўны базіс накладаюцца словы з касцельнай богаслужбовай практыкі, з польскай мовы. Асабліва гэта характэрна для публіцыстаў і СМІ. Глыбінна разглядаюцца неадэкватныя адносіны перакладчыкаў да слоў з традыцыйна славянскім коранем «благ», «блаж». Наогул, паказана неабходнасць вяртання ў сучасную мову традыцыйных славянскіх слоў духоўнага значэння, якія зніклі з беларускай літаратурнай мовы пад уплывам антыцаркоўнасці, паланізацыі, або набылі іншы сэнс у народнай мове, асабліва ў савецкія часы.

У манаграфіі І.Чароты разглядаецца шырокае кола пытанняў гістарычнага і тэарэтычнага планаў, асаблівасці практыкі беларускага перакладу Свяшчэннага Пісання, літургічных і багаслоўскіх тэкстаў; выкарыстаны вопыт іншых славянскіх краін, асабліва Сербскай Праваслаўнай Царквы, працы багасловаў якой І.Чарота шмат перакладае (гл. часопіс «Праваслаўе»). Асноўныя раздзелы кнігі: «Беларуская мова ў рэлігійнай сферы», «Значэнне Кірыла-Мяфодзіеўскай спадчыны для беларусаў», «Асаблівасці сучаснай моўнай сітуацыі», «Неаднамоўе з розных пунктаў гледжання», «Плён і вопыт перакладу Свяшчэннага Пісання на беларускую мову», «Адкрытыя і спрэчныя пытанні выпрацоўкі рэлігійнай тэрміналогіі»... У канцы кнігі ўпершыню друкуецца багатая бібліяграфія пытання.

Аб'ектыўная каштоўнасць кнігі ў рэалізацыі задачы, якую ставіў перад сабою даследчык як навукоўца і праваслаўны хрысціянін: "... давесці адэкватную інфармацыю па розных аспектах закранутай праблемы і ... паспрыяць пераадоленню стэрэатыпаў, якія выкарыстоўваюцца дзеля дыскрэдытацыі Царквы, а таксама дэзарыентацыі грамадскай свядомасці наогул".

Гэтаму спрыяе асаблівасць стылю кнігі, які спалучае навуковы падыход і аналіз з пэўнай палемічнасцю, характэрнай для І.Чароты як аўтара шматлікіх публікацый у навуковым, царкоўным і масавым друку, што робіць кнігу даступнай для ўспрымання і чытача-непрафесіянала.

Кніга "Беларуская мова і Царква" выдадзена з благаславення Мітрапаліта Філарэта Свята-Петра-Паўлаўскім саборам пры ўдзеле Праваслаўнага Брацтва Святых Віленскіх Мучанікаў.

**В. ДЫШЫНЕВІЧ,**
**бібліёграф**

ПРОЗА

Віктар ПРАЎДЗІН

# ТАНЦАВАЛЬНЫ МАРАФОН



1.

*Начальніку Докшыцкага РАУС Віцебскай вобласці Маёру міліцыі Кісценю Б. А.*

*рапарт.*

Паведамляю, што шостага чэрвеня 199 года да мяне звярнуўся з вуснай заявай жыхар вёскі Бягомль Сіўцоў Казімір Пятровіч. Ён паведаміў, што на дзевяноста восьмым кіламетры шашы Мінск—Віцебск у лесе, прыблізна ў ста метрах ад дарогі, стаіць машына "МАЗ" з прычэпам "фура". У грамадзяніна Сіўцова склалася ўражанне, што гэтая машына кінутая, але ў кузаве хтосьці ёсць, бо чуецца нейкае драпанне і стогны.

У той жа дзень я, сумесна з заяўнікам, выбыў на дзевяноста восьмы кіламетр вышэйпазначанай шашы для высвятлення абставін на месцы. У лясным масіве і сапраўды стаяў "МАЗ", дзяржаўны нумар 11-09 НП, машына-фура з металічным кузавам. Словы Сіўцова пацвердзіліся: у зачыненым кузаве быў чалавек, як потым высветлілася — Шапавалаў Іван Мікалаевіч, шафёр гэтай машыны. Ён патлумачыў, што вяртаецца з рэйса і двое сутак таму спыніўся на начоўку. У кабіне было горача, і Шапавалаў вырашыў заначаваць у кузаве. Замкі на фуры зачыняліся і адчыняліся толькі з аднаго боку — з вуліцы, і выпадкова зашчоўкнуліся. Шафёр стаў змушаным палонным сваёй машыны. Гэтае затачэнне, са слоў Шапавалава, доўжылася двое сутак. Расказ Шапавала выклікае сумненні, у праўдзівасць цяжка паверыць. Папершае, таму, што шафёр быў абсалютна голы, нават без сподняга, па-другое, пусты прычэп аказаўся непадрыхтаваным да начоўкі. Асабістыя рэчы Шапавалава, роўна як і нацельная бялізна, матрац, дзве прасціны, падушка, коўдра, ляжалі ў кабіне. Дакументы, грошы былі на месцы, таму версія магчымага крадзяжу ці рабавання адхілена і не разглядалася. Фізічных пашкоджанняў на целе вадзіцеля не выяўлена. Ад Шапавалава паступіла заява, у якой ён просіць ніякага разбіральніцтва не праводзіць, бо вінаватым у недарэчным здарэнні лічыць сябе.

Улічваючы вышэйпазначанае, лічу неабходным:

1. Разбіральніцтва па факце заяў Сіўцова і Шапавалава спыніць.
2. У мэтах недапушчэння ў далейшым падобных выпадкаў паведаміць кіраўніцтву аўтакалоны нумар пяць горада Мінска аб здарэнні і папярэдзіць, што далёкія рэйсы павінны забяспечвацца двума вадзіцелямі.

**Старэйшы ўчастковы інспектар**
**Докшыцкага РАУС**
**маёр міліцыі Папруга Г. Б.**

2.

Прапахлы тытунём кабінет быў невялікі, халодны і змрочны. Мэбля для такіх установаў звычайная: двухтумбавы стол, шафа для адзення, сейф, тры крэслы з чырвонымі спінкамі. На шырокім падваконні сіратліва туліўся патрапаны гаршчок,напалову запоўнены зямлёй, з якой тырчала бляклая расліна. Што расло, Хмара, як ні сіліўся, зразумець не змог, але перш, што зрабіў, — гэта добра-такі паліў сухую зямлю. Старыя, без усялякага малюнка, зеленаватыя шпалеры, пабачыўшыя на сваім вяку не адну сотню закаранелых злачынцаў, рабілі сцены кабінета гнятлівымі, нейкімі замкнёнымі ў прасторы, а абрамленае кратамі патрэсканае шкло ў адзіным вакне, здавалася, мутным халодным вокам зазірнула новаму гаспадару ў самыя патаемныя куточкі душы. Хмара адчуваў сябе няўтульна, але ведаў, што гэта часова. Ён хутка прывыкне і да пашарпаных сцен, і да кратаў на вакне, і толькі патрэсканае шкло ён заўтра памятае.

Другою паловай свайго першага працоўнага дня Хмара вывучаў справу за нумарам 385. Перачытаўшы яе ад вокладкі да вокладкі некалькі разоў, ён у роспачы задумаўся: навошта Мікуліч усучыў яму гэтую заведама зразумелую і амаль скончаную справу? Зноў душу раздзіралі сумненні і незразумелая злосць: "Што гэта — жарт, насмешка з маладога супрацоўніка?" — у думках распаляўся Хмара. Ён сумленна вышукваў у паперах хоць якую-небудзь дробязь, намёк, хоць бы слова на злачынны намер у адносінах да пацярпелага і не знаходзіў.

Занатаваныя ў справе падзеі адбыліся некалькі дзён таму ў парку Чэлюскінцаў у клубе "Каму за трыццаць" і тычыліся нейкага Шапавалава Івана Мікалаевіча, які там нечакана памёр. Ні агрэсіўнасці, ні злога намеру ў адносінах да нябожчыка ніхто з прысутных не праяўляў, ён танцаваў, быў як усе, і раптам памёр, імгненна і ціха. У справе мелася і медыцынскае заключэнне, у якім гаварылася, што Шапавалава напярэдадні выпісалі з бальніцы і ён знаходзіўся на амбулаторным далечванні з нагоды двухбаковага запалення лёгкіх. Пералічваліся медыкаменты, якія пацярпелы прымаў у бальніцы і якія прапісаны для ўжывання на далечванні. У выснове гаварылася, што смерць Шапавалава справакавана некалькімі прычынамі, і галоўнае — пацярпелы разам з моцнымі антыбіётыкамі ўжыў у вялікай колькасці гарэлку і шыпучае віно, хутчэй за ўсё — шампанскае, што выклікала алергічную рэакцыю. Алергія імгненна спаралізавала лёгкія, выклікала шок, хуткацечную кому і смерць. Фізічныя нагрузкі, у дадзеным выпадку — танцы, Шапавалаву былі супрацьпаказаны, яны паскорылі і ўзмацнілі алергічную рэакцыю на лёгкія. У дадатак пацярпелы два гады таму перанёс прыступ параксізмальнай тахікардыі, і гэта таксама значылася адной з прычын лятальнага зыходу.

Канечне, пэўная работа аператыўнаследчай групай была праведзена і ў асноўным тычылася збору звестак пра Шапавалава і падзеі, якія папярэднічалі няшчаснаму выпадку. Фармальнасць гэтай работы была відавочнай, дый паіншаму і быць не магло, бо ніякага крымiналу ў здарэнні нават не прагледвалася.

"Тады навошта, дзеля чаго Мікуліч падсунуў мне гэтую справу? — разважаў Хмара. — І што азначаюць падпалкоўнікавы словы: "Трэба ж з нечага пачынаць?"

Раніца наступнага дня выдалася надзіва сонечнай і цёплай. Лужыны на гарадскіх вуліцах блішчэлі серабром, але дажджу не было, гэта палівачныя машыны пастараліся стварыць святочную чысціню і жаданую прахаладу. Хмара трошкі прайшоўся па тратуары, збочыў у Севастопальскі сквер і наўпрасткі па добра-такі ўтаптанай сцяжынцы пашыбаваў да тралейбуснага прыпынку. Хтосьці, няўбачны за густым кустоўем, засвісцеў, мабыць, падзываючы сабаку.

Настрой у Хмары быў выдатны, ад учарашняй прыгнечанасці не засталося і следу. Лейтэнант быў перакананы, што справу Шапавалава ён атрымаў як вучэбны дапаможнік, і гэтае Мікулічава празмернае апекаванне сёння падалося смешным.

Пасля "пяціхвілінкі" Мікуліч папрасіў Хмару застацца і, медыцынскім скальпелем вострачы аловак, нецярпліва спытаў:

— Прачыталі справу?

— Так, — кіўнуў лейтэнант.

— Ну, і што можаце сказаць?

— Я цалкам згодзен з версіяй, што Шапавалаў памёр не гвалтоўна...

Судова-медыцынская экспертыза пацвярджае факт...

— Я ведаю, што сказалі эксперты, — Мікуліч рэзкавата перапыніў Хмару і насупіўся. Ён кінуў на стол аловак, схаваў у шуфляду скальпель. — А вось у мяне ёсць пытанні, і галоўнае, чаму хворы чалавек пацягнуўся на танцулькі? Няўжо пяцідзесяцігадовага мужыка не стрымала запаленне лёгкіх?

— Шапавалаў быў п'яны, зазначыў Хмара.

— Не п'яны, а выпіўшы, — з'едліва ўдакладніў Мікуліч.

"Ён што, здзекуецца?" — раздражнёна падумаў Хмара. Добры настрой знік, у душу закралася пачуццё прыгнечанасці, быццам штосьці яму не дадзена зразумець у гэтай справе.

— Шапавалаў прыйшоў у клуб "Каму за трыццаць" з жанчынай, — не звяртаючы ўвагі на імгненна зніякавелага лейтэнанта, вёў сваё Мікуліч. — Як яе?..

— Александровіч Галіна Віктараўна, — адказаў Хмара і нечакана зразумеў, што падпалкоўнік наўмысна цягне яго ў спрэчку.

— А чаму сяброўка Шапавалава не ўзгадала хваробу каханка? Не ведала? Малаверагодна Яны больш года ў даволі блізкіх адносінах

— Што зменіцца, калі мы ўстановім, што Александровіч ведала пра хваробу Шапавалава і змаўчала на допыце?

— Юрыдычна нічога, — ажно засвяціўся Мікуліч. — А цяпер трошкі пафантазіруем, паспрабуем лагічна абгрунтаваць з'яўленне пацярпелага ў клубе "Каму за трыццаць". Думаю, што без танцаў Шапавалаў мог абысціся, а вось без палюбоўніцы, можа, і не. Толькі навошта сустракацца ў клубе, калі ў Александровіч, як вядома, меліся асабістыя ключы ад халасцяцкай кватэры каханка?

— Мы не даведаемся, што ім кіравала, — раздражнёна прагаварыў Хмара. Слухаючы і назіраючы за Мікулічам, лейтэнант нечакана засумняваўся ў легендах, якія чуў пра гэтага чалавека. — Шапавалаў мог прыйсці ў клуб і каб напіцца, і каб патанцаваць, і каб сустрэцца з палюбоўніцай.

— Толькі не памерці! — задаволена ўскрыкнуў Мікуліч. — Таму я і хачу, каб вы знайшлі сапраўдную прычыну і дакладна высветлілі, чаму хворы Шапавалаў аб'явіўся ў клубе.

— І гэта ўсё? — шчыра здзівіўся Хмара.

— Не так і мала, — усміхнуўся Мікуліч і лагодна прабурчэў: — Я згодзен з афіцыйнай версіяй, толькі Шапавалаў не быў разухабістым мужыком, ціаў сваё здароўе, і асабліва — заробленую капейку Тая ж Александровіч, калі заўважылі, назвала палюбоўніка "прыжымістым мужыком".

3.

Чалавек, які знайшоў у лесе машыну Шапавалава, выглядаў гадоў на шэсцьдзесят, быў доўгі, худы і сутулы. Панурым і злым яго рабілі віслыя вусы, канцы якіх ён пастаянна накручваў на ўказальны палец левай рукі. У агромністай правай далоні хавалася люлька, і толькі смалісты, адпаліраваны да люстэркавага бляску муштук тырчэў з кулака і курэў тым дымам. Ён стаяў пасярод панадворка, маўклівы і манументальны, пыхкаў люлькай і, выцягваючы худую шыю, пазіраў на вуліцу. Прыезд Хмары для яго не быў нечаканасцю.

Лейтэнант павітаўся, назваў сябе. Сіўцоў таксама назваўся, востры кадык на доўгай шыі нервова тузануўся, у вусах, як і ў кулаку, курэў шызы дым.

— Мне трэба задаць вам некалькі пытанняў наконт шафёра, якога шостага чэрвеня вы знайшлі ў лесе ў зачыненай фуры.

Сіўцоў павольна заківаў сівой патлатай галавой, але нічога не адказаў. Ён азірнуўся на хату, ды так і застыў, вылупіўшы вірлаватыя вочы на адно з акон, за якім угадваўся жаночы сілуэт. Было відавочна, што Сіўцоў чакаў нейкага знаку. Гэта здзівіла Хмару, ён строга, па-начальніцку перапытаў:

— Дык вы памятаеце той выпадак ці не?

Жанчына ў акне знікла, пануры Сіўцоў нейк вінавата, але павесялела аглядзеў госця, рудыя вусы варухнуліся.

— Канечне, памятаю, не грыб знайшоў... Толькі я пра ўсё расказаў, і нат паперу падпісаў. Дык вы спытайцеся ў нашага ўчастковага, Генадзь Барысавіч лепей ведае, ён следства правіў...

— Хто знайшоў машыну, вы ці ўчастковы? — па-начальніцку строга спытаў Хмара. — Калі маёр Папруга, буду гаварыць з ім, калі вы і не хочаце адказваць, — што ж, прыйдзецца грамадзяніна Сіўцова затрымаць і даставіць у Мінск на допыт.

Сіўцоў нервова тузануў з губою люльку, адмахнуў ад твару едкі дым, зноў азірнуўся на акно, да якога прыпала шыракатварая жонка.

— Ды што мы тут стаім — нечакана замітусіўся віславусы. Яго быццам падмянілі, сутуласць зрабілася больш прыкметнай. — Заходзьце ў хату, там і пагаворым, — залісліві гаспадар і збочыў з асфальтаванай сцяжынкі.

"Гэта зусім іншая размова", — стрымліваючы ўсмешку, падумаў Хмара і накіраваўся да прачыненых дзвярэй.

— У справе таго шафёра не ўсё так гладка, — адразу і здалёк пачаў лейтэнант. — Пра ўсё гаварыць не маю права, толькі здаецца, Шапавалаў — добры манюка

— І мне, таварыш начальнік, так здалося

Размаўляючы, мінулі веранду, сенцы, прапахлыя прытарна-горкім дымам ад керагаза, і нарэшце Хмара апынуўся ў пакоі, пасярэдзіне якога высіўся накрыты белым абрусам стол. Ён быў застаўлены рознай снеддзю, у носе прыемна заказытаў пах смажаных шкварак. Каля акна з перакінутым цераз руку ручніком сцішылася невысокая жанчына. На загарэлым твары спалохам свяціліся карыя вочы, вусны неяк ненатуральна крывіла прымусовая ўсмешка. Гаспадыні было гадоў шэсцьдзесят ці каля гэтага.

— Дабрыдзень, — здрыгануўся голас у жанчыны, яна кашлянула і, спадылба зірнуўшы на мужа, таропка дадала: — Казічак, якраз і абед... Запрашай чалавека...

"А мяне тут чакалі", — здзівіўся Хмара, але сказаць нічога не паспеў. Гаспадар за спінай радасна забасіў:

— Не адмаўляйце, таварыш начальнік, чым багаты, тым і рады

— Вы ведалі, што я з міліцыі? — з цікаўнасцю пазіраючы на гаспадыню, усміхнуўся Хмара.

— А тэлефон нашто? — пачырванелі шчокі жанчыны. Яна машынальна змахнула з табурэткі ручніком, быццам выцерла пыл, запрасіла: — сядайце.

— Маёй бабе толькі ў міліцыі працаваць, — дабрадушна ашчэрыўся Сіўцоў, — усё пра ўсіх ведае, як тая балгарская Ванга...

— Не плявузгай лішняга, — лоўка рассоўваючы талеркі, буркнула гаспадыня. — Чалавек, перш чым да нас, каля Веркі Няфёдавай спыняўся, дапытваўся... А пакуль вы ў панадворку гаварылі, "насатая" патэлефанавала: вы ж прыехалі на міліцэйскіх "Жыгулях", хоць за плотам машыны і не відаць.

— Раскудахталася — сядаючы за стол і звысака аглядаючы стравы, паблажліва гундосіў Сіўцоў. Нечакана ён узняў на жонку здзіўленыя вочы: — Госць у хаце і без бутэлькі!

— Дык чалавеку няможна, ён жа за рулём! — трошкі зніякавела гаспадыня і ўставілася на лейтэнанта, чакаючы, якое ён прыме рашэнне.

— А табе Верка насатая пра шафёра нічога не напела? — цвёрда і катэгарычна змяніў Сіўцоў.

— Пра шафёра размовы не было, — пераняла позірк на мужа гаспадыня.

— Тады нясі і не сумнявайся, — Гаспадар ухапіў зубамі патухлую люльку. — Нясі пяршак, нечага госця разгаворамі карміць, а то даведаецца Папруга, як сталічнага госця сустракала, задасць такую прачуханку, што свету белага не ўбачыш.

— А ты выкінь свой смурод з рота, — злуючыся ці то на мужыка, ці то на суседку, якая нічога не сказала пра шафёра, узвысіла голас гаспадыня. — Усю хату засмуродзіў, ды што хату, Бягомль і той прасмярдзеў тваім тытунём клятым...

(Працяг на стар. 14 — 15)

## Зноў — лаўрэат



**У Італіі ўлетку праходзіў Міжнародны конкурс "Internazionali della Val Tidone", у тым ліку і піяністаў "Cenconso" Comme Pianello V.T. "sezione Pianoforte-Cat.C."**

**У ім ад Беларусі ўдзельнічала добра вядомая чытачам "ЛіМа" юная кампазітарка Дзінара Мазітава. Яна — стыпендыят Спецыяльнага фонду Прэзідэнта РБ па падтрымцы таленавітай моладзі, вучыцца ў Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі па класе фартэпіяна ў лаўрэата міжнародных конкурсаў А. Сікорскага.**

**На конкурсе ў Італіі першае месца ніхто не атрымаў, другое лаўрэацкае падзялілі наша Дзінара Мазітава і юнак з Германіі Клеменс Мюлер.**

**З новым поспехам!**

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

*На здымку: Дзінара МАЗІТАВА пасля абвяшчэння вынікаў конкурсу ў Вал-Цідоне.*

## Прэзентацыя дыска

**Не так даўно наш штотыднёвік анансаваў унікальнае выданне беларускай музыкі Сярэднявечча — кампакт-дыск "Легенды Вялікага Княства" і адзначаў, што на гэтым дыску прадстаўлена панарама тагачаснай ваярскай, рыцарскай музыкі, сучасныя кампазіцыі ў выкананні вядомых музыкаў і калектываў, якія супрацоўнічаюць з клубам "Рыцары Вялікага Княства".**

**Хутка з іх цудоўнай музыкай мы зможам пазнаёміцца жыўцом падчас прэзентацыі гэтага сувенірнага выдання, якую ладзіць маладзёжная ініцыятыва БМА-груп і клуб "Рыцары Вялікага Княства".**

**Прэзентацыя гэтага унікальнага выдання адбудзецца ў Доме культуры ветэранаў 7 верасня.**

**Пачатак імпрэзы ў 18.00.**

**Запрашаем усіх зацікаўленых старажытнай беларускай культурай!**

**А. МІТРАНОВІЧ**

## На розных мовах

**У Красным Розе, што непадалёку ад Бранска, і цяпер захоўваецца родавы маёнтак вядомага рускага паэта Аляксея Канстанцінавіча Талстога. Там створаны музей, які наведваюць людзі не толькі з Расіі, але і з далёкага і блізкага замежжа. Рэгулярна ладзяцца літаратурныя святы, прысвечаныя жыццю і творчасці Талстога. Нядаўна там зноў сабраліся пісьменнікі з Расіі, Беларусі і Украіны.**

**У Красным Розе гучалі вершы на розных мовах. Аднак мясцовыя жыхары і шматлікія госці добра разумелі паэтаў.**

**Гомельскую абласную пісьменніцкую арганізацыю сёлета на свяце годна прадстаўляў паэт Фелікс Мысліцкі.**

**Васіль БАРХАНАЎ**

ТВОРЧАСЦЬ

***"Што азначае слова "баламут"? Беларускія навукоўцы сцвярджаюць, што гэта жартаўнік, гарэзлівы спакуснік, нават інтрыган. Навукоўцы ж з Італіі з імі не згаджаюцца і лічаць, што слова гэтае складаецца з дзвюх частак: першая — bella, што значыць "прыгожы", а другая — mutasione: "дзіўныя змяненні пад уплывам розных узаемадзеянняў". З такіх тлумачэнняў пачыналіся канцэрты фальклорнага гурта "Баламуты" Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, якія прайшлі ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры эстрады і прысвячаліся 5-годдзю калектыву.***

***Канешне, такая трактоўка слова "баламуты" — жарт, але ж у кожным жарце ёсць доля праўды... Дык паспрабуем вызначыць, што ж гэта за з'ява — "Баламуты", пагутарыўшы з мастацкім кіраўніком гурта, дацэнтам кафедры народна-інструментальнай творчасці універсітэта культуры Валянцінай Трамбіцкай.***

# Баламуціць будзем разам!

**— Чаму гурт мае такую незвычайную назву і ці адпавядае яна творчаму кірунку калектыву?**

— Імя, як вядома, мае значэнне і для чалавека: лічыцца, што яно ў пэўным сэнсе вызначае і характар, і жыццёвы шлях. Тое ж, на мой погляд, і з калектывам: яго назва не павінна быць выпадковай. Яна можа нават вызначыць галоўную творчую ідэю, на якой грунтуецца асноўны кірунак дзейнасці. Таму, ствараючы ансамбль "Баламуты", я імкнулася ажыццявіць ідэю, якую даўно выношвала і якая здаецца мне сёння надзвычай актуальнай: праз гумар, праз здабыткі народна-інструментальнага фальклору, шматтэмбравыя непаўторныя галасы народных інструментаў перадаць сучасніка́м моц, стойкасць, трываласць, жыццёвасць нашых продкаў-беларусаў. Колькі цяжкіх выпрабаванняў было ў нашага народа, колькі войнаў і спусташальных разбурэнняў, колькі ахвяр, а народ жыве, мацуецца і верыць. А моцна дапамагае гэтаму, я цвёрда ўпэўнена, наша нацыянальная культура. І найперш — гумар, жарт, весялосць, аптымістычнасць, маральнасць, якімі яна прасякнута.

Ну, а чаму сродкам для ажыццяўлення гэтай ідэі абрала народныя інструменты? Гэта ж тое, што я лепш за ўсё ведаю, бо ўжо 25 гадоў выкладаю ў Беларускім універсітэце культуры, часта працую ў журы розных рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў. Да таго ж, лічу: мала нашы сучаснікі ведаюць сваю музычную спадчыну, у тым ліку і народныя інструменты, якія заўжды былі найважнейшым элементам культуры. Менавіта пяшчотны спеў дудачкі, срэбны перагуд цымбалаў, залівісты перабор гармоніка, звонкі воклік трубы, дробны россып бубна і былі тымі галасамі, якія раскрывалі душу беларуса, уплывалі на яго эмацыянальна і духоўна.

Кажуць, прыгажосць выратуе свет, а я б дадала — і гумар, жарт, якія абралі мы галоўным напрамкам сваёй дзейнасці. Гэта актуальна і ў наш час, час розных сацыяльных і жыццёвых перамен, калі людзям таксама патрэбна падтрымка. Таму наш рэпертуар грунтуецца на фальклорных узорах з ярка выяўленым аптымізмам, напоўнены смачным беларускім слоўкам, задзірыстай прыпеўкай, жартоўным танцам, яскравым народным вобразам. На канцэртах заўсёды ў зале рогат, а гэта значыць, што людзям падабаецца тое, што мы робім.

**— Напэўна, далёка не кожны студэнт можа быць удзельнікам такога ансамбля? Што трэба, каб адпавядаць званню баламута?**

— Так, удзельнікі гурта — людзі асаблівай пароды. Першая якасць, без якой у прынцыпе немагчыма быць удзельнікам "Баламутаў", — гэта прыроднае пачуццё гумару. Без яго нельга данесці да гледача сутнасць нашых праграм. Другая якасць — камунікабельнасць, імкненне да сяброўства, узаемнай падтрымкі, суперажывання. Гэта дапамагае і ў жыцці, і на сцэне, дзе стасункі паміж музыкамі ладзяцца праз позірк, жэсты, рухі, зразумелыя для іх. Наладзіць гэткі кантакт — адна з найбольшых цяжкасцяў у працы такога ансамбля. Акрамя таго, музыканты павінны падтрымліваць адзін аднаго ў час ігры, дапамагаць у складаных абставінах, якіх хапае на кожным канцэрце і якіх публіка не павінна заўважаць. Маленькія сакрэты, але каб авалодаць імі, патрэбна доўгая праца. Мы заўсёды імкнёмся стварыць атмасферу ўзаемадзеяння з гледачамі, і я ганаруся тым, што гэта ўдаецца. Нездарма нас заўсёды запрашаюць на святы, Каляды, Масленіцу, Купалле, кірмашы, калі праводзяцца народныя гулянні. А працу на плошчы я лічу самай складанай для музыкантаў — і ў фізічным, і ў эмацыянальным плане.



Трэцяя важная якасць — любоў да сваёй прафесіі, адданасць ёй. Удзел у фальклорным ансамблі вымагае самых разнастайных уменняў і талентаў, тут трэба не толькі выдатна граць на інструментах, прычым без нот, але і спяваць, і таньчыць, і быць драматычным акцёрам, і пластычна рухацца, і яшчэ шмат чаго. Не ўсе ўдзельнікі калектыву валодаюць у поўнай меры названымі якасцямі, але яны шмат працуюць, каб не быць горшым за іншых. А мне, як кіраўніку, вельмі імпануе агульны настрой моладзі на асабісты творчы рост. Бо ансамбль — гэта ў пэўным сэнсе садружнасць яскравых, таленавітых і ўмелых асоб.

**— І што вы лічыце больш важным: навучыць студэнтаў прафесіі ці злучыць іх у адзіны творчы арганізм? А, можа, — выявіць і падкрэсліць творчую індывідуальнасць кожнага?**

— Важна ўсё: і навучыць, і выявіць творчую індывідуальнасць, і стварыць ансамбль, з'яднаны адзінымі мэтамі. Нягледзячы на тое, што студэнты прыходзяць да нас пасля музычных вучылішчаў, яны шмат чаго не ўмеюць. Напрыклад, падбіраць на слых, імправізаваць, граць на інструменце стоячы ды яшчэ і прытанцоўваць пры гэтым. Без такіх уменняў у фальклорным ансамблі цяжка. А вучымся многа. Напрыклад, на тое, каб навучыць усміхацца ў час ігры на сцэне, ідзе амаль што год. Бо тая музычная адукацыя, якую студэнт атрымаў да ВНУ, абсалютна не мела на ўвазе стан мімікі музыканта. Музыканта ў нас прывыклі толькі слухаць, не зважаючы на ягонае аблічча. Для мяне ж на сцэне важна ўсё: і як іграе, і як выглядае.

Надзвычай важна выявіць творчую індывідуальнасць. Аднаму падабаецца спяваць прыпеўкі, другому — танцаваць, трэцяму — расказваць байкі ці анекдоты. У аднаго тэмперамент б'е цераз край, другі — сціплы ці лірычны, трэці — памяркоўны і разважны. Я стараюся ўлічваць усе гэтыя якасці пры стварэнні праграм. Нават індывідуальную знешнасць выкарыстоўваю: кантраст паміж ростам партнёраў ці фактурай, асаблівасці характару, пластыкі, тэмпераменту. Толькі так, на мой погляд, можна дасягнуць адчування кожным удзельнікам калектыву сваёй унікальнасці, значнасці для ансамбля, а значыць і задаволенасці вынікамі сваёй і агульнай працы. Важна выхаваць разуменне таго, што ўсе мы розныя, і гэтым і цікавыя.

А злучэнне асоб у адзіны творчы арганізм — праца карпатлівая і пастаянная. З аднаго боку, мы разам так многа часу, што, здаецца, само сабой атрымаецца гэтае злучэнне. З другога, у кожнага ўдзельніка — уласныя і характар, і выхаванне, і патрэбы, якія не заўсёды добра спалучаюцца. Вось тут і трэба папрацаваць кіраўніку. Сёння ў ансамблі семнаццаць чалавек, большасць — хлопцы...

**— Цікава пазнаёміцца з удзельнікамі ансамбля: якога яны ўзросту, адкуль прыехалі, чаму прыйшлі ў "Баламуты"?**

— Узрост удзельнікаў — самы студэнцкі: ад 18 да 26. Навучаюцца яны на розных курсах і прыехалі з самых розных мясцінаў, скончыўшы вучылішчы — музычныя або мастацкія. Некаторыя з іх атрымалі ў нас пэўны досвед, вырaслі ў прафесійным сэнсе. Ёсць і сапраўдныя зоркі.

Трэці год займаецца Аляксандр Каледа, чалавек апантаны, самазабыўна аддадзены народнай музыцы. Баяніст, ён цяпер асвоіў мноства іншых інструментаў: гармонік, кантрабас, бас-гітару, дудку, жалейку, саламянку, чаротку, акарыну, дуду. Грае нават на губным гармоніку. У яго заўсёды ў руках спецыяльны чамаданчык, поўны розных дудак, на якіх ён грае кожную вольную хвіліну, прытуліўшыся недзе на падваконніку ці на прыступках лесвіцы. Па характары вельмі сціплы, нават сарамлівы, за тры гады заняткаў ён зрабіўся актыўным, кампанейскім, а на сцэне адчувае сябе абсалютна смела, раскавана, арганічна. Гарманіст Сяргей Сачкоўскі ў ансамблі два гады. Ён валодае выдатнай тэхнікай, якая разам з багатай музыкальнасцю надае яго выкананню нейкую шыкоўнасць. Сяргей — прыроджаны саліст, лідэр, у ансамблі вядзе за сабою астатніх музыкантаў. Цяпер ён засвойвае і харэаграфію.

Ірына Стрыжак, наша вядучая, студэнтка спецыялізацыі "рэжысёр народных святаў", хаця і не музыкант, але надзвычай арганічна ўлілася ў калектыў, бо валодае ўсімі неабходнымі для сапраўднага "баламута" якасцямі і адказна ставіцца да працы. Шмат талентаў адкрылася ў яе за два гады ўдзелу ў калектыве: цудоўна спявае, танцуе, а ўжо ў выкананні прыпевак роўных ёй няма, прычым Іра і сама іх добра складае. Яе напарніца па прыпеўках, Іна Садаводава, ужо скончыла універсітэт і цяпер вучыцца ў магістратуры.

Найбольшы стаж удзелу ў ансамблі маюць Таццяна Пучкоўская ды Ірына Пятрова. Спачатку нічога, акрамя ігры на цымбалах, седзячы на крэселках і гледзячы ў ноты, яны не ўмелі. Сёння гэта сталыя артысткі. Саліруюць у віртуозных п'есах як цымбалісткі. Гледзячы на іх майстэрства, раскаванасць, багатую міміку, пластыку, артыстызм, не верыцца, што калісьці яны былі наўмелымі і непрыкметнымі.

**— Вядома, што ў складзе "Баламутаў" і ваш сын Канстанцін, які ўжо скончыў універсітэт культуры і выкладае на кафедры духавых інструментаў. Ці прылічваеце вы яго да зорак?**

— Ну, так азначыць уласнага сына я не рызыкну. Як маці, мне здаецца, што ён недапрацоўвае і можа дасягнуць большага.



Але, безумоўна, бачу яго творчы і прафесійны рост. Я імкнулася развіваць яго ўсебакова. Косця вучыўся на кафедры народных харавых спеваў, граў і спяваў у фальклорным ансамблі "Валачобнікі", а таксама ў "Шчодрыцы" мінскага Дома настаўніка і ў "Баламутах". Таму сцэнічнае і музычнае выхаванне прайшоў. Сёння ён ужо вядомы выканаўца, саліст: лаўрэат 1-й прэміі як выканаўца на фальклорных духавых інструментах Міжнароднага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік", лаўрэат Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. За гады вучобы пабываў на міжнародных фестывалях у Венгрыі, Германіі, Францыі, Галандыі, Бельгіі, Іспаніі, Македоніі, Украіне, Ізраілі, ЗША. Безумоўна, такі вопыт фарміруе музыканта, павышае яго ўзровень. А яшчэ Косця — прыпевачнік і гарманіст... Ён сёння самы спрактыкаваны з удзельнікаў, прафесійна ўплывае на моладзь і дапамагае мне. Напрыклад, з ліку сваіх студэнтаў стварыў ансамбль жалеек і сам у ім іграе. На сцэне ён вельмі надзейны — у самых неардынарных сітуацыях.

**— А як склаўся творчы і прафесійны шлях іншых хлапцоў і дзяўчат, якія пачыналі ў "Баламутах"?**

— З гонарам магу адзначыць, што большасць іх звязала сваё жыццё менавіта з народна-інструментальнымі ансамблямі — ці ў якасці кіраўніка, ці ў якасці выканаўцы. Значыць, ведаў, уменняў і навыкаў яны ў час вучобы набылі дастаткова, каб займацца гэтай нялёгкай справай. І нягледзячы на тое, што сёння прафесія музыканта непрэстыжная ў моладзі з прычыны мізэрнай аплаты, мае выпускнікі не здрадзілі свайму таленту, свайму прызванню.

Працуюць нашы выпускнікі па ўсёй Беларусі. Напрыклад, Алена Стома — выкладчык Баранавіцкага музычнага вучылішча і ўжо кіруе камерным ансамблем, Алена Усцінава выкладае цымбалы ў мінскай школе № 71, вядзе ансамбль цымбалістаў. Аляксей Буглай выкладае баян і гармонік у музычнай школе ў Нясвіжы, а Аляксандр Давыдзік — у Брэсце. У прафесійным ансамблі "Талака" Віцебскай абласной філармоніі грае Аляксандр Барздыка, у ансамблі "Дударыкі" мінскай гімназіі № 111 — Уладзімір Кавальчук...

Ансамбль "Баламуты" — уладальнік Гран-пры II Рэспубліканскага фестывалю "Студэнцкая вясна", лаўрэат Міжнароднага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік", двойчы лаўрэат Усебеларускага фестывалю гумару ў Аўцюках. Ездзіў на фестывалі ў Краснадар, у Венгрыю, у Італію...

**— Шмат сяброў прыйшло на вашы юбілейныя канцэрты ў Маладзёжны тэатр эстрады. Ці ўяўлялі вы, што іх так многа?**

— У народзе кажуць: не май сто рублёў, май сто сяброў. Паводле гэтага прынцыпу мы імкнёмся жыць, вельмі адказна ставімся да канцэртаў, да запрашэнняў выступіць. Імкнёмся, каб тыя, хто нас запрасіў, засталіся задаволенымі, бо вельмі любім і паважаем сваю публіку, і адчуваем узаемнасць. Мы былі рады бачыць на юбілеі сваіх сяброў, тым больш, што ўсе яны таксама добрыя баламуты. І паважаныя, аўтарытэтныя людзі. Дасціпных віншаванняў было шмат ад гарадскога і раённых аддзелаў культуры, ад Міністэрства культуры і Спецыяльнага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі, ад гарадскога цэнтра народнай творчасці "Адраджэнне", ад Аўцюкоўскага журы, ад Рэспубліканскага таварыства інвалідаў па зроку; ад медыцынскіх устаноў Мінска, дзе "Баламуты" даюць шмат дабрачынных канцэртаў...

Распацешылі публіку і нашы калегі па універсітэце, і маленькія баламуцікі са школы і дзіцячага садка, і тэатра клаунады "Жарт" пад кіраўніцтвам Галіны Сушыцкай: ён стварыў атмасферу баламуцтва ўжо ля ўваходных дзвярэй і ў фае, дзе праводзіліся гульні, конкурсы, розыгрышы, у якіх з ахвотай удзельнічалі ўсе.

Наогул, падчас святкавання сваіх імянінаў "Баламуты" выступалі не толькі ў тэатры эстрады, але далі шэраг розных канцэртаў...

**— Як ставяцца ўдзельнікі ансамбля да інтэнсіўнай канцэртнай дзейнасці? Як спалучаецца яна з вучобай, з асабістым жыццём?**

— Вядома, мы не філарманічны калектыў і канцэртуем у вольны ад вучобы час, але канцэрты — значная і важная для нас дзейнасць. Яна вучыць прафесіі не менш, чым лекцыі, семінары ці індывідуальныя заняткі па спецыяльных дысцыплінах. Да таго ж, усе атрымліваюць задавальненне, калі канцэрт удалы і наладзіўся добры кантакт з гледачом. Гэта ўзнімае настрой, стымулюе на новую працу. Нездарма нашы выпускнікі гавораць, што самыя моцныя і яскравыя ўспаміны пра іх вучобу звязаны менавіта з удзелам у "Баламутах".

**— Застаецца пажадаць вам новых творчых дасягненняў, удалых канцэртаў, цікавых паездак.**

**Надзея МІЦУЛЬ,**

**выкладчык Беларускага універсітэта культуры**

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*

ТЭАТР

# На ростанях

***Тэатрам у "абласным вымярэнні" сёння няпроста: напрыклад, у Слоніме, Гродне і Магілёве тэатральныя калектывы апошнім часам жывуць ( і выжываюць!) без галоўных рэжысёраў. Матэрыялам А. Ахметшына, які дзеліцца ўражаннямі пра гастролі ў Мінску Гродзенскага і Магілёўскага абласных драматычных тэатраў, "ЛіМ" працягвае роздум пра сучасныя мастацкія дасягненні абласных тэатраў Беларусі.***

I

Гродзенцы гастралявалі ў Мінску на сцэне Рускага тэатра. Гледачоў нязменна сустракаў рэжысёр Г. Мушперт — не "галоўны", але лідэр калектыву. Менавіта тры спектаклі Мушперта сведчылі пра тое, што сёння Гродзенскі абласны спасцігае сучасныя тэатральныя формы...

"Цвік" праграмы мінулых, двухгадовай даўніны гастроляў — спектакль "Кароль, дама, валет" У. Набокава зноў у фаворы. Раней гэта была прэм'ера. Сёння — спектакль, які "вытрываў выпрабаванне часам". Уражанне выклікае трывалая, "ансамблевая" ігра акцёраў Сяргея Курыленкі, Людмілы Волкавай і Аляксандра Шаўкаплясава. Іх персанажы і ёсць "кароль", "дама", "валет". Яны — у любоўным трохкутніку. Хтосьці павінен выйсці з яго, але хто?

Раман У. Набокава ператвораны ў п'есу самім рэжысёрам-пастаноўшчыкам Генадзем Мушпертам. У інсцэніроўцы адчуваецца схематызм пабудовы сцэнічнага сюжэта, расцягнутасць некаторых эпізодаў, згатанасць іншых. Але недахопы сцэнарыя рэжысёр "з верхам" запаўняе пастановачнымі знаходкамі: мастакі Розавы наблізілі сцэнаграфію спектакля да стылю палотнаў Сальвадора Далі. Глядач бачыць шырокі калідор, які вядзе ў далечыню; у сценах — дзверы, адзін персанаж уваходзіць у адны, другі — у іншыя. За імі яны знаходзяць (ці не знаходзяць) тое, што шукаюць. Жыццё, па меркаванні Набокава, як картачная гульня, у якой вядома толькі адно: хтосьці выйграе, а хтосьці прайграе.

Мадэрнісцкі настрой спектакля "Кароль, дама, валет" падхоплівае "Лялька" паводле Б. Шоу. Мадэрнізм тут праяўляецца не ў пастаноўцы, а ў самім змесце п'есы. У ёй, па словах самога Шоу, "павінен чуцца гоман і хруст сапраўднага жыцця, скрозь які часам праглядвае паэзія..." Драматург рэзка нападае на шляхетнасць англійскіх буржуазных нораваў, выводзячы пад святло рампы брыдкаслова Хігінса і падобную на яго як дзве кроплі вады, ягоную нявесту Элізу Дулітл. Акцёры Сяргей Курыленка і Святлана Завадская гераічна змагаюцца з надзвычай шматслоўным тэкстам п'есы. А рэжысёр спектакля Уладзімір Савіцкі ... спрачаецца з меркаваннямі Б. Шоу. У спектаклі рэжысёр нібыта "перавыхоўвае" самога драматурга, наўмысна паглыбляючы "калючую" п'есу ў свет прыгажосці і мілагучнасці. Нездарма цэнтральным персанажам спектакля робіцца маці Хігінса ў выкананні актрысы А. Гайдуліс. Яе прыгожыя, "англійскія" манеры перамагаюць над "рэвалюцыйным настроем" галоўных дзеючых асоб. Такім чынам, "рэвалюцыйнасці" Шоу (які, дарэчы, вітаў Кастрычніцкую рэвалюцыю) рэжысёр супрацьпастаўляе тэзіс аб тым, што насамрэч уратуе свет.

Наступны спектакль "транспартуе" гледачоў праз акіян — у Амерыку. Тэнесі Уільямс у сваёй "Татуіраванай ружы" трымае пэндзаль мастака на адлегласці выцягнутай рукі і малюе карціну-п'есу тлустымі мазкамі. Рэжысёр Генадзь Мушперт робіць тое ж: на сцэне пануе свабода. Тут насыпаны ўзгоркам сапраўдны пясок — сімвал інфантылізму некаторых герояў, якія гуляюць у пясочніцы. Тут бегае Чорны Казел — адлюстраванне злога року, што адняў у шчаслівых маці і дачкі іх мужа і бацьку. Мастак Веніямін Маршак падае непрадказальнасць лёсу ў выглядзе асфальтаванага шляху, які пачынаецца на сцэне і знікае ў далечы. Дзеянне спектакля насычана сюррэалістычнымі вобразамі "дзіўных суседзяў", натуралізмам вар'яцтва галоўнай гераіні, актыўнай ігрой светлавых эфектаў.

Антытэзай экзальтаванай "Татуіраванай ружы" з'яўляецца іншага плана мадэрнізм Надзеі Птушкінай. Спектакль па яе п'есе "Таццяна" мае падзагаловак "яшчэ адна гісторыя аб каханні". Гэта можна разумець як яшчэ адну гісторыю, расказаную рэжысёрам Рыдам Таліпавым. Так, "Таццяна" — сапраўды "яшчэ адна" распрацоўка любімай драматургамі і гледачамі тэмы, дзе, здаецца, ужо нельга сказаць нешта новае. Спектакль пастаўлены "класічна" — з павільёнам-шырмай і натуральнай мэбляванай кватэрай. Выканаўца галоўнай ролі актрыса Таццяна Харламава малюе свой персанаж удумліва і спакойна, па-чэхаўску. Яе гераіні ўжо за пяцьдзесят. У яе ёсць маці (А. Гайдуліс), пра якую яна клапоціцца ўсё жыццё, ахвяруючы сваім асабістым шчасцем. І цяпер, каб падтрымаць старую жанчыну, падараваць ёй радасць, Таццяна прыводзіць у дом ... "сваіх" мужа і дачку, хаця на самай справе яна — "старая дзева".

Рэжысёр згладжвае некаторыя авангардныя прыёмы "сучаснай" драматургіі і надае п'есе рысы класічнай камедыі. Але Р. Таліпаў застаецца Таліпавым. Нягледзячы на памкненне увасобіць доўгую п'есу да апошняга радка (адметнасць гродзенскіх спектакляў — іх празмерная зацягнутасць), рэжысёру ўдаецца расставіць у спектаклі патрэбныя акцэнты, якія ў пэўны момант узрушваюць, трапляюць у самае сэрца: якімі ж жорсткімі, эгаістычнымі з'яўляюцца людзі, як не ўмеюць кахаць і ... ўсё роўна хочуць быць шчаслівымі.

"Цвік" новай гастрольнай праграмы — зусім новы спектакль "Рок-канцэрт з Рыгорам Горыным" пастаўлены тым жа Генадзь Мушперт. Спектакль цяжка аднесці непасрэдна да драматычнага жанру. Ён нагадвае "літаратурна-драматычную" кампазіцыю з рок-музыкай і акцёрскім капуснікам, прызначаную для палацаў спорту. Мушперт аб'яднаў у адно тры зусім не звязаныя паміж сабой сюжэты з твораў Горына і стварыў рэквіем па драматургу. За аснову спектакля ўзята апаведанне "Выпадак на фабрыцы № 6". Інтэлігентны тэхнолаг Ларычаў пакутуе ад таго, што не ўмее брыдкасловіць — аднак толькі гэтую "мову" разумеюць яго падначаленыя. Тады ён і прымае рашэнне зрабіцца "такім, як усе", але ... памірае. Не вытрывалі нервы.

У Гродне гэты спектакль выклікаў сапраўдны ажыятаж у мясцовай публікі: смеласць рэжысёра (трэба сказаць, што аднаму з другарадных вобразаў у спектаклі рэжысёр надае рысы "звычайнага прэзідэнта"), актуальнасць горынскіх тэкстаў спатолілі прагу людзей да праўдзівага дыялога з тэатрам аб сучаснасці.

II

Больш за дваццаць гадоў Магілёўскі абласны драматычны тэатр не даваў гастроляў у Мінску. Нарэшце, гэтым летам яны адбыліся. На купалаўскай сцэне магілёўчане паказалі шэсць спектакляў.

У спектаклі "Калі б я ведала, што ты прыйдзеш — дык спякла б табе пірог..." Б. Слэйда добра бачна: за акіянам жыць лепш, жыць весялей. Рэжысёрскі почырк Андрэя Гузія мінскія гледачы ведаюць па "маладзёжных" пастаноўках на "Вольнай сцэне". З натхненнем рэжысёр паказвае публіцы закладзеныя ў п'есе падрабязнасці інтымных адносін між мужчынам і жанчынай. Аднак акцёрам Аляксандр П'янзіну (Джордж) і Алене Дудзіч (Дорыс) удаецца паміж рыфамі амаль непрыстойных эпізодаў годна правесці карабель драматычнай гісторыі.

Славаміра Мрожака называюць апошнім абсурдыстам XX стагоддзя. Спектакль "У адкрытым моры" па яго п'есе дапаўняе яго стыль сваёй абсурдысцкай манерай.

Тры чалавекі плывуць на плоце пасля караблекрушэння. Ежа скончылася. Гэта значыць, што... Але ўдаецца у падрабязнасці сюжэта можа толькі той, хто не ведае Мрожака. Але абраная формула (абсурд плюс абсурд) часам перашкаджае дакладна зразумець змест твора. Самыя галоўныя маналогі акцёры вымаўляюць у наўмысна наладжанай на сцэне атмасферы няўважлівасці. Адзін гаворыць, а іншыя... таньчаць, адцягваючы ўвагу гледачоў ад тэксту.

У Максіма Горкага ёсць "спрэчныя" і "бясспрэчныя" дасягненні ў літаратуры. Стваральнікі спектакля "Светапрастаўленне" абралі "спрэчнае". Так, Горкі можа быць актуальным і сёння. Але яго творы трэба вельмі ўважліва пераасэнсоўваць, бо некаторыя з думак аўтара не вытрывалі выпрабаванне часам.

Ягор Булычоў пад старасць моцна захварэў, і яго сваякі і знаёмыя спяшаюцца загадзя падзяліць спадчыну. Гісторыя драматычная і вартая ўвагі, аднак Горкі выводзіць у п'есе і другую сюжэтную лінію: узаемаадносіны Булычова і Царквы.

Рэжысёру Сяргею Палешчанкову ўдаецца стварыць натуральную, дакладную атмасферу, якая пануе ў доме Ягора. Але замест таго, каб па-новаму зірнуць на гісторыю трагічных памылак інтэлігенцыі і прадпрымальнікаў Расіі пачатку XX стагоддзя, ён паўтарае памылкі Горкага.



Яшчэ адно адкрыццё гастроляў — дыпломны спектакль маладога рэжысёра Уладзіміра Шчэрбаня "Шалёныя грошы" па п'есе А. Астроўскага. Мінскія гледачы ўпершыню бачаць яго спектакль, створаны на вялікай сцэне. У. Шчэрбань сёння працуе ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы, дзе ўжо паставіў два спектаклі на малой сцэне і толькі зараз рыхтуе прэм'еру на вялікай.

Актуальнасць твораў Астроўскага сёння відавочная. У грамадстве спеюць "гандлёвыя" зносіны, і грошы, а дакладней, іх колькасць, пачынаюць адыгрываць усё больш і больш значную ролю ў сістэме чалавечых каштоўнасцей. Сёння грошы "пранікаюць" у душу. Некаторыя людзі зараз адкрыта выказваюцца за ўзбагачэнне як сэнс свайго жыцця.

Сям'я Чабаксаравых збяднела. Але маці (Людміла Гурына) і асабліва прыгажуня дачка Лідзія (Яўгенія Белацаркоўская) прызвычаіліся траціць шалёныя грошы. Каб выратаваць становішча, Лідзія Чабаксарава вырашае выйсці замуж за чалавека, пра заможнасць якога ведае толькі па чутках. Ні дзяўчына, ні яе маці і не здагадваюцца, што сябры "багацея" — Цяляцьеў (А. П'янзін), Кучумаў (У. Галкін) і Глумаў (К. Печнікаў) — пажартавалі. На самай справе у Васількова (У. Пятровіч) "шалёных грошай" зусім няма!

Вобразнае прачытанне п'есы стваральнікі спектакля алюстроўваюць з першых жа мізансцэн (мастак У. Гараднякоў). Першыя крокі на сцэне акцёры робяць за вялікай залатой рамай. Да гледачоў героі спектакля "выходзяць з карціны". Пачынаецца імклівая гульня фантазіі рэжысёра і мастака. Вынаходлівасць абодвух уражвае. Напрыклад, калі два персанажы разважаюць пра трэцяга, той з'яўляецца ў раме, ілюструючы іх словы. Экіпаж, на якім героі катаюцца па Маскве, — драўляны конік на палачцы. Сапраўды, усе персанажы настолькі захоплены сваімі праблемамі, сваімі перажываннямі, што навакольныя рэчы здаюцца ім дробязямі. Моц Лідзіі ў спектаклі мае вельмі выразнае адлюстраванне: вялікі веер, які жанчына ніколі не выпускае з рук. Як раскрые — нібыта паўлін хвост распусціць — уражаныя мужчыны гатовыя падаць да яе ног.

Работа актрысы ў ролі Лідзіі вельмі ўпрыгожвае спектакль (у сімфанічным аркестры ёй адпавядала б партыя віяланчэлі). Актрыса дзейнічае свабодна, шчыра, спрабуючы адшукаць матывы паводзін свайго "адмоўнага" персанажа. Яе Лідзія — не капрызная сваволніца, а ахвяра асабістых страсцей.

...На гастролях Магілёўскі абласны паказаў яшчэ два спектаклі: "Моцнае пачуццё" па творах Ільфа і Пятрова, Чэхава, Зошчанкі і Маякоўскага, а таксама "Я сніў сад у шлюбным убранні" па Чэхаву. Публіцы спадабаліся гэтыя гумарыстычныя пастаноўкі ( рэжысёр першага — Ю. Лізінгевіч, другога — А. Жугжда). Але і яны цалкам не адлюстроўваюць усёй дзейнасці тэатра. Загваздка ў тым, што трупа не мае галоўнага рэжысёра. Тэатр толькі адчыніцца пасля рамонту і яшчэ знаходзіцца на ростанях.

**Андрэй АХМЕТШЫН**

*На здымку: «Рок-канцэрт з Рыгорам Горыным»*

*Фота А. ЛУЦЭНКІ*

## Пабачыць і адрадзіць

Цікавы аўтапрабег пад назвай "Гісторыя аб'ядноўвае" зладзілі 25—26 жніўня на поўдні Беларусі Маладзёжнае грамадскае аб'яднанне "Гісторыка" і Таварыства па ахове помнікаў тэхнікі і транспарту "Наша перамога". Гэтае падарожжа адбывалася па гістарычных мясцінах краю па маршруце Мінск—Слонім—Ружаны—Косава—Пінск—Дубае—Бяроза—Мінск на 5 рарытэтных аўтамабілях. Яго ўдзельнікі завітвалі ў навакольныя замкі і храмы. Мэтай акцыі было прыцягнуць увагу грамадства да праблем аховы гісторыка-культурнай спадчыны і заахвоціць насельніцтва да падобных вандровак.

Арганізатары акцыі такім чынам падсумавалі ўражанні ад гэтага гістарычнага падарожжа: "Нягледзячы на сумнае відовішча разбураных помнікаў, ёсць праца на будучыню і надзея, што мы, нарэшце, адродзім тое, чым ганарылася раней беларуская зямля".

К.П.

## Прадаўжальнік дэмакратычных традыцый

*27 жніўня споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння амерыканскага пісьменніка Тэадора Драйзера (1871—1945)*

На пачатку XX стагоддзя літаратура ЗША дала свету Тэадора Драйзера. Ён прыйшоў да простых людзей Амерыкі, каб расказаць пра іх жыццё, надзеі і памкненні. Гэта зрабіла пісьменніка прадаўжальнікам дэмакратычных традыцый У. Уітмена і М. Твена.

Нарадзіўся Т. Драйзер у сям'і рабочага. Яму рана прыйшлося самастойна зарабляць на жыццё: прадаваць газеты, працаваць у рэстаране, магазіне. Усяго толькі год выпала быць студэнтам універсітэта і толькі таму, што былая настаўніца заплаціла за вучобу. У пошуках заробку Драйзер пачаў супрацоўнічаць у газетах Чыкага, Сент-Луіса, Таледа, Нью-Йорка. Як рэпарцёр ён сутыкаўся з самымі рознымі з'явамі грамадскага жыцця Амерыкі: браў інтэрв'ю ў мільянераў і буйнейшых пісьменнікаў, пісаў пра трушчобы вялікіх гарадоў, пра забастоўкі і барацьбу працоўных.

З 1895 г. Т. Драйзер цалкам прысвяціў сябе літаратурнай дзейнасці. Вялікі творчы шлях пісьменніка пачаўся раманам "Сястра Керы", першае выданне якога было забаронена, а аўтара пазбавілі магчымасці выступаць у друку. Толькі пасля дзесяцігадовага перапынку з'явіліся раманы "Джэні Герхарт" і "Фінансіст", у якіх пісьменнік глыбока адлюстраваў карціну сацыяльных кантрастаў амерыканскага жыцця. У наступных творах у параўнанні з папярэднімі даецца крытыка амерыканскай рэчаіснасці. Так, у рамане "Тытан" Т. Драйзер паказаў, як бізнес кіруе ў краіне не толькі камерцыяй, але і палітыкай, а ў "Геніі" была ўзнята тэма мастацтва і бізнесу, якая выклікае вострую цікавасць і сёння. У 1925 г. выйшаў у свет буйнейшы раман пісьменніка "Амерыканская трагедыя", у якім тэмы ранейшых твораў знайшлі асабліва яркае і глыбокае мастацкае ўвасабленне.

У 1930—40-я гады Т. Драйзер вядзе актыўную грамадскую і публіцыстычную дзейнасць. У выступленнях гэтага часу, у працы над апавяданнямі сфарміраваўся той Т. Драйзер, голас якога на ўсю моц прагучаў у кнізе публіцыстычных нарысаў "Трагічная Амерыка", якая была забаронена праз месяц пасля выхаду ў свет. Але пісьменнік не спыняе барацьбы. У гэты час яго творчасць непарыўна звязана з палітычнай дзейнасцю, з актыўным удзелам у рабоце кампартыі ЗША, з антыфашысцкім рухам. Пісьменнік стаў у адзін рад з Максімам Горкім, А. Барбюсам, Р. Раланам і І. Бехерам як змагар за мір. У грамадска-палітычнай і публіцыстычнай дзейнасці Т. Драйзер знаходзіў сілы і для завяршэння смелых мастацкіх задум. Менавіта ў гэты час ён стварыў раман "Аплот" і працаваў над кнігай "Стоік" — апошняй з "Трылогіі жадання", у якую ўвайшлі таксама раманы "Фінансіст" і "Тытан".

Непахісная барацьбой за праўду жыцця Т. Драйзер адкрыў дваццатае стагоддзе амерыканскай літаратуры, праклаў дарогу буйнейшым амерыканскім пісьменнікам — С. Льюісу, У. Фолкнеру і Э. Хемінгуэю.

Кацярына ВАРАНЬКО,
галоўны бібліёграф Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

ПЕРАКЛАДЫ

# Паэзію Янкі Сіпакова ведаюць у Індыі

***У Індыі, у перакладзе на мову хіндзі сёлета выйшла кніга выбранай паэзіі беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Янкі Сіпакова. Кніга мае назву "Чорны Бог і іншыя вершы". У яе ўвайшлі вершы, балады, верлібры, санеты, у тым ліку і вядомы вянок санетаў "Жанчына", які перакладзены ўжо на рускую і украінскую мовы.***

***На хіндзі вершы Я. Сіпакова пераклаў выкладчык Універсітэта імя Джавахарлала Нэру ў Дэлі прафесар Вар'ям Сінгх, які за сваю перакладчыкую дзейнасць (пераклады вершаў А. Пушкіна, Ф. Цютчава і іншых рускіх паэтаў, кіргізскага эпасу "Манас") ушанаваны прэміяй Індыйскай Акадэміі мастацтва і літаратуры.***

***Вар'ям Сінгх нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Баху ў раёне Кулу — непадалёк ад тых мясцін, дзе жылі Рэрыхі.***

***Пра гэта расказваецца на чацвёртай старонцы кнігі, дзе пададзены біяграфічныя звесткі пра аўтара вершаў і яго перакладчыка. Тут жа згадваецца, што на мову хіндзі творы Я. Сіпакова перакладаюцца не ўпершыню — раней значная падборка яго вершаў была надрукавана ў адным з індыйскіх часопісаў, а таксама дзесяць вершаў было змешчана ў зборніку беларускай паэзіі, у які ўвайшло адзінаццаць паэтаў.***

***У кнізе змешчана таксама і прадмова да паэзіі Янкі Сіпакова, напісаная індыйскім крытыкам Хенанта Кукрэцы, з якой мы і знаёмім нашых чытачоў.***




Што ўяўляе сабой паэзія? І як пішуцца вершы? Несумненна, гэтае пытанне хвалюе не толькі паэтаў, але і крытыкаў, і чытачоў. А калі засяродзішся на гэтых пытаннях, узнікаюць думкі пра тое, а каму і для чаго патрэбна паэзія ўвогуле? Адказ на гэтыя пытанні якраз і вызначае аснову для творчасці шмат якіх паэтаў. Гісторыя сусветнай паэзіі якраз і засведчыла той факт, што паэтам па сваёй волі ці міжволі даводзіцца ахвяраваць пэўнымі правіламі ці так званым "прыгожым пастаянствам". Калі аднесці гэтыя і другія пытанні да творчасці беларускага паэта Янкі Сіпакова, якая заснавана на фактах паўсядзённага жыцця простага народа, то мы ўбачым, што паэзія служыць Сіпакову сродкам для выражэння пачуцця ўспрымання гэтых фактаў жыцця. Яго паэзія таму патрэбна толькі тым, хто хоча жыць па-сапраўднаму.

Кніга "Чорны бог і іншыя вершы" ўяўляе сабой выражэнне непарыўнай сувязі чалавека з прыродай. Аўтара хвалюе гэта сувязь. Творчасць Янкі Сіпакова, які бліскуча ўмее ператвараць простыя, звычайныя тэмы жыцця ў своеасаблівы кантэкст, ставіць звычайнага чалавека ў цэнтры, прытым не паказваючы яго ўсемагутным звышчалавекам. Сутнасць вершаў Сіпакова заключаецца ў тым, каб паказаць, што наш свет мае асаблівае значэнне і належыць ён усім нам без выключэння. У нашым свеце, калі матулі, бацькі, дзеці, бабулі, каханыя, жонкі і іншыя адлюстроўваюць свае сацыяльныя адносіны, то іншыя істоты, такія, як коні, вароны, быкі, дрэвы і г. д., таксама вядуць сваё чалавекападобнае жыццё. Можна сказаць, што перад чалавечнасцю звычайнага чалавека ляжыць пазачалавечы свет, у якім таксама "жыццё" займае своеасаблівае становішча.

Адной з характэрных рысаў стварэння гэтых вершаў з'яўляецца спроба аўтара апісаць, выразіць простую, але вечную прыгажосць чалавецтва і паказаць праз яе натуральныя з'явы, якія нясуць пэўную адказнасць за крайнюю бездапаможнасць і разбурэнне чалавека ў выніку складаней, навязваемай аўтаматызацыі. Напрыклад, нават у адным вершы "Я спытаўся ў камп'ютэра" можна ўбачыць сутнасць шэрагу вершаў, якая падсумоўваецца наступнымі радкамі-развагамі: акіян для цябе, камп'ютэр, толькі вада, назапашаная ў выглядзе некалькіх пластоў у агромністай яме, а вусны прыгожай жанчыны патрэбны ўсяго толькі для таго, каб есці. Чаму так? А таму, што любы мозг бездапаможны без сэрца. Такім чынам, як толькі разгадка з'явілася на свет, усё сказанае раней стала раптам зразумелым.

Лірычна настроены наш аўтар, здаецца, левы па поглядах. Ён выкарыстоўвае паэзію са звычайным гучаннем для выказвання свайго светаўспрымання. Для гэтага ён будуе сваю спецыфічную страфу. Аўтарскі герой — "чалавек" — валодае велізарным вопытам выказвання любві і здольны стварыць вобраз Бога ў сваім разуменні. Гэты вобраз Бога можа з'явіцца ў выглядзе працалюбівага селяніна, ці каваля, ці проста ў асобе нейкага складанага характару, які вечна памыляецца. Паэта пастаянна хвалююць нялёгкія пытанні, якія ўзнікаюць з глыбокай складанасці грамадства, з паўсядзённай жыццёвай барацьбы: на што падобны рэкі? чаму такі неспакой у кожнай кропельцы вады? ці ёсць мір у акіяне? чаму так бывае?

Аўтар лічыць гэтыя пытанні цэнтральнымі і не адпіхвае іх ад сябе куды-небудзь убок, зрабіўшы толькі нейкія навуковыя каментары без удзелу, без упамінання імя Чалавека. З гэтай прычыны вы не знойдзеце паэтычных стэрэатыпаў у творчасці Сіпакова. Хоць яго паэзія з'яўляецца добрым прыкладам цяжкога і сапраўднага выяўлення простых рэчаў. Аўтар не выбірае прыёмы моцнага спрашчэння, і таму яго работа з'яўляецца адлюстраваннем чалавечага аспекта харошай паэзіі. Такія работы бываюць вельмі рэдкія і вельмі нешматлікія.

Пераклад гэтых вершаў на самай справе вельмі цяжкая задача. Аднак не хапае слоў пахвалы прафесару Вар'яму Сінгху, пераклад якога ўжо шырокавядомы і прызнаны. Яго іншыя работы будуць доказам гэтаму. Паэт агромністай сілы і сардэчнасці схаваўся ў асобе перакладчыка — вельмі рэдкая рыса, але гэта праўда.

**Хенант КУКРЭЦІ**
*г. Дэлі*

# Мера чалавечага жыцця

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

судны пад шырокімі ветразямі. На гэтыя судны садзяцца матросы Калумба. Сядайце і вы з імі ў сваім уяўленні, чытаючы кнігу старонку за старонкай, вы будзеце бачыць і перажываць тое, што бачылі і перажывалі Калумб і яго матросы. Такое падарожжа ў мінулае, не выходзячы са свайго дому, стане старонкай вашага жыцця.

Калі ўсе сталі разыходзіцца, я спытаў у аднаго студэнта, хто ён такі, гэты цікавы чалавек. Студэнт сказаў, што гэта прафесар філасофіі. Ён перахварэў ці то на менінгіт, ні то на запаленне мазгоў і страціў здольнасць чытаць лекцыі студэнтам.

У апошні час шмат пішуць у перыядычным друку аб павелічэнні даўжыні чалавечага жыцця. Устаноўлена такая класіфікацыя людзей па ўзросце: людзі, якія дасягнулі 60 гадоў, лічацца пажылымі; якім больш за 75 гадоў — старымі; тыя, каму пераваліла за 90 гадоў, называюцца доўгажыхарамі.

Якіх толькі меркаванняў не ўзнікла аб павелічэнні жыцця чалавека... Колькі выказана здагадак, чаму асобным людзям удаецца дажыць да 100 і больш гадоў.

Нехта доктар Раланд Прынзінгер выдаў кнігу "Гультаі жывуць даўжэй". Прычына доўгажыцця гультаёў у тым, што яны ашчаджаюць сваю энергію. У аснову разлікаў выдаткавання чалавекам (чытайце — гультаём) энергіі, узята ашчаджэнне энергіі кракадзілам. Кракадзіл жыве да ста гадоў таму, што мала выдаткоўвае энергіі. Злавіў сваю ахвяру, праглынуў, запатоліў свой голад і ляжыць на сонцы або спіць. Гультай з гультаёў. Спосаб ашчаджэння энергіі кракадзілам доктар Прынзінгер перанёс на чалавека: раз кракадзіл жыве доўга ў выніку эканоміі жыццёвай энергіі, то ўсе людзі, якія доўга жывуць, — гультаі.

Хіба можна сілу кракадзіла, каня, вала, вярблюда і іншых жывёл, або электраматора, паравіка параўноўваць з рабочай сілай чалавека?! Рабочая сіла чалавека — адухоўленая сіла. Чалавеку вядома натхненне, працавітасць, асэнсаванне і ўсведамленне сваёй дзейнасці. Нічога гэтага няма ні ў каня, ні ў вала, ні ў кракадзіла.

Згодна тэорыі доктара Прынзінгера, усіх доўгажыхароў трэба аднесці да гультаёў. А ўслед за гэтым перагледзець сацыяльную палітыку, адмяніць усякія льготы людзям, якія дажылі да глыбокай старасці.

Амерыканцы — народ дасціпны. Амерыканскія вучоныя не сталі падлічваць, падобна доктару Прынзінгеру, колькі мільярдаў удараў зробіць сэрца гультая і колькі мільёнаў удыхаў зробяць яго лёгкія за ўсё жыццё.

Амерыканцы абследавалі саміх доўгажыхароў, каб выявіць, што, якія ўмовы спрыялі іхняму доўгаму жыццю. Было абследавана 2400 чалавек. Выявілася, што ў абсалютнай большасці доўгажыхароў, за выключэннем адзінак, былі свае ідэі, свае ідэалы, якіх яны імкнуліся дасягнуць у сваёй дзейнасці. Тыя некалькі чалавек, якія не мелі сваіх ідэалаў, вызначаліся працавітасцю. Гультаёў сярод доўгажыхароў не аказалася.

Кожны чалавек — токар, слесар, будаўнік, швачка, ткачыха, земляроб, інжынер, вучоны і г. д. можа мець свой ідэал, сваю ідэю, сваю мэту, дасягнуць якую ён імкнецца ў сваім жыцці.

Задумы, мэты, ідэалы кожнага чалавека не заўсёды поўнасцю ажыццяўляюцца, але заўсёды маюць станоўчае значэнне. Пра значэнне ідэала чалавека ў яго дзейнасці добра сказала руская паэтэса Навэла Матвеева: "Высоко ты в небе, звезда идеала, но стремленье к тебе это тоже немало".

Я сам належу да групы доўгажыхароў, мне ўжо акруглілася 95 гадоў. Каб чытачы не падумалі, што я дасягнуў гэтага ўзросту гультайствам, мушу прызнацца, хоць гэта крыху і нясціпла, што кожны від маёй дзейнасці адзначаны высокай урадавай узнагародай. За навуковую работу ўзнагароджаны ордэнам "Знак почета"; за літаратурную дзейнасць — ордэнам "Дружбы народов"; за ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне — ордэнам "Отечественной войны" другой ступені і медалямі. А з гультаямі гэтага не бывае.

Мне не ўдалося здзейсніць усё, што было задумана і што было ў маіх сілах. Не ўсё ад мяне залежала. Але гультаём сябе не лічу.

Я ўдзячны выпадку сустрэчы з прафесарам Драздовічам, які адкрыў мне два напрамкі ўзвышэння чалавечага жыцця: адзін — фізічны, павелічэнне колькасці гадоў жыцця, другі — духоўны, узбагачэнне жыцця дзейнасцю і ведамі, што робіць жыццё чалавека не толькі доўгім, але і вялікім.

Удзячны яму і за тое, што ён паказаў мне на машыну часу — кнігу, дзякуючы якой і я стаў удзельнікам Пунічных войнаў і сведкам многіх гістарычных падзей, якія адбываліся ў мінулыя вякі на нашай Зямлі.

Што да нашай Бацькаўшчыны, да нашай прыгожай Беларусі, то я пабываў ва ўсіх яе гарадах і амаль ва ўсіх раёнах, паблукаў па яе дрымучых пушчах, пазычыў бадзёрасці ў блакітах яе азёраў. Гэтаму спрыялі частыя службовыя паездкі, а то і на сваіх дваіх.

***5 верасня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння вядомага драматурга, празаіка, навукоўцы Віталя Фрыдрыхавіча Вольскага. Некаторыя моманты яго складанага і шмат у чым супярэчлівага жыцця застаюцца загадкавымі па сённяшні дзень і выклікаюць разнастайныя меркаванні. Адказ на частку такіх загадак пісьменнік даў у аўтабіяграфічным рукапісе "На зломах эпохі", над якім працаваў да апошняга свайго дня.***

***Прапануем чытачу некалькі старонак з неапублікаванай кнігі ўспамінаў пісьменніка.***

Віталь ВОЛЬСКІ

# На зломах эпохі

## Новыя думкі, новыя настроі

Пасля адпачынку ў Ленінградзе я вярнуўся ў Оршу, але доўга там не затрымліваўся. У той жа дзень аформіў свае справы і паехаў у Мінск.

У Мінску мяне па-ранейшаму чакала праца ў Сакрэтна-палітычным аддзеле ДПК БССР. Не магу сказаць, каб яна мяне цяпер вельмі вабіла, каб я імкнуўся да яе з той жа ахвотай, як калісьці. Хутчэй наадварот. Цяпер, ва ўмовах мірнага часу я адчуў, што ўсё больш і больш цягне мяне да навуковай і літаратурнай дзейнасці. З новай сілай абудзіліся ў маёй душы старыя захапленні этнаграфіяй, фальклорам, заалогіяй і краязнаўствам. Хацелася займацца зборам і вывучэннем сабраных матэрыялаў не ўрыўкамі, не зрэдку, ад выпадку да выпадку, як раней, а сістэматычна. Хацелася самому ўдзельнічаць у магутным уздыме той, як тады казалі, "культурнай рэвалюцыі", якая ахапіла на пачатку дваццатых гадоў шырокія народныя масы горада і вёскі.

Маім настроям спрыяла і тое, што я пачаў заўважаць у дзейнасці ДПК некаторыя, пакуль яшчэ мала прыкметныя, але непажаданыя змены і павевы. Яны пачалі выяўляцца ў новых метадах агентурнай і следчай працы органаў дзяржаўнай бяспекі. Адносіны начальства да падпарадкаваных пачалі паступова змяняцца. Узмацняўся адміністрацыйна-камандны націск. Грубы загад і халодная пагарда зверху ўніз прыходзілі на змену духу сяброўства, таварыскасці і рэвалюцыйнай салідарнасці. Пачала пераважаць зняважлівая недаверлівасць начальства да падпарадкаваных. У адказ на гэта непазбежна ўзнікала і схаваная недаверлівасць падпарадкаваных да свайго начальства. Усё гэта было раней зусім не ўласціва чэкістам.

## Вобыск

Часам такое надараецца ў жыцці, пра што потым і ўспамінаць не хочацца. Але нічога не зробіш. Што было, тое было. Ніводнага, нават самага непрыемнага факта выкрасліць з уласнага мінулага немагчыма. Як бы гэтага ні хацелася. Мінулае назаўсёды застаецца пры табе, незалежна ад твайго жадання.

Гадоў трыццаць таму, ці нават болей, неўзабаве пасля таго, як Артур вярнуўся з флоцкай службы, прыйшоў ён да мяне і пытаецца:

– Ці праўда, тата, што ты рабіў вобыск у Якуба Коласа?

– Праўда, — адказваю, — было такое. А ты адкуль ведаеш?

– Ды вось Толя Вялюгін казаў...

У Артура былі тады сяброўскія адносіны з Анатолем Вялюгіным. І, шчыра скажу, мяне гэта трошкі турбавала, бо ўплыў старэйшага паэта на маладзейшага мог быць далёка не самым карысным.

Давялося мне расказаць сыну ўсё, як было. Каб не заставалася ў яго сумненняў наконт мінулага бацькі.

Да распрацоўкі "справы Лістапада" я непасрэдна дачынення не меў. Ведаў, што пад гэтай справай мелася на ўвазе раскрыццё нацдэмаўскай змовы, мэтай якой была, нібыта, ліквідацыя савецкай улады на Беларусі. Ці адпавядала гэта сапраўднасці? Сёння я не ўзяў бы на сябе смеласць сцвярджаць такое. Столькі адкрылася нечаканага, столькі даводзіцца пераглядаць нанова! Часам нават пачынаеш сумнявацца, ці так жыццё пражыта, ці на тых багоў маліўся. Але ў той час сумненняў сур'ёзных яшчэ не было. Усе мы былі прасякнуты адзінай і непарушнай верай у справядлівасць справы, якой прысвяцілі свае маладыя гады.

Я трошкі здзівіўся, калі мне даручылі правесці вобыск на кватэры Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча, які меў, па некаторых звестках, перапіску з людзьмі, блізкімі да Лістапада. Я ўжо разумеў, што такое Якуб Колас для Беларусі, ведаў на памяць некаторыя яго вершы.

– Таму і пасылаем вас, — сказаў начальнік, выслухаўшы мяне. — Трэба, каб у Коласа не засталося вялікай крыўды ні на савецкую ўладу, ні на нас з вамі...

Разам са мной рабіць вобыск было даручана яшчэ аднаму чэкісту. Звалі яго ці то Раманцаў, ці то Румянцаў. Дакладна не памятаю. На Беларусь, як і я, прыйшоў ён з Петраграда. Да гэтага быў балтыйскім маракам. Слухаючы па дарозе яго незадаволенае буркатанне пра тое, што занадта мы цацкаемся з контрай, я падумаў: невыпадкова начальства падключыла да гэтай справы мяне.

Канстанцін Міхайлавіч сустрэў нас так, быццам даўно чакаў. Ніякага здзіўлення, ніякага сполаху на твары. Аблічча яго адразу выяўляла ўнутраную сутнасць: чалавек з сялянскай мудрасцю, інтэлігент ад зямлі, калі можна так сказаць, настаўнік па- прыродзе сваёй...

Вобыск быў зусім не такі, як гэта звычайна ўяўляецца. Ні перакуленай мэблі, ні параскіданых рэчаў, ні ўспоратых падушак і сеннікаў. Я адразу папрасіў у Канстанціна Міхайлавіча тое, што найбольш цікавіла нас, — перапіску. Гаспадар, ні слова не кажучы, адчыніў шуфляду стала, дастаў з яе і працягнуў нам стосік акуратна складзеных лістоў. Я ўважліва пераглядзеў іх, пакінуў сабе тыя, што маглі зацікавіць следства, астатнія, гэтак жа акуратна склаўшы, вярнуў гаспадару.

– Гэта ўсё? — спытаўся Канстанцін Міхайлавіч зусім спакойна. Хаця ў паглядзе яго адчуваўся адбітак унутранай стомы. Мне стала ніякавата пад гэтым поглядам. Быццам я зрабіў толькі што нейкую не дужа чыстую справу.

– Усё, — адказаў я, — толькі...

У вачах гаспадара мільганула насцярожанае пытанне.

–...ці нельга рукі памыць? — скончыў я.

І шмат пазней, сустракаючыся з Якубам Коласам, я адчуваў быццам бы тую самую ніякаватасць. Мне здавалася, што ён захаваў недзе глыбока ў душы крыўду на мяне. Можа, так гэта і было, можа, — не. Занадта мудры чалавек быў Якуб Колас, каб не зразумець майго ўласнага стану, маіх адчуванняў падчас таго непрыемнага для нас абодвух эпізоду. Тым больш, што па выніках вобыску ніякіх мер да паэта прынята не было.

Аднаго разу, пасля вайны ўжо, я зайшоў да Якуба Коласа па нейкіх акадэмічных справах.

– Ведаеце, Віталь Фрыдрыхавіч, — сказаў раптам Канстанцін Міхайлавіч, — перачытаў вашага "Несцерку". Вы самі не разумееце, што напісалі

– Добрая п'еса, — уставіў сваё слова Іван Шамякін, які прысутнічаў пры гэтай размове.

– Не проста добрая, — павярнуўся Якуб Колас да Івана Пятровіча, — геніяльная...

Я не стаў бы тут прыводзіць такога прыемнага для мяне выказвання аднаго з бацькоў сучаснай беларускай літаратуры, каб не было сведкі. Спадзяюся, што Іван Пятровіч не адмовіцца пацвердзіць тое, што было сказана пры ім.

З таго дня я больш не адчуваў ранейшай ніякаватасці, сустракаючыся з Якубам Коласам.



## Справа Пчолкі*

У маі 1926 года мяне выклікаў да сябе начальнік сакрэтна-палітычнага аддзела Рэмізаў.

У 1924—25 гадах я быў адказным сакратаром аб'яднанага калектыву камсамола ДПК БССР, а Іван Дзмітрыевіч быў прымацаваны да нас ад бюро партыйнай арганізацыі. Адносіны яго да мяне былі заўсёды добразычлівыя і па службовай, і па партыйнай лініі. Я ведаў, што Рэмізаў стары член партыі, у мінулым рабочы, і паважаў яго. Як начальнік ён быў для мяне аўтарытэтны. Не ведаю дакладна, як склаўся лёс Рэмізава, але чуў потым ад людзей, што ў далейшым ён служыў у Маскве, атрымаў там званне генерал-лейтэнанта і памёр у час вайны.

Сёння ўначы, — павольна прамовіў Іван Дзмітрыевіч, — дастаўлены з Полацка арыштаваны там Пчолка. Паводле папярэдніх, яшчэ не правераных звестак, ён стары манархіст, вялікадзяржаўнік. Магчыма, удзельнік якой-небудзь контррэвалюцыйнай групы. Магчыма, ён звязаны нелегальна з аднадумцамі ў іншых гарадах. Можа, напрыклад, у Ленінградзе. Трэба праверыць. Я мяркую даручыць справу Пчолкі вам. Пазнаёмцеся з ёю. Пагаварыце з арыштаваным. Падумайце. Паведаміце мне.

Начальнік аддзела, заўсёды падцягнуты і акуратна апрануты, спакойны, стрыманы і нешматслоўны, паглядзеў на мяне стомленым, але ўважлівым позіркам і змоўк. Пачаў праціраць шматком замшы свае акуляры ў залатой аправе.

– Добра, — сказаў я, таксама крыху памаўчаўшы.

Развітаўся і выйшаў.

На працягу некалькіх дзён я дбайна вывучаў матэрыялы агентурнай распрацоўкі, вынікі знешняга і ўнутранага назірання, пратакол папярэдняга допыту Пчолкі, праведзенага ў Полацкім акруговым аддзяленні. Дакладна азнаёміўся з яго біяграфіяй. Некалькі разоў гутарыў з арыштаваным. Гаварыў па тэлефоне з Полацкам.

Высветлілася, што Пчолка — пісьменнік. У дарэвалюцыйны час напісаў і выдаў у Віцебску два зборнікі гумарыстычных апавяданняў з жыцця і побыту сялян Полаччыны. Нічога палітычна шкоднага ў яго кніжках я не знайшоў. Адчуваліся ў некаторых апавяданнях часамі ўплывы Чэхава і Гогаля. Па адукацыі — юрыст.

У асобе Пчолкі не было ніякіх загадак. Працаваў раней народным суддзёй. Цяпер не працуе па старасці. Пенсіянер. Выступае часам у клубах як кіраўнік і ўдзельнік сямейнага музычнага аркестра, які складаецца з яго дзяцей. Выступае з чытаннем на клубнай сцэне сваіх апавяданняў. Карыстаецца папулярнасцю. Да савецкай улады лаяльны. Чалавек сумленны, шчыры і прастадушны. Жыве інтарэсамі сваёй вялікай сям'і. Падстаў для зняволення Пчолкі і прыцягнення яго да крымінальнай адказнасці не было. І я вырашыў, што трэба Пчолку вызваліць, а справу скасаваць. Сваю пастанову з такім прыблізна зместам я праз адпаведны час паклаў на стол перад Рэмізавым. Іван Дзмітрыевіч моўчкі прачытаў яе і не запярэчыў. Пасля некалькіх пытанняў, на якія я адказаў, ён узяў пяро і падпісаў рэзалюцыю аб вызваленні Пчолкі і скасаванні справы. Паклаўшы пяро, задумаўся. Мне здалося, што ён нечым незадаволены. Пасля невялікай паўзы адкінуўся ў крэсле і, не гледзячы на мяне, сказаў:

– Шкада! Усё ж такі шкада! Ёсць думка ў высокіх інстанцыях, што пасля працэсу Лістапада працэс вялікадзяржаўнікаў будзе якраз дарэчы. Зразумела, калі матэрыялы яго будуць цалкам адпавядаць палітычным патрабаванням часу. Падрыхтаваць і правесці яго, трэба, канешне, умела. Пчолка, сапраўды, як быццам не падыходзіць для таго, каб стаць цэнтральнай фігурай такога працэсу. З ім, мабыць, паспяшаліся ў Полацку. Што ж, трэба працягваць пошукі. Трэба шукаць і знайсці. За такі працэс вы маглі б атрымаць высокую ўрадавую ўзнагароду, мне так здаецца.

На гэта я нічога не адказаў. Прапусціў, як кажуць, міма вушэй. Але для сябе адпаведныя вывады зрабіў.

## Трэба змяніць працу

Эпізод з арыштам Пчолкі з'явіўся для мяне яшчэ адным сур'ёзным доказам таго, што трэба як хутчэй, пакуль яшчэ не позна, кінуць працу ў органах дзяржаўнай бяспекі. Былі падставы меркаваць, што ДПК можа неўзабаве ператварыцца ў нешта накшталт старой царскай "охранки", ці нават у нешта яшчэ горшае. Дырэктывы, вусныя і пісьмовыя, якія ішлі зверху, пачалі здзіўляць сваёй недарэчнай жорсткасцю, крывадушнай здрадлівасцю, амаль зусім немаскаванай бесчалавечнасцю, адсутнасцю здаровага сэнсу і поўным неразуменнем рэальнага жыцця. Яны абуджалі пачуццё трывогі і неспакою за лёс краіны.

Шмат чаго яшчэ я не ведаў, але ўжо разумеў інтуітыўна, што намеры свае трэба мне ажыццявіць неадкладна. Усе свае намаганні я накіраваў на тое, каб вызваліцца ад службы ў ДПК і перайсці на працу ва ўстановы культуры. Неўзабаве мне гэта ўдалося. Я атрымаў ад свайго непасрэднага начальніка папярэднюю згоду і пастанову сакратарыята ЦК КПБ быў прызначаны на пасаду старшага інспектара ў Галоўным камітэце па кантролі за рэпертуарам (Галоўрэпертком), які ўваходзіў у сістэму Наркамата асветы. Спачатку, праўда, загадчык аддзела кадраў ЦК Кавалёў спрабаваў мяне ўгаварыць, каб я згадзіўся працаваць у Наркамаце юстыцыі следчым па асабліва важных справах, але я катэгарычна адмовіўся.

Калі я звярнуўся да Рэмізава, ад якога атрымаў вусную згоду яшчэ раней, з пісьмовай просьбай аб вызваленні мяне ад працы ў аддзеле ў сувязі з пераходам у Наркамат асветы, ён даў мне на гэта цяпер і афіцыйны дазвол.

– Вы правільна робіце, — сказаў мне начальнік аддзела на развітанне. — Думаю, што вам цяпер сапраўды лепш працаваць у галіне культуры. Вам гэта бліжэй па натуры. Жадаю поспеху!

**Публікацыя і падрыхтоўка да друку Артура ВОЛЬСКАГА**

**Аляксандр Пшчолка — так падае імя і прозвішча пісьменніка біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі", Т. 5 (Мінск, "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1995).*



ЧАСАПІС

## Памяць беражом

**Нядаўна ў сталічным Доме ветэранаў у Мінску адбылася вечарына памяці ахвяр сталінскага генацыду, якая закранула яшчэ адну неасэнсаваную па сённяшні час нацыянальную трагедыю.**

**Так наканавана было гісторыяй, што ў Беларусі, на Украіне, Расіі не адно стагоддзе жылі выхадцы з шматлікіх нямецкіх земляў: Вестфаліі, Швабіі, Баварыі, Саксоніі, Прусіі і інш. Жыў гэты працоўны і мірны люд у гарадах, кампактнымі паселішчамі, падымаў гаспадарку на вёсцы, а асабліва згуртавана атабарыўся ў былой Саратаўскай губерні. Менавіта паволжскія абсягі былі прызначаны месцам аседласці для немцаў-перасяленцаў у Расейскай імперыі загадам Кацярыны II у 1763 г. Менавіта там, згодна з Дэкрэтам СНК РСФСР ад 19.10.1918 г. была заснавана АССР немцаў Паволжа.**

**Маленькая нямецкая рэспубліка ў асяродку бяскрайняй Расіі — нязвыклы і унікальны феномен, варты ўвагі. Там не было этнічнай нязгоды паміж грамадзянамі (немцы складалі больш за 66 працэнтаў), але парадак, арганізацыя працы, дысцыпліна былі, так бы мовіць, узорна-нямецкімі. Рэспубліка квітнела па ўсіх эканамічных паказчыках. Развівалася і культура нямецкага народа, што захоўваў свой фальклор, традыцыі продкаў. Была добра наладжана і адукацыя на нямецкай мове.**

**Нельга ўтойваць, што перажылі немцы і негатыўныя вынікі калектывізацыі, і жудасны голад 1929—33 гг., а затым рэпрэсіі 30-х. Але ўсё гэта было толькі злавеснай прэлюдыяй лета 1941 г. Тады "ворагамі" былі абвешчаны ўсе асобы нямецкай нацыянальнасці без выключэння. Беспрэцэдэнтным і непрыхавана цынічным стаў Загад Вярхоўнага Савета СССР ад 28.08.1941 г., які без асаблівых доказаў безапеляцыйна выкрываў "варожы народ". Надуманай падставай, што вынікае з тэксту загада, была ананімная інфармацыя пра нібыта "дзесяткі тысяч дыверсантаў, што прытаіліся ў Паволжы". Пры гэтым "ніхто з немцаў не паведаміў пра гэта ўладам". Верагодна, што насельніцтва іх "хавае". Таму — татальнае перасяленне ў Сібір, Казахстан, на Алтай.**

**І ўжо з верасня таварныя цягнікі павезлі сотні тысяч немцаў у далёкі шлях пакутаў. Сярод іх былі і дзеці, старыя, хворыя, якія гінулі ўжо па дарозе да месца высылкі. З усіх франтоў адзывалі ваеннаслужачых нямецкага паходжання як "недабранадзейных" і ссылалі разам з іншымі (хоць сярод іх ужо былі Героі Савецкага Саюза). Усіх чакала так званая "трудармия". Хлопчыкаў туды кідалі ўжо з 15 гадоў. Часовае выключэнне было толькі для цяжарных жанчын і маціярок, дзеткам якіх яшчэ не было трох год. У іншых выпадках дзетак — у прытулак, бацькоў — на катаржную працу. Бо за патэтычнай назвай "трудармия" камуфляваліся ганебныя рэаліі гулагаўскіх канцэнтрацыйных лагераў самага жорсткага рэжыму. Загінуўшых супрацоўнікі НКВД тысячамі скідвалі ў адпрацаваныя шахты і палонкі сібірскіх рэк. Так з колькасці больш за 1 млн 400 тыс. савецкіх немцаў у гады вайны ў глыбокім тыле загінуў кожны трэці. Усё лічылася законным. Прыгадаем, што працэс у Нюрнбергу праводзіўся не над нямецкім народам, а над купкай злачынцаў, не была ліквідавана "варожая" нямецкая дзяржава. А на тэрыторыі пераможцаў акурат і адбылося адваротнае: генацыд народа і ліквідацыя яго дзяржаўнасці. Немцаў СССР трымалі за калючым дротам да 1948 г. А потым была дзяржаўная пастанова аб вечным выгнанні з даваеннай прыволжскай радзімы. Хто не паслухаецца — катарга на 20 гадоў. Толькі ў 1972 г. неяк ціха скасавалі такую антычалавечую пастанову.**

**Але немцы не зніклі згодна са сталінскай воляй "рашыць назаўсёды нямецкае пытанне". Не асіміляваліся, не адцураліся сваіх продкаў. На пачатку 1990-х пачалося іх нацыянальнае адраджэнне ў Расіі, на Украіне, і ў Беларусі таксама, куды іх прывёў лёс падчас паваенных буйных усесаюзных будоўляў. Немцы, што жывуць у Мінску, арганізавалі ў 1990 г. сваё культурнае таварыства "Відэргэбурт" (Адраджэнне). І пачалі аднаўляцца традыцыі. Загучала ў асяроддзі аднадумцаў нямецкая мова, сталі наладжвацца сустрэчы дзеля ўмацавання нямецка-беларускіх культурных сувязей. Менавіта актывісты "Відэргэбурта" і іх беларускія сябры сабраліся ў Доме ветэранаў, каб ушанаваць памяць аб загінуўшых, рэпрэсаваных, забытых. Загучалі хрысціянскія малітвы, паліліся тужлівыя нямецкія песні, часоў "трудармии". Сваімі цяжкімі ўспамінамі аб перажытых часах генацыду падзяліліся старажылы Вальтэт Лейзер, Роза Бяседзіна (Ашвэртэр), Ларыён Янсэн. Свой асэнсаваны погляд на трагедыю савецкіх немцаў абгрунтаваў кандыдат гістарычных навук, вядомы беларускі навуковец з нямецкай радаслоўнай Алег Вільгельмавіч Іоў. Усе выступоўцы падкрэслівалі, што імі кіруе не жаданне атрымаць нейкія кампенсацыі, а жаданне выказаць праўду ў імя гістарычнай справядлівасці.**

**Гэтая журботная і шчырая вечарына зблізіла розных людзей, якія яшчэ больш зразумелі значэнне праўды ў маральным развіцці нашага грамадства. Гэта падзея, безумоўна, будзе мець вялікае значэнне для ўмацавання нямецка-беларускага ўзаемаразумення і падтрымкі.**

**Яўген ШУНЕЙКА**

# ТАНЦАВАЛЬНЫ МАРАФОН

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9.)*

Канечне, ніякага шафёра не было, Хмара руліў сам, але на хлусню Сіўцова наўмысна змаўчаў, разумеў, што чарка гарэлкі — неблагая яму памочніца. Жанчына выслізнула ў сенцы, гаспадар, прыслухоўваючыся, выструніўся і, пачуўшы металічнае звяканне, — напэўна, гаспадыня бразнула ключамі, — задаволена крактануў.

— Мая ўзяла...

Калі на стале з'явілася бутэлька, Сіўцоў таропка яе раскаркаваў і, напаўняючы чаркі, прыжмурыўся: — Цяперака можна і пагаварыць.

З-за шчыльнай выцвілай занавескі, якая прыкрывала грузную печ і няхітра дзяліла кухню напалам, павольна выйшаў руды кот з жоўта-зялёнымі вачыма. Ён, па чарзе падымаючы заднія лапы, лянотна пацягнуўся, пазяхнуў і сеў на пушысты доўгі хвост з белай адмецінай на самым кончыку.

— Во, і рыжы тут як тут, — засмяяўся Сіўцоў і зняў накрыўку з патэльні. Для ката гэта быў сігнал, млявасці як і не было. Ён скокнуў на доўгую лаўку ля вакна і, патрабавальна мяўкаючы, зашпацыраваў, закруціўся. Час ад часу кот выпускаў вострыя кіпцюры і драпаў імі па лаўцы, вочы блішчэлі, чырвоны язычок штохвілінна аблізваў бліскучы чорны нос. Ён некалькі разоў спрабаваў дацягнуцца і да скацеркі, але лапа застывала на паўдарозе, драпануць матэрыю рыжы пабойваўся, напэўна, за гэта ён неаднойчы атрымоўваў лупцоўку.

— Бач, як просіць? — лагодна прабасіў гаспадар і, падчапіўшы відэльцам ладны кавалак мяса, кінуў пад лаўку.

Ката быццам ветрам здзьмула: праз імгненне ён знік за занавескай са "здабычай" у зубах.

— Ну, дай Божа, заўтра тожа, пасляzаўтра і кожны дзень, — на адным дыханні выпаліў Сіўцоў і, расправіўшы вусы, выпіў. Хмара дэманстрацыйна адсунуў сваю чарку, але ад перакусу не адмовіўся — даўно сматкала пад лыжачкай.

— А нашы "блюсціцелі" п'юць, хоць і за рулём. — Гаспадар храбуснуў агуркам і, быццам разважаючы ўслых, стрымана дадаў: — Хаця хлопцы добрыя, сваім бяды не робяць... — Ён яшчэ выпіў, падклаў на Хмараву талерку смажанага мяса. — А на трасе парадак трымаюць, ведаюць, як...

— Прыкусі язык, плявузгала, не то Папруга яго прышчэміць... — пачуўся з-за занавескі, за якой схаваўся руды кот, голас гаспадыні.

— Гэ-э-ты мо-о-жа, — хутка п'янеючы, рагатнуў Сіўцоў і расправіў спіну. Здалося, ён стаў вышэйшы на цэлую галаву. — Барысавіча на крывой кабыле не аб'едзеш, хітрун, якіх пашукаць... І прынцыповы...

Хмара, што называецца, уплятаў за абедзве шчакі салату з запраўленых смятанай памідораў і гуркоў, слухаў гаспадара і думаў пра тое, як можа чалавек быць адначасова і хітрым, і прынцыповым. Ён вырашыў пакуль што не задаваць пытанняў, дачакацца, калі Сіўцоў стане больш дасціпным.

— Памятаеш шафёра з дрывамі? — падала голас жонка Сіўцова.

— Тых, хто абмішурыў Папругу, — на пальцах пералічыць, — засмяяўся гаспадар, — але той шафёр — прайдзісвет з прайдзісветаў...

У інтанацыі Сіўцова Хмара ўлавіў непрыхаваны недавер да сталічнага міліцыянера. Было відавочна, што Сіўцоў хоча расказаць пра гэты выпадак, але што, калі нечым нашкодзіць участковаму?

— Я дрэннага маёру не жадаю, — заінтрыгаваны размовай мужа і жонкі, зазначыў лейтэнант, — мяне цікавіць толькі мой шафёр...

— Ну, калі так, павесялю сталічнага госця, — зноў пацягнуўся да бутэлькі Сіўцоў, напоўніў сваю чарку.

— Ты б не налягаў на гарэліцу, — папярэдзіла нябачная гаспадыня, — нарумзаешся раней часу...

Рука Сіўцова здрыганулася, завісла над сталом. Ён зірнуў на гадзіннік, пачухаў патыліцу і адсунуў чарку, піць не стаў.

— Бабу калі-нікалі трэба слухаць. — Ён зноў паглядзеў на гадзіннік. няспешна выцягнуў з кішэні круглую адпаліраваную да бляску бляшанку (у такіх калісьці прадаваліся цукеркі-ледзяшы, а цяпер гэта была табакерка), набіў люльку.

"Нешта тут не тое, — падумаў Хмара, пра вясёлае з такім настроем не расказваюць".

Сіўцоў чыркнуў запалкай, прыкурыў, пыхнуў раз-другі і, зірнуўшы на лейтэнанта, змушана ўсміхнуўся:

— Пяць гадоў таму...

— Тры, — адразу паправіла яго жонка, тады мы кароўку купілі.

— Ты б памаўчала! Нечакана ўзвіўся Сіўцоў і моцна ляпнуў далонню па стале. — Сядзіш у нары і каркаеш... Калі такая разумная, выходзь і бяседуй з чалавекам.

Запанавала цішыня, нават чутна было, як кот грызе сваю здабычу. Гаспадар трошкі счакаў, з напускной бравадай усё ж каўтануў гарэлку і, не закусваючы, зноў пыхнуў люлькай.

— Тры гады таму, — памякчэлым голасам працягваў Сіўцоў, — наш Папруга спыніў на трасе машыну і за нейкае парушэнне забраў у шафёра правы. Як вадзіцель ні прасіў, як ні маліў, Папруга — што камень, на пераздачу і ўсё. Чалавек адступіўся, але не ад участковага. Нейкім чынам ён даведаўся, дзе няўмольны міліцыянер жыве, і наўпрасткі да ягонай жонкі: так, маўляў, і так, згаварыўся я з тваім мужыком, што плот папраўлю і дровы пасяку. Канешне, перад тым, як зайсці ў хату, ён па-гаспадарску агледзеў жытло ўчастковага, убачыў, дзе патрэбна мужчынская рука. Таму ў Папругавай жонкі да чалавека аніякіх падазрэнняў і не ўзнікла, бо і дровы ў панадворку валяюцца напілаваныя і не паколатыя, і плот паваліўся. Цэлы дзень гэты шафёр батрачыў, а надвячоркам і Папруга на матацыкле прытарахцеў. Убачыў — і вочы на лоб... Дровы складзены, плот новы і нават напалову пафарбаваны. А ягоны ранішні парушальнік яшчэ і на жонку пакрыквае, маўляў, фарбы мала купіла. Адразу змікіціў Папруга, што да чаго, хвост падціснуў... Як дакажаш, што не пад прымусам шафёр ішачыў на яго? Ды й ці дасць веры начальства, калі ўсё мястэчка "работніка" бачыла? А гэта — выкарыстанне службовага становішча... Не дапусціў Папруга скандалу, аддаў шафёру дакументы ды мірна выправадзіў прахіндзея... — Сіўцоў гучна засмяяўся і, хітравата пазіраючы на Хмару, нечакана спытаўся:

— А што б вы зрабілі на месцы ўчастковага?..

— Я? — разгублена перапытаў лейтэнант і на імгненне задумаўся.

— Во-во, з непрыхаванай радасцю ўскрыкнуў Сіўцоў: загнаў у кут... — А на мой розум, дык шантажыста трэба было правучыць, толькі Папруга не такі, рызыкаваць — не ў ягоным характары.

Хмара хацеў запярэчыць, але нешта стрымала, нечакана яму здалося, што Сіўцоў наўмысна яго "заводзіць", спрабуе завязаць спрэчку.

— Давайце пагаворым пра нашага шафёра, — адсунуўся ад стала Хмара. У гэты момант ён пашкадаваў, што паддаўся на ўгаворы і сеў за стол. Было відавочна, што цяпер Сіўцоў успрымае яго як госця, а не як следчага.

— Ваш вадзіцель ненармальны... — З-за занавескі вытыркнулася галава гаспадыні, і Сіўцоў, які ў гэты момант цадзіў чарговую чарку, папярхнуўся, закашляўся, замахаў на кабету рукамі, каб тая замаўчала. Са стограмовіка выплеснулася гарэлка, серабрыстыя пырскі акацілі твар жанчыны. — Ах так! — Ажно ўзвілася кабета і выкулілася з-за занавескі, гатовая да больш актыўных дзеянняў. Прысутнасць Хмары стрымала яе, але маўчаць жонка Сіўцова не магла. — Канечне, ненармальны, калі прывёз табе, шасцідзесяцігадоваму мужыку, цэлую скрынку прэзерватываў... Не мог чым іншым аддзячыць... Папрузе гэта, можа, яшчэ і трэба, а табе, пляшываму, навошта?..

Сіўцоў ажно збялеў. Кашаль нечакана знік, быццам перакаўтнуўся некуды ўсярэдзіну, у грудзях Сіўцова засіпела, забулькала. Ён, упёршыся рукамі ў стол, павольна ўстаў, ніжняя сківаца дрыжэла, скамянелыя вочы палыхалі гневам. Жонка войкнула і імгненна знікла за занавескай, але, напэўна, яе гэта не ўратавала б...

"Не хапала, каб ён пры мне жонку пабіў!" — падумаў лейтэнант і таксама ўстаў, гатовы ўмяшацца. У гэты момант дзверы нечакана расчыніліся, на парозе ўзнікла каржакаватая постаць міліцыянера.

— Чую, мае костачкі мыюць... Ці хоць добрым мылам?

Сіўцова быццам падмянілі. Ён імгненна зноў стаў ліслiва-добранькім, сутулым, вусы яшчэ больш абвіслі.

— Таварыш маёр! — радасна ўскрыкнуў гаспадар, яго хістанула, рука ўхапіла спінку крэсла. — Заходзьце, заўсёды вам рады! — Сіўцоў замітусіўся, падсунуў адно крэсла, другое, быццам міліцыянер сядзе адразу на два.

Без сумнення, гэта быў маёр Папруга, і Хмара зразумеў, што чакаў Сіўцоў менавіта яго, а ўсё, што папярэднічала прыходу ўчастковага, не што іншае, як камуфляж. І застолле, і расповеды гаспадара, і нават звада з жонкай мелі адну мэту — дачакацца Папругу.

Маёр быў невысокі і неймаверна шырокі. У першы момант Хмары нават здалося, што ўчастковы аднолькава роўны і ўвышыню, і ўшырыню. Не тоўсты, як гэта звычайна бывае, а моцны, з тых, пра каго кажуць: не ведае сваёй сілы. Чорныя недаверлівыя вочы абмацалі Хмару, і лейтэнант, здалося, фізічна адчуў іх дотык, зрабілася ніякавата, быццам ён пераступіў нейкую забароненую мяжу.

— Пятровіч, у цябе госць? — не адводзячы вачэй, спытаў маёр. Хваляванне выдавала толькі вымучаная ўсмешка.

— Следчы з Мінска, — па-вайсковаму адрапартаваў гаспадар, — пытаецца пра шафёра, якога ў лесе знайшоў. — Сіўцоў разумеў, што хітры Папруга стаяў у сенцах, чуў, пра што гаварылася ў хаце, і цяпер трэба думаць, як выкруціцца, бо маёр не даруе жончынай балбатні.

— Маёр Папруга, — прадставіўся ўчастковы і працягнуў Хмары руку. — Рады пазнаёміцца і дапамагчы ўсім, што ў нашых сілах... Міма іду, бачу сталічную міліцэйскую машыну. Дай, думаю, зазірну, раптам патрэба якая, усё ж мой участак... Але калі перашкодзіў...

— Не, не, — Хмара ледзь не крыкнуў ад болю. Суставы ягоных пальцаў шчоўкнулі ў магутнай далоні ўчастковага. — Я лейтэнант Хмара, па справе Шапавалава...

— А чаму не да мяне? — крыўдліва развёў рукі Папруга. Ён сіліўся здавацца прасцяком. Разумеў, што, калі нешта сур'ёзнае закруцілася вакол Шапавалава, следчага будзе цікавіць не афіцыйнае разбірацельства, а тое, што было на самай справе.

— І я раіў так зрабіць, — з падлашчваннем заглядваючы ў твар участковага, падтакнуў Сіўцоў і, ставячы чыстую чарку на стол, прапанаваў: — Паабедайце з намі, Генадзь Барысавіч.

Маёр не звярнуў на Сіўцова аніякай увагі, як і не чуў. Ён чакаў, што скажа следчы з Мінска.

— Мы планавалі сустрэчу з вамі, — шматзначна адказаў Хмара. — На асобныя пытанні зможаце адказаць толькі вы.

"Так і ёсць, — спахмурнеў Папруга, — справа сур'ёзная. "Мы" — выключае выпадковасць, лейтэнанта паслалі найперш да Сіўцова. Добра, што ўдалося падслухаць... Гэты сталічны "шчаўлік" ведае толькі афіцыйную версію... Сіўцоў — маладзец, брахаў на мяне добра, але дачакаўся... А баба ў яго дурніца... І нахалера мне былі тыя прэзерватывы? Цяпер выкручвайся..."

— Ну, калі так, то дапівайце, а я пачакаю каля машыны, — папруга нядобра ўсміхнуўся і крутнуўся да выхаду.

Сіўцоў аслупянеў, ён не чакаў, што ўчастковы пакіне яго сам-насам з лейтэнантам. Бразнулі адны дзверы, другія, і гаспадар адчайна залямантаваў, па ўсім, спадзеючыся, што Папруга яго пачуе:

— Нічога я гаварыць не буду, Генадзь Барысавіч усё ведае, так што і гаварыце з ім... — Сіўцоў на нейкую хвілінку прымоўк, зірнуў у акно і, умольна гледзячы на Хмару, прашаптаў: — Вы свае, вы дамовіцеся, а мне тут жыць...

Лейтэнант усё зразумеў. Ён падхапіўся, падзякаваў за абед і кінуўся наўздагон за ўчастковым, але ў сенцах нечакана спыніўся, апошнія словы Папругі прымусілі вярнуцца. Даўгалыгі Сіўцоў, сагнуўшыся напалам, не тоячыся ад участковага, выглядваў у акно і, убачыўшы лейтэнанта, разгубіўся:

— Я, п-праўда, н-нічога не магу сказаць, — заікаючыся, прамармытаў ён.

— Калі спатрэбіцца — раскажаце, — сказаў, як адрэзаў, Хмара і, выцягнуўшы ліст паперы, склаў яго ўдвая,

разарваў напалам. Потым прымасціўся да стала, адсунуў талеркі і штосьці напісаў на адным лістку, потым на другім.

Усхваляваны Сіўцоў па-гусінаму цягнуў доўгую шыю, сілячыся чытаць, што піша сталічны следчы.

— Вось, — Хмара паклаў на лісткі самапіску і выцягнуў з кішэні грошы. — Гэта распіска і грошы за абед...

У Сіўцова ажно сківіца адвісла, ён за ўсё жыццё не бачыў і не чуў такога.

— Н-не трэба, — толькі і змог выдыхнуць імгненна працверазелы гаспадар і замахаў рукамі.

— Распісвайцеся! — узвысіў голас Хмара і паблажліва дадаў: — Яшчэ як трэба, а апраўданні пакіньце для Папругі.

— Я хацеў сказаць, што гэта зашмат, — кіўнуў на грошы зніякавелы Сіўцоў і таропка, дрыжачай рукой напісаў пад сваім прозвішчам тры першыя літары. Цяпер ён баяўся гэтага лейтэнанта больш за Папругу.

— Вось і добра, засмяяўся Хмара, — будзем лічыць, што я паабедаў у рэстаране.

Папруга на ўсялякі выпадак запісаў нумар "Жыгулёў", на якіх прыехаў сталічны следчы, і ў чаканні ўладкаваўся на лаўцы, што тулілася ля плота. У справе з шафёрам ён, канечне, дапусціў пэўныя хібы, але ж у якіх справах іх няма? "Я што — зусім дурань, каб вешаць на сябе злачынства, якое ніколі не будзе раскрыта? — шукаў апраўдання Папруга. — Шафёр ва ўсім вінаваціў сябе. Калі па праўдзе, то і да гэтага часу мне ўсё зразумела ў той справе, але навошта ціснуць на шафёра? Ён ні на кога не скардзіўся, нікога не вінаваціў, а каяўся і прасіўся. Дык што, я павінен быў прымусіць бедалагу пісаць заяву аб злачынстве? Яшчэ і невядома, ці было там тое злачыства..."

Калі брамка рыпнула і на вуліцу таропка выйшаў лейтэнант, Папруга ўжо ведаў, з чаго пачынаць размову са сталічным "шчаўлікам". Ён быў перакананы ў сваёй праваце, вось толькі прэзерватывы... Калі селі ў машыну, Папруга ўпэўнена прапанаваў:

— Я прапаную пакінуць усё, як ёсць...

— Не разумею, — шчыра здзівіўся Хмара.

— Вы пацвердзіце вынікі маёй праверкі — і мы квіты.

— А я нешта вам вінен? — зноў здзівіўся лейтэнант.

— Справа ў тым, што ваш прыезд не застанецца непрыкмечаным. Пра тое, што вы прымусілі Сіўцова ладзіць застолле, я павінен далажыць свайму начальству. Пілі гарэлку ці не, я не бачыў, а вось Сіўцоў, канечне, гэта пацвердзіць...

Хмара здагадваўся аб ролі Сіўцовых у хітрамудрым плане Папругі, прадбачыў магчымыя папрокі з боку ўчастковага, але каб вось так, адразу шантажыраваць? Лейтэнант заглушыў рухавік і, не хаваючы злосці, крутнуўся да маёра:

— Вы, Генадзь Барысавіч, вялікі інтрыган, але ў дадзеным выпадку перахітрылі самога сябе. — Хмара дастаў распіску Сіўцова. — Другі экземпляр папрашу прышпіліць да рапарта, у якім будзеце паведамляць аб маім злоўжыванні службовым становішчам. Бачыце подпіс Сіўцова? Гэты затурканы чалавек узяў з мяне за абед грошы. Думаю, значэнне дакумента тлумачыць не трэба. Цяпер што тычыцца гарэлкі. Абяцаю: як толькі прыеду ў Мінск, прайду наркалагічны агляд. Заключэнне абавязкова прышлю ці сам прывязу. А цяпер — асноўнае. Шапавалаў памёр, і ёсць падставы меркаваць, што не сваёй смерцю. Вы юрыст і разумееце, чым рызыкуеце, калі будзеце ўтойваць праўду. Думаю, без службовага разбіральніцтва ўжо не абысціся, але ваш намер і надалей ставіць палкі ў колы следству цягне за сабой крымінальную адказнасць.

На нейкі момант у машыне запанавала цішыня, пад магутным целам участковага зарыпелі спружыны, вочы яго акругліліся, твар спалатнеў.

— Вы што, сур'ёзна ўспрынялі мае словы? — нечакана ўскрыкнуў Папруга і ляпнуў далонямі сябе па каленях. Машына захісталася. — Я ж пажартаваў! Дай, думаю, устрою праверку сталічнаму калегу... А вы, лейтэнант, маладзец — не з пужлівых...

Хмара спадылба зірнуў на маёра. Вясёлая бравада Папругі здавалася шчырай, але ён больш не верыў гэтаму чалавеку.

— А з якім імпэтам вы сказалі пра палкі ў колы і крымінальную адказнасць! — зарагатаў Папруга. — Вам бы пракурорам быць, а не следчым... І з распіскай атрымліваецца анекдот, цяпер не дадуць месцачоўцы праходу Сіўцову...

ПАМЯЦЬ

# Ён верыў у сілу народнага духу

***27 жніўня адзначалася 145-годдзе з дня народзінаў класіка ўкраінскай літаратуры, вучонага, доктара філасофіі, грамадскага дзеяча Івана Франка (1856—1916). Ён прыйшоў на зямлю на змену пакутніку за Украіну, змардаванаму ў няволі, геніяльнаму Тарасу Шаўчэнку. У асобе гэтага мастака слова Украіна займела паэта, празаіка, драматурга, казачніка, крытыка і тэарэтыка літаратуры, змест чыіх твораў багаты, іх энергія — магутная. Жыў Іван Франко ў цяжкі для нацыі час. Сваімі творамі змагаўся за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, асуджаючы свет прыгнёту і рабскае пачуццё ў людзей. "Мой настаўнік быў пёс, што на лапкі ўстае // І руку тую ліжа, каторая б'е", — пісаў ён у вершы "На рацэ вавілонскай". А ў паэме "Лясная ідылія" выказаў сваё грамадзянскае крэда:***

*Паэт — значыць, урадзіўся хворым.*
*Хварэць чужым і ўласным горам.*

***Так, паэт Франко хварэў горам падняволенай Бацькаўшчыны. Але ён верыў у сілу духу народа, у яго ўваскрэсенне, пра што сведчыць неўміручае слова генія. Разам з тым Іван Франко быў цудоўным лірыкам, што, дарэчы, добра відаць з гэтай публікацыі.***

Іван ФРАНКО

## На рацэ вавілонскай

*На рацэ вавілонскай — і я там сядзеў,*
*На разбітую арфу панура глядзеў.*
*І з мяне вавілонцы глуміліся там:*
*"Пра Кармель, пра Сіён заспявай*
*штосьці нам!"*
*"Пра Сіён? Пра Кармель?*
*Іх заціх славы гром,*
*На Кармелі — пустыня, ў Сіёне — разгром!*
*Не, вам іншую песню цяпер падару:*
*Я рабом нарадзіўся, рабом і памру;*
*Паявіўся на свет я пад свіст бізуноў,*
*Рос у рабстве, залежны ад лютых паноў.*
*Прывучыўся баяцца тых,*
*што чыняць прыгнёт,*
*І з усмешкай глядзець,*
*як мой церпіць народ.*
*Мой настаўнік быў пёс,*
*што на лапкі ўстае,*
*Што руку ліжа тую, каторая б'е.*
*Хоць і ўзрос, быццам кедр,*
*што вянчае Ліван,*
*А душа мая — нібы пазучы бур'ян.*
*Хоць і путаў не меў на руках, на нагах,*
*Ды нашу ў сваім сэрцы нявольніцкі страх.*
*Хай жа марай пра волю душа ажыла б,*
*Ды крывёю я — раб! Ды і мозгам я — раб!*
*Вавілонскія жонкі! Як можна хутчэй,*
*На мяне не зірнуўшы, сыходзьце з вачэй,*
*Каб не ўпала праклянце маё на ваш плод,*
*Не прыйшлося б рабом*
*надзяліць ваш народ!*
*Вавілонскія дзевы! Трымайцеся вы,*
*Сэрцам вашым не дайце крануцца, жывым,*
*Каб вам лёс не азмрочвала потым журба*
*З цяжкай думкай такой: "Пакахала раба".*

●

*Так ніхто не кахаў. Можа быць, на вякі*
*Раз падобнаму збыцца каханню.*
*На зямлі расцвітае вясна ў дзень такі*
*І зямля прыбіраецца зрання...*

*Ціха й лёгка ў сінечу так прагне яна.*
*Прасцірае да зор свае рукі...*
*На зямлі ў дзень такі расцвітае вясна.*
*І трымціць ад салодкае мукі...*

*Вяне сэрца маё ад шчаслівых вачэй,*
*Што ў тумане гараць нада мною...*
*Разліваецца кроў і па жылах цячэ,*
*Нібы пахне самою вясною...*

*Гэй, вы, россыпы зор!.. Месяц мой малады!..*
*Дзе вы большае стрэлі каханне?..*
*Я сарву для яе Арыён залаты,*
*Я — паэт абуджальнае рані...*

*Так ніхто не кахаў.*
*Можа быць, праз вякі*
*Раз падобнаму збыцца каханню.*
*На зямлі расцвітае вясна ў дзень такі*
*І зямля прыбіраецца зрання...*

*Ціха й лёгка ў сінечу так дыша яна,*
*Прасцірае да зор свае рукі...*
*На зямлі ў дзень*
*такі расцвітае вясна*
*І трымціць ад салодкае мукі...*

●

*Ах каб жа я быў музыкантам,*
*Меў дар, што яму Бог дае,*
*На музыку ўсе пераклаў бы*
*Жамчужныя слёзы твае.*

*А слоў харaство паланезам*
*Мінорным, напэўна б, было,*
*Шпэльполькаю — цёхкае сэрца,*
*Што бураю тактаў жыло.*

*Кадрыллю чароўнаю стаў бы,*
*Вачэй позірк ясных тваіх.*
*А вальцэрам шумна-ўтрапёным —*
*Агонь пацалункаў п'янкіх.*

*Ды я не музыка: так, слоўца —*
*Мой вобраз, стыхія мая.*
*А што цаваляўся ў ядлоўцах —*
*Навекі запамятаў я.*

## Першая настаўніца

*Найпершаю ў раю зграшыла Ева*
*Пазнаннем, ведама, дабра і зла, —*
*Укусіўшы плод спакуслівага дрэва,*
*І мужу паспытаць яго дала.*

*У гэта можна верыць, безумоўна,*
*Ды тут і закавыка ёсць адна:*
*У добрым, як і ў злым, была пароўну*
*Настаўніцаю мужавай яна.*

**Пераклад з украінскай**
**Васіля ЖУКОВІЧА**

# Абдзелены і як след не ацэнены

## 20 ГАДОЎ НАЗАД ПАМЁР АЛЯКСЕЙ ПЫСІН

***Ён яшчэ пры жыцці стаў славутасцю. Яго пяру належыць больш двух дзесяткаў кніг, творы паэта перакладаліся на англійскую, асецінскую, венгерскую, грузінскую, іспанскую, латышскую, літоўскую, малдаўскую, нямецкую, польскую, славацкую, таджыкскую, украінскую, французскую, чувашскую мовы... Ён быў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы з медалём № 2 (услед за Піменам Панчанкам) і меў званне заслужанага работніка культуры рэспублікі. Быў узнагароджаны ордэнам "Дружбы народаў". Яго ведалі і паважалі не толькі ў Беларусі, але ў Маскве і ў Сібіры, на Украіне і ў Малдавіі, у казахскіх стэпах і на Урале, у Прыбалтыцы і ў Ленінградзе...***

***І ўсё ж Аляксей Васільевіч быў абыдзены, абдзелены ўладамі, найперш — магілёўскімі...***

Жыў паэт у Магілёве на шумным праспекце Міру, у цеснаце (у трохпакаёвай кватэры жылі, па сутнасці, тры сям'і) і ажно на пятым паверсе — без ліфта, з хворым сэрцам. Магілёўскія ўлады не захацелі даць паэту больш зручную кватэру. А ён нават у вершы сказаў пра гэта:

*І мне памяняць бы кватэру,*
*Туды б, дзе цішэй і ніжэй,*
*Бо грукатаў звеДаў праз меру,*
*Няўтульных і дзён, і начэй...*

Не дачакаўся. А калі б дачакаўся, то, можа, і пажыў бы яшчэ, не пайшоў бы заўчасна "ў сваю дывізію...". Ды ўлады так прыспешвалі, што яшчэ жывому паэту напісалі некралог — у бальніцы санітары і ўрачы-бывачы парупіліся заўчасна адвезці яго ў морг, што засведчылі Пятро Шасцерыкоў і Віктар Ракаў. З гэтай нагоды паэт Міхась Скобла напісаў у вершы "Стол Аляксея Пысіна":

*На сценах нябожчыцкай ледзяшы*
*І ў летні дзень, і ў зімовы.*
*А навокал — ні душы!*
*Лякарня, дзякуй за ўмовы.*

*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*

*Высвечвалі вочы, бы Іван-чай,*
*І тахкала сэрца нядрэмна.*
*А ў санітара і ў бывача*
*Пытацца было дарэмна.*

Янка Брыль у 1983 годзе ўзгадваў: "Неяк улетку я зайшоў у кнігарню і купіў рускае выданне кнігі Аляксея Пысіна са знаёмай назвай "Есть на свете мой олень". Чытаў у электрычцы, а потым у вёсцы. Думалася пра тое, які паэт жыў сярод нас і колькі ён недаатрымаў пры жыцці за свой талент, за тое, што зрабіў".

А ў Магілёве, па ўсім, думаюць інакш. Як ставіліся да паэта пры жыцці, так і пасля смерці ставяцца. Гарвыканкам за дваццаць гадоў пасля смерці паэта так і не знайшоў у горадзе той вуліцы, якой варта надаць імя Аляксея Пысіна. Цяпер нібыта шукаюць ужо настойліва, ды, мяркую, знойдуць дзе-небудзь на ўскрайку горада.

На сцяне дома № 35-А на праспекце Міру, у якім жыў А. Пысін, была прымацавана мемарыяльная дошка з бронзы, але тэкст яе быў на рускай мове і там не было слова "паэт". Некалькі гадоў магілёўчане дамагаліся новай дошкі — з беларускім тэкстам. Нарэшце яе павесілі, ды зноў з памылкамі. Пасля слова "лаўрэат" няма слова "дзяржаўнай" (прэміі), замест "Васільевіч" напісана "ВасільЯвіч", замест "У гэтым доме" напісана "У гэтым будынку...", усе людзі жывуць у дамах, а паэт, аказваецца, жыў у будынку.

І на помніку Аляксею Пысіну, што на Цэнтральных могілках Магілёва, надпіс таксама з памылкай: "дзяржпрЕмій".

На жаль, і ў Мінску Аляксея Васільевіча таксама не шануюць. Спашлюся на сведчанне пісьменніка-земляка Сцяпана Кухарава: "Здавалася б, хоць цяпер, калі яго ўжо няма між нас, варта шанаваць яго памяць. Аднак жа... У выдавецтве публіцыстыку Пысіна зрэзалі да дзесяці аркушаў — з запланаваных пятнаццаці, прытым, што артыкулаў, заметак, нарысаў у архіве паэта хапіла б і на трыццаць аркушаў. Вось такія адносіны да таленавітага паэта і публіцыста, заслужанага работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы і пасля ягонай смерці. А на словах — любім, шануем Аляксея Пысіна".

Вершы таленавітага паэта рэдка сустрэнеш у тэматычных зборніках, у вучнёўскіх хрэстаматыях. Пагартаў хрэстаматыю-дапаможнік для вучняў сёмых класаў "Нам свецяць вочы роднай Беларусі" (Мн.: "Бел. энцыклапедыя", 1999). Складальнікі Г. Гарадко, В. Ляшук, Г. Снітка не ўключылі ў раздзел "Беларуская балада" ніводнага пысінскага твора. А на словы ягонай балады-шэдэўра "Пяць патронаў у абойме..." народ песню спявае. Можна было б і не згадваць пра гэты эпізод, але ж ён — не адзіны выпадак, а сістэма.

Не выдадзены дасюль зборнік успамінаў пра Аляксея Пысіна, хоць іх назапашана ўжо больш чым дастаткова.

Чаму чыноўнікі не ацанілі як след Аляксея Пысіна, абдзялілі яго ўвагай пры жыцці і не дадаюць пасля смерці? Нядаўна, чытаючы ўспаміны Рыгора Барадуліна "Сам сябе не выдумляў", знайшоў на гэтыя пытанні кароткі, але ёмісты і грунтоўны адказ. Рыгор Іванавіч прыводзіць ва ўспамінах такія словы Пімена Панчанкі: "Адкрыты славянскі верш выклікае адкрытыя пачуцці, а асацыятыўны — алгебраічная задачы... Паэзію мала хто разумее, нават любіць. З-за неразумення паэзіі быў пры жыцці не ацэнены Пысін..."

Вось так! Аказваецца, усё проста: савецкае чынавенства не разумела паэзіі Пысіна і таму не ацаніла ягоны талент. І сённяшняе дэмакратычна-капіталістычнае чынавенства таксама не разумее...

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

*г. Магілёў*

БЫЛОЕ

# “З сям’ёю продкаў не жыві ў разладзе...”

*...У Елаўцы мы страцілі цудоўны эпізод сустрэчы бацькі з пастухом...*

*— Аляксандравіч! — гукнуў раптам нехта бацьку. Мы азірнуліся і ўбачылі, што ад ракі да яго бяжыць пастух. Бацька памкнуўся насустрач, і мы ўбачылі, што яны абдымаюцца. Разгортваць апаратуру было ўжо позна. Мы толькі паспелі падысці бліжэй і сталі сведкамі цікавай размовы, змест якой я памятаю зараз толькі ў агульных рысах, ды галоўнае і не ў гэтым, а ў тым, што мы зразумелі, які эпізод страцілі...*

**Валянціна КУЛЯШОВА. “Лясному рэху праўду раскажу...”**

Так успамінае пра стварэнне дакументальнага фільма пра народнага паэта Беларусі Аркадзя Аляксандравіча Куляшова яго дачка Валянціна ў літаратуразнаўчым эсэ. А згаданая вышэй вёска Елавец — гэта мая “калыска”: тут я нарадзіўся, перажыў ваеннае ліхалецце, скончыў сямігодку. Дарэчы, адсюль у Куляшовых была нянечка — Хрысціна Афанасенка, — якая дапамагала сям’і паэта расціць дзяцей. Дачка класіка беларускай літаратуры шмат разоў з удзячнасцю прыпамінае елавецкія мясціны Хоцімшчыны. Ды і не дзіва: менавіта ў зацішку Елаўца яе бацька абдумваў многія вершы і паэмы, а некаторыя і напісаў, калі наведваўся да сваіх бацькоў. Тут у першыя пасляваенныя гады настаўнічала ў Елавецкай сямігодцы яго маці — Кацярына Фамінічна Ратабыльская. Спачатку яна штодзень прыходзіла з Хоцімска праз Альшоў (радзіма Пятра Прыходзькі) да Елаўца пешкам (транспарту ж аніякага не было!) — гэта пяць кіламетраў да школы і столькі ж назад. Яе нязменныя спадарожнікі — настаўніцкая сумка з нашымі сшыткамі і цапок-кіек для смеласці. Тую сумку мы калі-нікалі падносілі да “белай горкі” — кіламетра паўтара за вёску. Пазней Куляшовы пасяліліся ў драўляным доміку пры школе, развялі такую-сякую жыўнасць. На той час школа і настаўніцкае жытло былі метраў за 400 ад вёскі (цяпер Елавец “падрос” і наблізіўся да былой школы). Наша хата стаяла самай крайняй, а, значыць, і была блізкай да школы і кватэры Куляшовых.Па-суседску, дарослыя і мы, дзеці, дапамагалі пажылым настаўнікам па гаспадарцы: тое-сёе паднесці-падвезці. Памятаю, як аднойчы Аркадзь Аляксандравіч даў мне з братам “на цукеркі” па хрусткаму навюткаму рублю, на якія мы і купілі (балазе, крама была блізка) духмяных рознакаляровых “падушачак”. О то была смаката! Водар таго ласунку, здаецца, адчуваю і сёння, хоць прайшло больш паўстагоддзя...

Кацярына Фамінічна была чулай і ласкавай да нас, вучняў. Яна ніколі не павышала голасу, валодала прыроджаным педагагічным тактам. Здаралася, пасля званка на ўрок каторы з хлапчукоў зіркне ў калідор і дасць каманду: “Палундра, Ратабылька ідзе!” — і клас заміраў. Мы яе любілі і паважалі як Маці Паэта. Яна выкладала ў нас матэматыку. Прызнаюся, не гарнулася мая душа да тых задачак і прыкладаў. Выратоўваў старэйшы за мяне на два гады брат Іван — вайна пасадзіла нас за адну парту восенню 1943 года, як толькі быў вызвалены Хоцімскі раён. Брат быў дока ў матэматыцы, любімец Кацярыны Фамінічны. Яшчэ дома я нярэдка спісваў у яго гатовыя рашэнні. Аднойчы не паспеў, а настаўніца і выклікала мяне да дошкі. Я самахоць схапіў братаў сшытак, выйшаў на клас і задужа жвава “развязаў” задачу, у якой па трубах нешта налівалася-вылівалася. Ведаючы мае сціплыя здольнасці, Кацярына Фамінічна паглядзела “мой” сшытак і сказала: “Штосьці, Кананавіч (далібог, па-суседску яна велічала брата і мяне імем па бацьку, бо апошняга добра ведала), твой почырк, як дзве кроплі вады, падобны на братаў? — і працягвала. — Сядай, сёння я табе не пастаўлю адзнаку, хоць работа і вельмі добрая”. Я схіліў нізка галаву, маўчаў. Як казаў брат, мае вушы тым часам нагадвалі рака ў кіпені. Той урок далікатнасці і чалавечнасці маці Аркадзя Куляшова стаў для мяне эталонам на ўсё жыццё... Затое як трыумфавала маё дзіцячае сэрцайка, калі на ўроку пісьма “Лабачэўскі” скошваў вока на мой сшытак і “злізваў” часта беспамылковы тэкст дыктанта! Дарэчы, брат пазней скончыў на Урале Кізелоўскі горны тэхнікум і Ленінградскі горны інстытут, дзе ой як спатрэбіліся матэматычныя веды, закладзеныя шаноўнай Кацярынай Фамінічнай Ратабыльскай. Мне ж на філалагічных факультэтах Баранавіцкага настаўніцкага інстытута і Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта тыя дакладныя навукі не спатрэбіліся...

Як адзначалася вышэй, Хоцімскі раён Магілёўшчыны быў вызвалены ад фашысцкіх захопнікаў у ліку першых на Беларусі ў верасні—кастрычніку 1943 года. Так, яшчэ грымела Вялікая Айчынная вайна, а ў Елаўцы мы, дзеці, ужо сядзелі за школьнымі партамі. Затым — вучоба ў Хоцімскай сярэдняй школе. Тры гады штодзень тэпалі з Віктарам Івандзікавым па маршруце нашай былой настаўніцы Кацярыны Фамінічны: Елавец—Альшоў—Хоцімск і назад. І толькі ў марозныя зімовыя дні і ў бездараж школа ўладкавала нас на кватэру (па-сённяшняму, у інтэрнат). Мы жылі ў ваколіцы Хоцімска па другі бераг Беседзі пры дарозе ў накірунку да станцыі Камунары, апетай А. Куляшовым у аднайменным вершы. Гаспадыня — дабрэнная пажылая жанчына — даглядала нас, расказвала пра свайго сына-вайскоўца, паказвала яго фотакартку ў ваеннай форме. Хвалілася, што сын піша вершы. Адкуль было ведаць, што мне пашанцавала сустрэцца з маці аднаго паэта-земляка — Пятра Фёдаравіча Прыходзькі? Бо калі ў дзяцінстве Аркадзя Куляшова, як паэта, мы ўжо ведалі, то ў 50-х гадах пра Пятра Прыходзьку — анічога. А ў маці апошняга мы з сябрам і кватаравалі. Так і сталі маімі “хроснымі” маці двух слынных беларускіх паэтаў — Аркадзя Куляшова і Пятра Прыходзькі, — за што я ўдзячны на ўсё жыццё гэтым сціплым і слаўным жанчынам.

Некалькі слоў пра сустрэчы ў Елаўцы Аркадзя Куляшова з пастухом, пра якога нагадала ў эсэ дачка паэта. Тым знаёмцам Аркадзя Аляксандравіча быў мой швагер Піліп Цімафеевіч Юркін. Да вайны ён скончыў сярэднюю школу (па тых часах ладная адукацыя), адслужыў у арміі. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны атрымаў цяжкое раненне і трапіў у палон. Мая старэйшая сястра Анастасія (яго жонка) у мінулым годзе паведаміла:

— Аркадзь Куляшоў, наязджаючы ў Елавец, завітваў да рачулкі Альшоўкі (прыток Беседзі) і, убачыўшы на беразе простае сялянскае адзенне, голасна вітаўся: “Здароў, Халімон. Хопіць боўтацца, хадзем перакурым!”. Муж пры пасьбе калгаснай жывёлы для сям’і з васьмі душ здабываў сякі-такі рачны пракорм. Ён расказваў, як аднойчы вялізны рак у пячоры кляшнёй да крыві распаласаваў пальцы лаўца. Аркадзь Аляксандравіч, астудзіўшы попел папяросы, клапатліва прысыпаў ім ранку і спыніў крывацячэнне. А яны такі пры сустрэчах абменьваліся курывам: Аркадзь смаліў самакрутку моцнага вясковага “першаку”-самасадку, даўгавязы Халімон (Піліп) — пахкую крамную папяросу. Ракалоў-рыбак (мацаў голымі рукамі з-пад карчоў-пячораў і мянькоў-ментузоў) даставаў свой прыхаваны ўлоў-заначку, раскладвалася цяпельца, і, пад жвачку адпачываючага статка, пачыналася сардэчная гамонка дзвюх блізкіх душ. Аб чым? Прынамсі, ім, прайшоўшым пекла вайны, было што ўспомніць. Штосьці ж цягнула іх адзін да аднаго, бо пры наведванні Елаўца Аркадзь Аляксандравіч сам шукаў сустрэч з Халімонам...

Яны і памерлі ледзь не ў адзін год: пастух крыху перажыў славутага дружбака-паэта. Так, шкада, што, як піша Валянціна Куляшова, эпізод іх сустрэчы не трапіў у дакументальны фільм пра Аркадзя Куляшова. Ды і крыху крыўдна, што для яе мой швагер застаўся толькі безыменным пастухом. Бо пры жыцці для Паэта Піліп Юркін быў некім значна больш чым пастухом: між сабой яны звярталіся на ты — Аркадзь — Халімон...

Лёсам было наканавана звязаць маё дарослае жыццё з Брэстчынай. Звыш сарака гадоў настаўнічаў (столькі ж год аддала школе і мая настаўніца — К. Ф. Ратабыльская), больш палову з якіх быў дырэктарам Рамельскай сярэдняй школы. У вучнёўскім і настаўніцкім калектывах імкнуўся быць падобным да яе. Я багаты: маю дзве маленькія Радзімы — Елавец (Хоцімшчына) і Рамель (Століншчына). Пры першай магчымасці спяшаюся ў вёску майго дзяцінства і юнацтва — Елавец. Выйшаўшы з вагона на станцыі Камунары, аўтобусам дабіраюся да Хоцімска. Вось і вясной 2000-га прайшоўся паўз веснічкі, ля якіх не раз сустракала Кацярына Фамінічна свайго любага сына Аркадзя. У двары — цішыня. Няма сярод нас Маці і Сына. Сумуюць па іх і без іх пасыпаныя страшным чарнобыльскім попелам Саматэвічы і імклівая празрыстая Бесядзь, задуменны Елавец і патрыярхальны Хоцімск. Быў уражаны: у райцэнтры няма краязнаўчага музея?! Пахвальна, што мае землякі-хацімчане выштукавалі т а к у ю ляльку-царкву, якіх мала на Беларусі. Але ж і для музея патрэбна адшукаць годнае памяшканне, тым больш, што яго добрую палову маглі б заняць экспанаты пра двух знакамітых паэтаў Айчыны — А. А. Куляшова і П. Ф. Прыходзьку. Сустрэчныя мяне “суцешылі”: параілі наведаць школьны музей...

“Апошні лёс сапраўднага паэта — гэта несмяротнасць. Несмяротнасць — гэта не “бронзы многопудье”, якое адвяргаў і мой бацька, а магчымасць удзельнічаць у справах жывых вопытам свайго жыцця, замацаваным у мастацкім слове”, — слушна зазначае ў заключных радках эсэ “Лясному рэху праўду раскажу...” Валянціна Аркадзьеўна Куляшова.

Ці не таму і сёння жыве, пульсуе ў скронях беларусаў куляшоўскае запаведна-запаветнае:

***...Над прорвай па канаце***
***Ідзі туды, як па лязе нажа.***
***Крычы: “Ўставайце!”***
***Не кажы: “Канайце!”***
***Аб мёртвых дбай,***
***шануй дамоўкі іх,***
***З сям’ёю продкаў не жыві***
***ў разладзе,***
***Іх больш, чым нас,***
***іх большасць на парадзе,***
***На пераклічцы***
***мёртвых і жывых...***

*Аркадзь Куляшоў. “Варшаўскі шлях”.*

**Леанід РАМАНЕНКА,**
**выдатнік народнай асветы**

Аляксандр ЛЯГЧЫЛАЎ

## Уладзіміру Сарокіну, кампазітару



Мал. А. ГАРМАЗЫ

*Лётаеш сарокаю*
*З кожнай*
*песняй новаю*
*Недзе над аблокамі*
*З марамі арловымі.*

*Мары тыя чыстыя,*
*Светлыя,*
*няспынныя.*
*Песні ўжо напісаны.*
*Грошы не атрыманы.*

Барыс БЕЛЯЖЭНКА

## Афарызмы

- ***Язык — мятла, ды сляды не замяла.***
- ***На крадзеным сядзі як на вожыку.***
- ***Крадзены агурок малы.***
- ***Плотам пчол адгарадзіў.***
- ***З дзесяці дурняў і аднаго разумнага не склееш.***
- ***Не на ўсякім вяселлі — бабуля з гармонікам.***
- ***Не ўсякая дарога — на вечарынку.***
- ***Абходным шляхам, ды на баль.***
- ***Сам недарэчы на ўласнай печы.***
- ***П’янаму ў гурбе — пярына.***
- ***Была б мяцеліца, а вандроўнік знойдзецца.***
- ***Знаёмыя кусты, ды ля чужой дарогі.***
- ***Каняжына ў аглоблях, а конік у полі.***
- ***Сам спудзіўся, а іншых палохае.***
- ***Пустая лыжка — для кашы вораг.***
- ***Не шукай каштан пад ялінай.***
- ***Сеяў жыта, а касіў лебяду.***
- ***Не ўсякі кашаль ад прастуды.***
- ***На вецер — зерне, у засекі — мякіну, калі не па розуму людзей цаніць — па чыну.***
- ***Язык развязны — вораг развязаны.***
- ***У свае дзіцячыя гады Вялікі Зман быў маленькім.***

Мікола ШАБОВІЧ

## Кахаць то я ўмею, але...

Я па снезе, што выпаў употай,
да цябе на спатканне іду.
– Ты на снезе кахаць не ўмееш?

**Эдуард АКУЛІН**

***Я музейную кінуў работу,***
***Абавязкаў і спраў чараду***
***І па снезе, што выпаў употай,***
***Да цябе на спатканне іду.***

***Ты стаіш і амаль чырванееш***
***Ад нясціплых пытанняў маіх:***
***– Ты на снезе кахаць не умееш?***
***Ты не супраць, каб мы удваіх?..***

***– Што ты, Едрусь, навошта хавацца!***
***Лепш гайда ў інтэрнат, як тады.***
***Небяспечна на снезе кахацца,***
***Застаюцца на снезе сляды.***


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар
Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ,
Алесь ГАЎРОН — *адказны сакратар,*
Мікола ГІЛЬ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Яўген РАГІН,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19





ТЭЛЕФОНЫ:

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-8462 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |
| Тэл./факс — | 284-7965 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 6.9.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 5161

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12